*Прысвячаю Алене*

# ШЧАСЦЕ

Гадзіну таму Міця Бязручка яшчэ нёс шкло.

Студзеньскія бела-сінія гарадскія краявіды пры кожным кроку выслізвалі з плоскасці шкла. Людзі, хрумсткі снег, паркан, сіняе неба, дрэвы, сцены і самі будынкі змяняліся штохвілінна. Выглядалі, быццам пабачаныя ў імклівым пальцэ,— празрыстыя, плыткія, дваістыя, ясныя і колкія. Калі мужчына прыпыняўся, то і краявід у вялікім шкле застываў, здаваўся намаляваным нямецкім мастаком Ліанэлем Файненгерам. Тым самым, які непахісны Кёльнскі сабор з зорамі маляваў...

Але нёс шкло Міця Бязручка даўно, гадзіну таму.

Цяпер жа ён сядзеў на белым табурэце ў доўгім пакоі кухні на сёмым паверсе інтэрната і глядзеў на сваё адлюстраванне ў вялікім шкле, якое паставіў да сцяны, насупраць. Апрача сябе, падлогі, засланай шэрым лінолеумам, чатырох электрапліт, рукамыйнікаў і белых сталоў, у шкле адлюстроўваліся столь, дзве лямпачкі і палова вялікага неахайнага шэрага вакна. Шэрым, як воблака дыму, яно было таму, што яго зацягваў каламутны цэлафан, прыціснуты, а потым наспех прыбіты да рамы рэйкамі. Цэлафан замяняў выбітае шкло. Пад беланогай табурэткай месцілася чорная торба з рыштункам.

А дзве гадзіны таму Міцю было пагана і жыць не хацелася. Ён прачнуўся. Галава моцна балела, рукі-ногі слухаліся кепска. Ён доўга піў ваду, а потым абыякава глядзеў на пакамечаны пачак, у якім засталося дзве цыгарэты.

Але ёсць на белым свеце добрыя людзі, якія не дадуць памерці. Саракатрохгадовы мужчына стаяў пасярод пакоя, слухаў, як пад горлам тахкае сэрца. Нечакана затрашчаў тэлефон, слухаўка, калі ён браў яе непаслухмянай рукой, паляцела на падлогу. Не пабілася... Яму тэлефанавала Маргарыта і прасіла дапамагчы, прапаноўвала падзарабіць. Адмаўляцца не выпадала. Міця сказаў засмяглым ротам: «Сто пяцьдзясят тысяч, бо я сёння заняты!» Маргарыта не спрачалася, пагадзілася: справа тэрміновая і ёй няма куды падзецца. Міця вырашыў пагаліцца, паглядзеў на свой шэры твар, пакратаў трохдзённую, дзе-нідзе сівую шчэць, пырснуў на вочы вады, патрымаў мокрыя далоні на шчоках, але галіцца перадумаў.

Калі стаяў у дзвярах з торбай на плячы, то патэлефанавала былая жонка. Незадаволена і здзекліва нагадала, што ў малодшай дачкі сёння дзень народзінаў. Ён упэўнена сказаў, што ведае і паабяцаў прыйсці з падарункам. Сказаў і сам здзівіўся, бо толькі цяпер зразумеў, які дзень. Мінулыя панядзелак, аўторак і серада выслізнулі з жыцця, як і не было іх...

Міця адпачыў, аддыхаўся, бо на сёмы паверх давялося ісці, а не ехаць ліфтам. Падняўся і сцягнуў вязаную шапку, паклаў на тое месца, дзе сядзеў, а торбу паставіў побач. Разаслаў на прысунутых сталах суконную коўдру, разгладзіў далонню, падклаў пад адну з ножак кардон, упэўніўся, што сталы не хістаюцца, і акуратна паклаў на коўдру шкло. Яно яшчэ не паспела нагрэцца і прыемна ледзяніла потныя далоні. Дастаў з бакавой кішэні торбы шкларэз, падушачкай указальнага пальца пакратаў ролік. Выкалаціў з пачка апошнюю цыгарэту. Ён меў звычку курыць на самым пачатку працы, але перадумаў і прыладзіў цыгарэту за вуха.

Чвэрць гадзіны адчыняў ваконную раму, бо яе даўно, можа, нават з лета, не адчынялі. Зрабіў гэтую справу і адчуў, што стаміўся. Але і гэтым разам курыць апошнюю цыгарэту

не стаў. Адно ў пальцах пакруціў ды панюхаў. Тройчы, каб не памыліцца, перамераў рулеткай раму і шкло.

Ад вялікай шкліны трэба адрэзаць з аднога боку чатыры сантыметры, а з другога — тры з паловай. Вырашыў пачаць з карацейшага краю і шырэйшага. Яшчэ раз памераў шкло, чыркануў абгрызкам сіняга васковага алоўка і спраўдзіў памеры наноў. Скінуў бушлат, але падумаў і паставіў яго ў кут. Шапку паклаў на каўнер, каб пад рукамі не блыталася. Паслініў вялікі палец і правёў па шкле ад краю да краю. Лінейку замяняла доўгая роўная рэйка. Шкло і метал сустрэліся, паразумеліся. Напачатку захрабусцела шкло, а потым пранізліва запішчаў ролік. На шкліне засталася лінія, белая і роўная, як напятая, але крышку раскудлачаная нітка.

Міця ціхенька ссунуў шкло, так, каб яго край вісеў, і пачаў знізу падстукваць шкларэзам. Урэшце гук змяніўся, па шкле пабегла расколіна — цёмная нітка пад белай. Вузкі, большы за метр кавалак шкла адцяўся, адарваўся, а ўрэшце пераламіўся ў руках. Міця не здзівіўся, хоць і войкнуў ад нечаканасці.

У яго быў добры музычны слых, і ён пачаў спяваць.

Ён любіў спяваць. Ціха, сам сабе. Калі нехта быў побач, то не спяваў. Але цяпер ён сам-насам, за зачыненымі дзвярыма, а таму заспяваў. Мелодыя гучала складаная, адкуль да яго прыйшла, ён і сам не ведаў. Калі б яму сказалі, што гэта музыка Даніцэці (Spirto gentil), то ён бы і не здзівіўся. Няхай сабе і Даніцэці. Песня гучала сумная, светлая, а месцамі тужлівая. Міця спяваў без слоў — гукамі...

Ён развярнуў, каб было зручней рэзаць, шкло. Выцягнуў з рулеткі металічную стужку, паставіў на шкло тры рыскі, рулетка ўцягнула стужку з ледзь бачнымі лічбамі. Цяпер ён не спяваў. Прыціснуў да шкла рэйку і з хуткай асцярожнасцю і ўпэўненасцю прарэзаў шкло. Акуратна падбіў і адарваў вузкі край. Адламіў пласкагубцамі востры кавалачак на самым канцы і зноў нягучна заспяваў.

Тара-рыя-яяяяяяя... Тара-арарыя-рыя-рыя...

Надзеў бушлат, нацягнуў шапку. Узяў з торбы вялікую стамеску з шырокім лязом, малаток, абцугі і падышоў да вакна, зацягнутага тоўстым цэлафанам. Пачаў аддзіраць рэйкі. Халодны цэлафан з шоргатам абсунуўся на падлогу. Міця адпіхнуў яго ўбок, да рукамыйніка, у які з крана з будзённай аднастайнасцю падалі важкія кроплі.

За вакном, як у сціплай раме, зіхацеў бела-сіні сонечны краявід. У краявід уразаліся з трох бакоў вострыя аскепкі шкла. Краявід быў такі яркі, што вочы замружыліся і заслязіліся. Прыватныя дамы з белымі дахамі, цагляныя пяціпавярховікі, дарога, машыны, людзі. Шмат белага і сіняга. Міця паглядзеў на радасны, вясёлы і халодны краявід, але нават і не ўсміхнуўся.

Хутка і асцярожна павыцягваў кавалкі шкла. Баяўся, каб які не выслізнуў з пальцаў і не паляцеў на вуліцу, на тратуар. Адчыніў раму. Цяпер гэта зрабіць было не складана. У доўгім пакоі кухні імгненна зрабілася халодна, як на вуліцы. Міця зашпіліў бушлат. Ён пачаў спяшацца. Працаваў хутка, але акуратна.

Ён не баяўся вышыні. Зусім. Мог хадзіць па даху, мог скідаць снег, ссоўваць дыктавай рыдлёўкай да краю, а потым спіхваць. Мог збіваць ледзяшы, якія махрамі вісяць побач з вадасцёкамі. Яму нават падабалася стаяць побач з небам і глядзець на горад. На маленькіх людзей, машыны, дрэвы. Падабалася, што побач толькі птушкі і снежны пыл.

Калі глядзеў на горад, зноў ціхенька заспяваў. Але гэтым разам ён выводзіў партыю Нормы (Casta diva), урачыстую і лірычную. Спыніўся на высокай ноце. Паставіў табурэтку пад вакно, адчыніў раму і пачаў старанна і абачліва аддзіраць штапік. Дзе-нідзе штапік прыклеіўся, прысох, і праца патрабавала вялікай увагі. Міця ўмеў працаваць. Гэта няпраўда, што прозвішча заўсёды адпавядае чалавеку. Рукі ў Міці ёсць, рукі добрыя, працавітыя.

Калі штапік ляжаў на вузкім падваконні, Міця саскочыў з табурэткі і нажом падчысціў кожную рэйку, абдзёр белую фарбу. Каб была наждачка, то ён не паленаваўся б і прайшоўся ёй па рэйках, але наждачкі ў торбе не знайшлося, а таму давялося пашоркаць лязом нажа. Павыдзіраў з рамы пагнутыя ржавыя цвічкі і высыпаў іх у пластыкавую сметніцу.

Падрыхтаваўся да галоўнага дзеяння. Але курыць і цяпер не стаў. Акуратна падняў са стала шкло. Адлюстраванне пакоя кульнулася, столь упала на падлогу, а падлога ўзляцела. Паднёс шкло да рамы, прыклаў ніжні край, паставіў і павольна падняў. Шкліна стала на падрыхтаванае месца. Прытрымаў далонню цёплае шкло, узяў з падваконня тры цвічкі. Два заціснуў зубамі, а трэці прыклаў да рамы. Не было каму дапамагчы. Вялікую шыбку заўсёды лепей устаўляць, калі нехта трымае шкло... Забіў стамескай адзін цвічок, потым другі. Шкло трымалася. Трэцім прыхапіў шкло зверху. Уздыхнуў з палёгкай. Засталося самае простае і прыемнае.

Прыладзіў штапік з таго боку, дзе не было цвічка і пачаў прыбіваць. Спяваць не выпадала, бо ў роце цвічкі...

Зачыніў вакно. Прыціснуў раму. Павярнуў жалезную ручку, дастаў яе і замкнуў верхні замок. Краявід за шклом знерухомеў, выглядаў, як намаляваны на палатне. Толькі цяпер Міця заўважыў на ўказальным пальцы вялікую кроплю крыві. Ён злізнуў яе, кропля з'явілася зноў. Ён здагадаўся, што зачапіў палец дзюбкай стамескі, калі забіваў перадапошні цвічок.

Маргарыта агледзела вакно, дакранулася да запатнелага шкла. Уніз глядзець саракагадовая жанчына не хацела. Міця ўзяў са стала грошы, акуратна перагнуў тры паперкі, схаваў у кішэню кашулі, зашпіліў гузік. Указальны палец там, дзе драпіна, абгортвала сіняя ізаляцыйная стужка. Такая сіняя, як цені на снезе.

Маргарыта зноў абазвала малахольным паўдуркам таго мужчыну, які тры дні таму прыйшоў у інтэрнат і выкінуўся з сёмага паверха. Міця размову пра самагубцу не падтрымаў. Бландынка з рэдкімі валасамі пайшла. Міця чуў, як цокаюць абцасы ў доўгім інтэрнацкім калідоры. Потым зрабілася ціха. Ён сабраў рыштунак, склаў аскепкі шкла ў пластыкавую сметніцу. Прыставіў да сцяны табурэтку, сеў і закурыў. Яму было добра. Ён адчуваў да незнаёмага мужчыны-самазабойцы ўдзячнасць.

*студзень-люты 2013*

## МАЛАДАЯ БУЛЬБА

Мужчыны — тоўсты і тонкі, маглі сустрэцца ў любым іншым месцы. Нават на іншым кантыненце, у чужой далёкай краіне, у незнаёмым горадзе. Маглі, але сустрэліся на сталічным рынку, на вуліцы, там, дзе прыканцы чэрвеня пачынаюць прадаваць маладую бульбу. Не тую, якую вязуць з Афрыкі,— жоўценькую, чысценькую, роўненькую, а беларускую. Шурпатую, брудную, у выглядзе якой ёсць нешта касмічнае і адначасова такое звыкла адвечнае, што і разважаць пра гэта не хочацца. Ёсць — і ўсё на гэтым.

Маладая бульба ляжала ў рознакаляровых пластыкавых місах і пахла зямлёй, бо была бессаромна бруднай, і гэта ні гандляроў, ні саму бульбу нікольк не бянтэжыла.

Тоўсты глядзеў на бульбу, і худы мужчына глядзеў на бульбу, на ёй і сышліся іх позіркі. Худы выглядаў акуратна, дагледжана, у левай руцэ трымаў парасон. Тоўсты, хоць і быў чыста паголены, але на дагледжанага не ўдаваў. На ім быў шэры стары плашчык з закароткімі рукавамі, адвіслымі кішэнямі, дабітыя чаравікі і абтрапаныя блакітныя джынсы. Здавалася, што шэры плашч тоўсты мужчына апрануў выпадкова. Спяшаўся і схапіў той, што першым трапіўся пад руку.

Раней і тоўсты і тонкі жылі і працавалі ў адным горадзе, але тое было раней. На думку тоўстага — вельмі даўно, у іншым жыцці. Тонкі ж меркаваў, што зусім і не шмат часу прамінула, як яго перавялі на новую і болей адказную працу ў сталіцу.

Але яны пакуль не пабачылі адзін аднаго, не пазналі. Яны глядзелі на маладую бульбу ў рознакаляровых

пластыкавых місах. Ніхто з іх не думаў, што бульба мае нейкі іншы сэнс, апрача першаснага, таго, што яна — смачны, жаданы і звыклы прадукт. Гандлярка з вузкім каталіцкім тварам, цёмнавалосая, абветраная, моўчкі чакала, што скажуць пакупнікі. Тоўсты аблізнуў перасохлы рот. Ён знарок паехаў на рынак, каб вярнуцца ў інтэрнацкі пакой з торбай, у якой будзе бульба. Ён не стане яе шкрабсці, не будзе абіраць. Ён хутка, але старанна памые халоднай вадой. Пашуруе дужымі пальцамі кожную бульбіну, перамацае, быццам пазнаёміцца. Потым выверне ў рондалік, зальe чыстай вадой і паставіць на пліту. Ён будзе стаяць і глядзець. Будзе дыхаць бульбяным духам і слухаць, як булькае кіпень, як бульбінкі падскокваюць, нібы жывыя, і не жадаюць варыцца. Ён надыхаецца бульбянай парай. Ашчадна пасоліць. Джалам нажа, як пчала духмяную кветку, нецярпліва пачне выпрабоўваць, правяраць, ці згатавалася. Пасля паставіць чорную чыгунную патэльню, ліне алею, адцэдзіць бульбу і — на патэльню. Алей пачне пстрыкаць, шкварчэць. Бульба пачне ружавець, а тады з’явіцца на ёй цёмная, дзе-нідзе залатая з чырванню скарыначка... І на стол, пакуль тая скарыначка хрумсткая. Менавіта гэтага моманту тоўсты мужчына ў чужым плашчы і чакаў ажно чатыры гады.

Калі першая частка таго, як лепей прыгатаваць бульбу і ў тоўстага, і ў тонкага супадала, то другая адрознівалася. Не вельмі, але адрознівалася.

Гандлярка пацерла далонь аб далонь. Гэты рух брудных далоняў і сухой зямлі нарадзіў мярзотны гук. Праўда, ён быў амаль не чутны, але ёсць моманты, калі досыць пабачыць, каб пачуць. Пакупнікоў перасмыкнула. Тут яны тарганулісяі паглядзелі адзін на аднаго. Паглядзелі і скамянелі, нават дыхаць перасталі.

Так яны стаялі вечнасць, а доўжылася яна ўсяго толькі секундаў пятнаццаць... Але яна была — вечнасць. Менавіта такім словам і называюць тое, што доўжыцца, доўжыцца і прыціскае, душыць, накрывае, як века труны...

Карацей, мужчыны стаялі бязгучна, але іх калаціла. І маладая бульба ляжала побач у рознакаляровых пластыкавых місах, па тры кэгэ ў кожнай, але, калі папрасіць, то прадавачка (яе твар змяніўся, рот сціснуўся ў крывую рыску) можа і кілаграм узважыць...

...Чатыры гады таму тоўсты працаваў хірургам у абласной дзіцячай бальніцы. У бальніцу прывезлі дзесяцігадовага хлопчыка, які паспрабаваў спыніць кола скутара. Правую руку кола знявечыла, пальцы віселі на кавалках скуры. У хірурга змена скончылася, ён паспеў зняць халат і стаяў босы перад шафай, як перад кабінкай ліфта. У казённы кабінет, дзе пахла лекамі і потам, забег худы. Ён прасіў хірурга дапамагчы, звяртаўся па бацьку, і голас яго трымцеў. Тоўсты хірург лічыўся лепшым у бальніцы, пра гэта ведалі і дактары, і пацыенты. Хірург сказаў худому, спакойна і бессаромна, што сёння ён адстаяў пры стале дзевяць гадзін, што ён ледзь жывы, але ён паспрабуе... Задумаўся і строга дадаў, што каштаваць яго дапамога будзе дзве з паловай тысячы. Ён паспеў агледзець хлопчыка, зірнуў і на здымкі, хоць яго змена і скончылася, а таму ведаў, што яго чакае. Сума ганарару вынікала з даўняга намеру памяняць свой дабіты «Форд» на маладзейшы і лепшы аўтамабіль. Худы нават і не задумаўся, пагадзіўся, бо не ведаў і не меў іншага выйсця.

Ад аперацыйнага стала хірург і ўся брыгада адышлі а палове на трэцюю, калі за вокнамі ярка зіхацелі зоркі. Хірург ледзь трымаўся на нагах, а вочы былі чырвоныя...

За летнія месяцы хірург зрабіў чатыры аперацыі. Склаў, сшыў, сабраў, прасачыў, каб правільна наклалі гіпс. Праз колькі часу разрэзаў, разабраў, склаў і зашыў... Змусіў тонкія бэзавыя дзіцячыя пальцы згінацца, змусіў слухацца і служыць гаспадару. Дактары ў бальніцы казалі, што такое мог зрабіць толькі Бог, які дапамагаў рукам хірурга. Бацькі, калі апошні раз знялі гіпс, пабачылі дзіцячую руку і спалохаліся, але і ўздыхнулі з палёгкай. Дзве з паловай тысячы даляраў былі адкладзеныя на адпачынак. Тонкі

даўно абяцаў жонцы мора. Ён прынёс капэрту ў казённы кабінет. Хірург стаяў перад шафай босы, трымаў у руцэ халат. Узяў грошы і сказаў, што з дзіцем усё будзе добра. Тонкі міргаў і мружыўся, быццам у носе казытала, нават вочы слязіліся. Хірург адчуў небяспеку. У кабінет увайшлі трое ў цывільным і хірурга арыштавалі. Капэрта з грашыма ляжала ў кішэні яго джынсаў. Следства, суд, пяць гадоў. Але трохі пашанцавала. Хірург з жонкай яшчэ раней разышоўся і жыў з асістэнткай. Апрача старога «Форда» і недабудаванага лецішча з пачарнелымі рэбрамі крокваў, нічога не меў. Адседзеў тры гады, дзевяць месяцаў і два тыдні.

Мужчыны стаялі бязгучна. І маладая бульба ляжала побач у рознакаляровых пластыкавых місах, па тры кілаграмы ў кожнай, але, калі папрасіць, то прадавачка з пахмурным тварам можа і кілаграм узважыць, і палову… Але прадавачка адышла ад свайго прылаўка, ад бульбы, бо адчула нядобрае.

Правільна было б, каб тоўсты раптам спытаў тонкага: «Ну, як рука ў твайго хлопчыка?» Літаратурна, магчыма, і правільна, але пытанне не прагучала. Яно засталося вісець, як тая знявечаная дзіцячая рука — цяжкая, не падняць.

Яны не купілі маладой беларускай бульбы. Яны пайшлі ў розныя бакі. Так у космасе бязгучна сыходзяцца раз у мільёны гадоў планеты, каб разляцецца яшчэ на мільёны гадоў… Але ўсё ў руцэ Божай, як і сустрэча гэтых людзей…

*верасень 2011*

## СУСТРЭЧА

А было гэта так — роўна тры гады таму.

Мужчына ішоў праспектам на сустрэчу, да якой заставалася дзевяць хвілін. Прайшоў побач з шэра-шурпатым будынкам вайсковага прызначэння, які стаіць па дыяганалі насупраць цырка. Пабачыў пару афіцэраў, падобных да блізнят. Бліснулі на фуражках кукарды, а па-над імі растапыраныя крылцы. Потым, праваруч, камлямі заснежаных дрэў, рушыў насустрач шэраг калон з капітэлямі... Але на белае лісце будынка прафсаюзаў мужчына толькі зірнуў, не разглядаў, бо не хацеў спазніцца. Пры падземным пераходзе, за якім выпрасталася роўная плошча, яго пераняў высокі мужчына. Ён узнік нечакана, як з-пад зямлі вырас. А можа, стаяў пры сцяне, хаваўся ў цяньку. Незнаёмец павітаўся голасам асцярожным, але гучным. На ім быў старамодны цёмна-сіні гарнітур, светлая, але не белая кашуля, тупаносыя, як абсечаныя, чорныя чаравікі. Так апраналіся сур'ёзныя мужчыны гадоў пяцьдзясят таму. На калашынах адпрасаваных нагавіцаў меліся манжэты, а касцяныя гузікі на пінжаку ішлі густа, у два шэрагі. Незнаёмец — ружоватвары, шэравокі і да таго ж — бязбровы. Высокі лоб і лысіна — у адзін колер. Ён не заступіў дарогу да прыступак у падземны пераход, ён стаяў на другой прыступцы.

Такіх сустрэч у нашым горадзе за дзень здараецца некалькі. То жанчына спыніць, то маладзён прапануе рэкламную ўлётку з абяцаннем добрай працы і заробку ад шасцісот даляраў... І гэты бязбровы, няпэўнага ўзросту чалавек, які павітаўся першым, прапанаваў кнігу. Ён трымаў яе на

далоні, і таму здавалася, што далонь яго прамавугольная, шырокая, як тая кніга на ёй. Вокладка цыратовая, арэхавага колеру. Была грунтоўнасць у зашпіленым на ўсе гузікі незнаёмцу. Ён пачаў тлумачыць, што не патрабуе ўзнагароды, не трэба яму плаціць, што кніга — падарунак. Мелася яшчэ адна дэталь, якая рабіла аблічча бязбровага чалавека завершаным. З кішэнькі пінжака, на грудзях, выглядалі атрамантавыя самапіскі. Вузкія зашчапкі ўчэпіста трымаліся за край кішэні і нагадвалі тонкія жалезныя іклы.

Мужчына, які спяшаўся на сустрэчу, прыпыніўся і нават не падумаў, а згадаў цётку, якую ведаюць ці не ўсе жыхары сталіцы. Тую гучнагалосую цётку, якая спявае побач з Камароўкай і чыгуначным вакзалам свае рэлігійныя песні, на матыў рэвалюцыйных, тую, якую спярша чуеш, а потым бачыш. Побач з якой праходзіш і не ведаеш, ці смяяцца, ці заставацца сур'ёзным. Мінаеш спявачку, чуеш словы, спрабуеш зразумець сэнс, але словы ляцяць, застаюцца за спінаю, пачутымі, але незразумелымі.

Бязбровы патлумачыў, што кніга — Біблія, надрукаваная на англійскай мове. Што ён вырашыў яе аддаць у добрыя рукі, першаму, хто трапіцца на вочы. Ён і яшчэ нешта мармытаў, але хутчэй сабе, трымаў кнігу, глядзеў у вочы і міргаў.

Саракагадовага невысокага мужчыну звалі Барысам. Працаваў ён на заводзе, у канструктарскім бюро, інжынерам. Заробкамі быў незадаволены, а хто і калі заробкамі задаволены? Няма такіх. Жыў Барыс з жонкай, былі дачка-дзевяцікласніца і шэры кот, на пяць гадоў маладзейшы за дачку-школьніцу. Да рэлігіі Барыс, яго жонка і дачка ставіліся са спакойнай абыякавасцю, не пераймаліся. Вядома, што і Барыс, і ягоная жонка хацелі змяніць сваё жыццё да лепшага. Хацелі, але не атрымлівалася.

Барыс задумаўся. Ён даўно меў правіла, думаю, што такія правілы паводзін мае кожны дарослы. Калі да цябе на вуліцы падыходзяць лысыя крышнаіты, загорнутыя ў ружовае палатно, ці маладзёны ў акуратных стройчыках,

пры гальштуках, то лепей не марнаваць час на размовы, не спрачацца, а хутка прайсці, абмінуць. Так ён і рабіў, але тут спыніўся і пачаў глядзець на ўладальніка кнігі ў цупкай вокладцы.

Англійскую мову Барыс ведаў кепска, ці як пішуць у анкетах (чытаў са слоўнікам). Ён узяў з далоні незнаёмца кніжку. Узяў і сам не здзівіўся, а толькі вінавата ўсміхнуўся і падзякаваў. Узяў акуратна, як бярэ кавалак цукру мяккім, цёплым ротам конь, як здымае крошку пінцэтам дзюбы прыручаная маленькая пташка. З кніжкай у руцэ Барыс перайшоў праспект. На другім баку спыніўся, стаў да сцяны з тэатральнымі плакатамі і разгарнуў, паспрабаваў чытаць, хоць літаркі выявіліся занадта дробныя, як у інструкцыях да лекаў. Чытаў, разбіраў, а потым спахапіўся, згадаў пра сустрэчу, на гадзінніку было пяць на сёмую. Заспяшаўся. Кніга ўвайшла ў кішэнь курткі, быццам яны зробленыя адно для аднога.

На вуліцы Карла Маркса, пры століку кавярні, пад сінім парасонам, аднакурсніка не было, але адзін столік заставаўся вольны. Барыс зазірнуў у памяшканне, але і там інстытуцкага таварыша не пабачыў. Ён сеў пры вольным століку і пачаў тэлефанаваць.

Адказам — доўгія гудкі і крыўда, бо Барыс амаль ніколі не спазняўся. І цяпер бы не спазніўся, каб не той ідыёт у цёмна-сінім старым гарнітуры, з непатрэбным падарункам і доўгімі размовамі ні пра што. Калі апускаў у кішэнь мабільнік, то рука слізганула па прахалоднай вокладцы кніжкі. Барыс дастаў яе, каб пакласці ў заплечнік, але не паспеў, бо пачуў сваё прозвішча.

Азірнуўся, павярнуўся, падняўся, бо побач стаяў мужчына ў яркай шаўковай кашулі з кароткімі рукавамі, на патыліцы сіваваты хвост, радасна смяяўся белымі зубамі і падаваў руку. Мужчыну звалі Пётр Алегавіч Кандратовіч, ён выступаў на абароне дыплома. Размова атрымалася хуткай, бо Кандратовіча чакала ў машыне жанчына з кароткімі саламянымі валасамі.

Былы інстытуцкі выкладчык даў Барысу візітоўку. На ёй меліся тэлефонны нумар, імя і прозвішча, надрукаваныя па-англійску. Яшчэ ён сказаў, каб Барыс не знікаў, а заўтра, можна ў любы час, патэлефанаваў і пад'ехаў да яго. Сказаў, што менавіта такі спецыяліст яму тэрмінова патрэбны. Калі Барыс пацікавіўся заробкам, то адказам сталі белазубая ўсмешка і фраза, што гэта — пятае пытанне і пераймацца ім не варта. Шаўковая кашуля мексіканскай расфарбоўкі мільганула ў салоне вялікай чорна-бліскучай машыны, якая займала палову вуліцы, паднялося шкло і затуліла жанчыну і Кандратовіча, як папяросная папера малюнак.

Барыс трымаў у левай руцэ кніжку, у правай — прамавугольнік візітоўкі. Як ён ні стараўся, а зразумець, што і да чаго, не мог. Схаваў кніжку ў кішэнь, замовіў шклянку мінералкі і сеў...

Наступным днём, раніцай, паголены, у гарнітуры, нечым падобны да школьніка старэйшых класаў, прыйшоў да Кандратовіча. За дзве гадзіны выйшаў, купіў у першай жа краме, якая трапілася на шляху, пачак цыгарэт і закурыў. Пакуль дайшоў да аўтобуснага прыпынку, выкурыў яшчэ цыгарэту. На заводзе напісаў заяву на звальненне і толькі пасля гэтага патэлефанаваў жонцы ды паведаміў, што з заўтрашняга дня ён на завод ездзіць не будзе, бо звольніўся. Жонка прыняла навіну моўчкі.

За месяц на банкаўскую картку «прыйшлі» першыя грошы. Барыс з жонкай і дачкой доўга глядзелі на восем лічбаў, лічылі нулі. Першай палічыла дачка. Наступнай — жонка. Барыс упэўніўся, што гэта не памылка, апошнім. Жонка на дзіва моцна сціснула яго руку, ажно пальцы забалелі. Вярнуліся з крамы. Дома была пляшка чырвонага віна, якое весела выпілі, а шэраму кату далі рыбы. Кот задаволена пахрубасцеў тонкімі косткамі, каўкнуў і заскочыў на канапу, а з яе на падваконне.

Над горадам рассыпаліся ў бэзавым небе, як каляровыя кветкі на шаўковай кашулі Кандратовіча, зыркія, запамінальныя мексіканскія агні святочнага феерверку...

Увосень дачка перайшла ў гімназію, да яе тройчы на тыдзень прыходзілі рэпетытары, а двойчы на тыдзень яна ездзіла на плаванне. У жонкі з'явілася некалькі сяброўак, якія за ёй заязджалі сваімі машынамі, а пасля заняткаў фітнесам падвозілі пад самы пад'езд. Барыс на працу спяшаўся, вяртаўся позна, працягваў перамовы праз тэлефон, сядзеў пры камп'ютары, пісаў лісты, размаўляў праз скайп, удакладняў тэрміны, лічбы...

Некалькі разоў да Новага года з'ездзіў у Маскву і Кіеў. Амаль штодня вучыў англійскую мову, прылепліваў да лядоўні паперкі са словамі. Потым пачаў ездзіць да настаўніка. Нават з дачкой калі-нікалі размаўлялі па-англійску, звычайна ў нядзелю, пасля сняданку ці калі сядалі за вячэру. Шырокі мабільнік у вокладцы-футарале заўсёды ляжаў побач, на адлегласці выцягнутай рукі.

За год працы ў Кандратовіча, улетку, Барыс памяняў сваю маленькую бацькоўскую кватэру на вялікую, амаль у цэнтры горада, на ціхай вуліцы побач з оперным тэатрам. Першым у адрамантаваную кватэру пусцілі старога шэрага ката. Ён увайшоў смела, быццам раней жыў тут і ўсё ведае наперад. Заскочыў на шырокае падваконне, лянотна каўкнуў і лёг. Пасля пачалі прывозіць новую мэблю. Жонка і дачка кіравалі рабочымі, паказвалі, што і куды заносіць, пакрыквалі, каб мужчыны асцярожна ўпраўляліся са шклом.

Гаспадар прыехаў увечары, агледзеў усё вакол і сеў на скураную канапу. Мабільнік трымаў у руцэ. Спачывальня з цёмнымі і шчыльнымі шторамі Барысу не спадабалася, але хіба гэта нагода, каб спрачацца? Ёсць і большыя ды цікавейшыя пытанні, якія трэба рыхтаваць і вырашаць. Ён сказаў жонцы, што ўсё нармальна, што яго ўсё задавальняе, а потым паведаміў, што за два дні паляціць у Кітай, а пасля ў Амерыку. Камандзіраванне кароткае, бо ён паляціць з шэфам. Жонка прапанавала завезці яго ў аэрапорт сваёй новай машынаю, але ён сказаў, што паедзе рана, службовай...

За тры гады ад той сустрэчы дачка паехала вучыцца ў Англію. Барыс з жонкай прыканцы лета глядзелі дом за горадам. Аднапавярховы, з чырвоным дахам, вялізнымі вокнамі. Катэдж быў новы, яго тэрмінова прадаваў гаспадар, бо пільна спатрэбіліся грошы. Маленькі сівавалосы рыэлтар вадзіў Барыса па катэджы з мэбляй, дзе нават хатнія пантофлі стаялі пры ўваходных дзвярах, а ў лазенцы віселі цёмна-сінія і белыя ручнікі, на кухні ззяў некарыстаны посуд. Барыс хадзіў з пакоя ў пакой, сам адчыняў дзверы і зазіраў у пустэчу, якая пахла ўсім новым, незнаёмым і чужым. Рыэлтар і жонка спыняліся і чакалі. Барыс глянуў у вялізнае вакно і спытаў, чаму не відаць возера. Драбнатвары гандляр нерухомасцю патлумачыў, што на вадасховішча можна глядзець праз вокны з паўднёвага боку...

Так магло б быць, каб Барыс Раўчакоў тры гады таму, у апошнюю суботу траўня, узяў і спыніўся, калі пабачыў мужчыну ў цёмна-сінім гарнітуры. Але Барыс не спыніўся. З былым аднакурснікам сустрэўся побач з кавярняй, месцаў пад парасонамі не было. Два інжынеры купілі піва і пайшлі ў двор. Селі на лаву, пачалі піць і скардзіцца на сваё жыццё, жонак, дзяцей і бязмозглых старых начальнікаў.

Мужчынам было бесклапотна і добра. Пахла язмінам.

*2013*

## ЗАДАЧА

З пункта «А» ў пункт «Б», да якога сем кіламетраў, за паўгадзіны да апоўначы выйшаў школьны настаўнік фізікі — Сяргей Антонавіч Касецкі... (У гэты час аўтобусы з райцэнтра да санаторыя не хадзілі, апошні з'ехаў роўна тры гадзіны таму).

Настаўнік фізікі бачыў той паўпусты кароценькі аўтобус з купкай сонных пасажыраў. Некаторых, як і вусатага кіроўцу, ён добра ведаў, бо дачка кіроўцы вучылася ў дзявятым класе. Яму падалося, што ў салоне мільганула жанчына ў бэзавым паліто, рыхтык такім, як і ў ягонай жонкі. Настаўнік стаяў перад вакном свайго кабінета, калі той кароткі аўтобус, з жоўтым святлом у салоне, праехаў Школьнай вуліцаю і павярнуў. Святло фар зрабіла бачным бетонны паркан, сінюю калонку на скрыжаванні, камлі таполяў, краму з высокім ганкам, вуліцу, засыпаную шэрым лісцем, якое за пару тыдняў ператварылася ў смецце... Настаўнік збіраўся ісці дамоў і ведаў, што жонка яго чакае, як і вячэра. Новы дом, на тры пад'езды, стаяў на суседняй вуліцы, там і была кватэра.

Сяргей Антонавіч паправіў стосік сшыткаў, падраўняў на стале падручнікі і дапаможнікі, прыбраў у шуфляду алоўкі. Завязаў цёплы шалік, жончын падарунак, апрануў паліто, праверыў, ці на месцы пальчаткі, зірнуў на сваё адлюстраванне ў чорным шкле вялізнага вакна, патушыў святло, зачыніў кабінет. З шапкай у руцэ пайшоў шырокім калідорам да лесвіцы. У адным з класаў дзеці яшчэ стомлена спявалі і смяяліся, хліпаў акардэон.

Касецкі аддаў тэхнічцы ключ, развітаўся. На школьным ганку надзеў шапку. Вуліца сустрэла цемрай і сцюжай.

Дзьмуў вецер, ляцелі светлыя хмары, папярова шамацела сухое лісце, чаплялася за шурпаты асфальт, мігцелі дзенідзе дробныя зоркі, а месяц хаваўся за трохпавярховай школай. Вуліцаю марудна пратарахцеў матацыкл, пакінуў востры бензінавы дух, які хутка знік, падхоплены ветрам. У соннай цішыні пахла мёртвым лісцем, мерзлай зямлёй, бражкай, яблыкамі, сцюжай. Звыклы пах раённага гарадка, які за адзінаццаць гадоў працы тут зрабіўся амаль родным.

Настаўнік падняў каўнер, схаваў рукі ў кішэні паліто і адчуў, як моцна стаміўся. Балела спіна і шыя, але ён ведаў, што за чвэрць гадзіны будзе ў цёплай кватэры, памыецца, павячэрае, паглядзіць тэлевізар, паразмаўляе з жонкай і ляжа спаць. Электронны буднік, падарунак вучняў, ён даўно не заводзіў, бо патрэбы такой не меў, прачынаўся зімой і ўлетку роўна а сёмай. Калі бадзёрым крокам падыходзіў да свайго дома, то звыкла зірнуў на вокны. У яго двухпакаёўцы, на чацвёртым паверсе, не было святла. Талерка спадарожнікавай антэны бялела на балконе і нагадвала поўню. На першым паверсе, на балконе, суседка развешвала бялізну. Яе абрыс за крыху запатнелым шклом рухаўся, аголеныя рукі ўздымаліся. Сын гэтай маладой жанчыны вучыўся ў восьмым класе і перамог на раённай алімпіядзе па фізіцы.

Суседка заўважыла Касецкага, адсунула раму і бадзёрым голасам павіталася. Ад яе аголеных рук і твару ішло цяпло, ператваралася ў пару. Настаўнік адказаў, намацаў у кішэні халодныя ключы і павярнуў у двор. Там, пад голымі маладымі ліпамі, стаяла колькі легкавікоў і машына з будкай, на якой працаваў муж той жанчыны, што развешвала бялізну. У пад'ездзе па-вясковаму пахла варанай бульбай і тытунёвым дымам. Касецкі ўзышоў на чацвёрты паверх, адчыніў дзверы, запаліў святло ў калідоры і сказаў гучна, не настаўніцкім голасам, а іншым — мяккім, інтымным: «А вось і я!» Адказу не пачуў. Распрануўся, скінуў чаравікі, зазірнуў у цёмную кухню. На падваконні цямнелі вазоны з кветкамі. Маленькім зялёным вочкам свяціла з кута вы-

сокая лядоўня. Касецкі памыў рукі і павесіў на плечыкі пінжак. Ён наважыўся патэлефанаваць жонцы, спытаць, дзе яна, калі будзе, пачакаць яе, ці як?

З мабільнікам у руцэ ўвайшоў у гасцёўню. На стале ляжала паперка — старонка са школьнага сшытка. Ён узяў яе і прабег вачыма. Твар Касецкага напачатку наліўся крывёй, а за імгненне спалатнеў так, што зрабіліся бачнымі чатыры радзімкі на левай шчацэ. Ён пяць разоў перачытаў тэкст і адчуў,— галава закружылася, пакой нахіліўся, стол паплыў, узняўся ў паветра, амаль наблізіўся да твару, нават дробныя кветачкі на абрусе паспеў разгледзець. Але і кветачкі, і абрус хутка расплыліся, святло раптам згасла.

Потым Касецкі сядзеў на падлозе і глядзеў на свае рукі, на заручальны пярсцёнак. Паспрабаваў зняць яго з пальца, але, калі не атрымалася, адразу на яго забыўся.

Перачытаў роўныя радкі з маленькімі інтэрваламі і пачаў тэлефанаваць жонцы. Ён не ведаў, што скажа, але вельмі хацеў пачуць яе голас — насмешлівы і ўпэўнены. З мабільніка гучала мелодыя з фільма «Гісторыя кахання», якую ён і паставіў. Некалькі разоў, з падлогі так і не падняўся, праслухаў мелодыю.

...Жонка пяць тыдняў як вярнулася з адпачынку. Тыдзень таму, раптам, звольнілася з працы. Сказала, што болей там працаваць не можа, што надакучыла займацца пенсіянерамі, што стамілася выслухоўваць іхнія скаргі. Дзіўнай яна вярнулася з той Турцыі. Апавядала мала, пераважна пра старую турчанку — маці гаспадара гатэля, якая сядзела ў двары пад зялёным дрэвам і віталася з усімі, хто заходзіў і выходзіў, па некалькі разоў. Нешта ў жонцы змянілася, з'явіліся адчужанасць і запаволенасць, на ўсе пытанні Касецкага яна адказвала жартамі. Дома адключала свой мабільнік, тлумачыла: каму трэба, той і на хатні патэлефануе. У Турцыю Касецкі не паляцеў, бо ў школе пачаліся заняткі.

Успомнілася, як аднойчы ён прахапіўся сярод ночы, жонкі ў спачывальні не было. Ён заспеў яе на кухні. Рыта стаяла і глядзела ў вакно на поўню. На вялікую і залатую.

Поўня вісела над райцэнтрам, побач з комінам старой кацельні. На яго пытанне: «Што здарылася, зноў галава баліць?»,— жонка адно хітнула, а потым дадала, што поўня, як апельсін. Касецкаму поўня нагадвала круглы плафон. Такі вісеў у кабінеце фізікі. Рыта наліла ў шклянку вады з імбрыка і няспешна выпіла. Тады ён адно пашкадаваў яе, параіў не сядзець столькі ў гасцях у Жанны Мікалаеўны. Хацеў абняць, але яна ціхенька адхінулася і пайшла ў спачывальню. Такіх момантаў за апошні месяц было некалькі, але раніцай Рыта ўсміхалася, фарбавалася і спяшалася на працу. Па вечарах, калі заставалася дома, падоўгу і засяроджана маўчала.

Аднойчы, суботняй раніцай, ён пачуў, што жонка спявае, і ўзрадаваўся. Пасля школы, калі вячэраў, то спытаў, пра што яна апошнім часам так засяроджана думае, быццам над нейкай цяжкай задачай. Яна не дала дагаварыць і адказала, што думае пра старую турчанку ў доўгай стракатай сукенцы, якая штодня сядзіць на белым пластыкавым крэсле, у цяньку, пад зялёным апельсінавым дрэвам і адчувае сябе шчаслівай... Адказала так, нібы даўно падрыхтавалася і чакала пытання.

У спачывальні, на століку побач з люстэркам, не было жончыных упрыгожванняў, а ў лазенцы стаяла толькі адна зубная шчотка і ляжаў напалову выціснуты цюбік з пастай. І валізы на колцах, з якой яна ездзіла ў Турцыю, у шафе не было. І дакументы свае яна забрала. У кватэры панавала цішыня.

Але галоўнае — ліст, напісаны з гумарам. Заўжды самае сур’ёзнае, адказнае, неабходнае Рыта гаварыла нібыта жартам. І тут было быццам жартам: «...Без мяне табе будзе лепей: алімпіяды, перамогі, дыпломы і медалі. Ты, Касецкі, не вінаваты, што я такая, а таму, калі можаш, даруй... Сяргей Антонавіч, я ўзяла ў цябе грошы, лічы пазычыла, але абяцаю хутка вярнуць».

Нервова, бо пальцы не слухаліся, пазавязваліся матузкі на чаравіках, потым шалік. Запхаліся ў кішэнь пальчаткі,

насунулася шапка, паліто зашпілілася на ўсе гузікі. Ад дзвярэй ён вярнуўся ў вялікі пакой, узяў у шафе бутэльку гарэлкі, апусціў яе ў глыбокую кішэнь і выйшаў з кватэры. Дзверы зачыніў на два замкі. Першы раз выпіў на лесвічнай пляцоўцы, закруціў бутэльку і хутка пайшоў, амаль пабег. На вуліцы зірнуў на вокны кватэры, пакінуў святло ў спачывальні, але вяртацца не стаў. Суседка стаяла на балконе і курыла. Тая самая, што развешвала бялізну. Яна прасачыла за настаўнікам, пакуль ён не павярнуў на Школьную вуліцу. Тады ўздыхнула і вярнулася ў цёплую і светлую кватэру...

Настаўнік фізікі, якога нечакана кінула жонка, выйшаў з пункта «А» за паўгадзіны да апоўначы. У пункце «Б» жыла жончына сяброўка — Жанна Мікалаеўна. З ёй Рыта лётала ў Турцыю. Магчыма, і цяпер Рыта ў яе, а калі няма, то Жанна зможа патлумачыць, што было ў той Турцыі.

...На фотаздымках, зробленых на курорце, быў горад, крамкі, кавярні, мора, хвалі, камяні, Жанна, загорнутая ў квяцістую хустку, балкон, з якога відаць маяк і сіні-сіні кавалачак мора. Нейкія стракатыя адпачывальнікі, сярод іх зноў Жанна. Трапіўся і мужчына ў белай кашулі з кароткімі рукавамі, які стаяў спінай да камеры. Былі пад шэра-сінім небам рэшткі рымскай крэпасці, паўразбураны амфітэатр і шмат розных вялікіх кветак, у бальшыні — ружы. На пытанне, што гэта за валасаты тып з келіхам у руцэ, жонка ўсміхнулася, а пасля дадала: «Здаецца, адзін з сыноў старой турчанкі, а мо і не». На колькі імгненняў болей, чым на іншыя здымкі, глядзеў на валасатыя рукі і на спіну ў белай кашулі школьны настаўнік. «А дзе сама знакамітая турчанка, нешта не траплялася?» — расчаравана пацікавіўся Касецкі. «Мне было сорамна яе здымаць, баялася, што ёй гэта не спадабаецца. Кіне ў мяне кульбай»,— напаўжартам і з палёгкай, як цяпер згадваў Касецкі, тады патлумачыла жонка.

Той дужы чарнарукі і чорнагаловы турак не выходзіў з галавы. Вакол яго круціліся брыдкія думкі... Касецкаму хацелася ведаць яго імя і прозвішча. Цяпер, тут, на халоднай

дарозе, калі мястэчка засталося за спінаю, калі папераддзе ляжала поле, за якім пачынаўся лес. Касецкі расшпіліў паліто і нёс шапку ў руцэ.

Ён ішоў шашою, бачыў сабаку, які перабег дарогу і шмыгнуў у кусты. Над цёмным лесам ляцелі хмары. Яны былі святлейшыя за неба. Настаўнік калі-нікалі спыняўся, націскаў кнопку свайго мабільніка. Твар на імгненне выхоплівала святло, і потым, за імгненне, пачынала навязліва гучаць знакамітая мелодыя. Пад нагамі хрубасцеў ценькі лёд. Настаўнік спыняўся, рабіў глыток гарэлкі і шыбаваў далей. Пасля поля пачынаўся лес, які сціскаў шашу. Святлела неба і белая паласа пасярод дарогі. Яскравая, свежая, як новая. Вочы Касецкага блішчэлі, але слёзы не цяклі. Ён, настаўнік фізікі, лічы, маліўся. Шаптаў, прасіў дапамогі, прасіў вярнуць яму Рыту. Гаварыў гучна, быццам таму, хто ідзе папераддзе і можа пачуць.

Калі Касецкі прайшоў пяць кіламетраў, то з пункта «А» выехала легкавая машына. Кіраваў мужчына, а побач сядзела жанчына са светлымі валасамі ў кароткім бэзавым паліто. Мужчына і жанчына курылі і размаўлялі, пра пачуцці, якія згаслі, пра шасцігадовую дачку. Размаўлялі спакойна і нават жартавалі. «Цяпер я магу ездзіць на рыбу, калі захачу»,— казаў мужчына. «І скрэбці сваю рыбу будзеш сам, і гатаваць»,— адказвала жанчына.

Машына ўляцела ў лес, дарога падалася вузкай, як тунэль.

«Ты б рэмень накінула»,— папрасіў мужчына. «Нешта ты за мяне пачаў моцна хвалявацца, лепей падай запальнічку»,— нягучна і нервова прамовіла жанчына. «На!» — сказаў мужчына.

Бліскучая запальнічка ляжала на далоні.

Дарога рабіла круты паварот. Кіроўца позна заўважыў знак. Машыну панесла на шашы, крутанула, выкінула на ўзбочыну. Яшчэ б метр — і яна звалілася б у кювет, наляцела б на дрэвы. Рухавік змоўк.

Жанчына ў цішыні пстрыкнула запальнічкай, але прыкурыць не атрымалася, бо цыгарэта выпала.

Касецкі пабачыў машыну, якая стаяла ўпоперак дарогі. Гарэлі фары бліжняга святла, выхоплівалі камлі елак. Ён спыніўся. Працёр вочы. У цьмяна асветленым салоне сядзела яго жонка, а побач вусаты мужчына, нечым падобны да кіроўцы кароткага рэйсавага аўтобуса. Напалову выпітая бутэлька паляцела ў цемру.

Ён пабег да легкавіка. Мужчына насцярожана таптаўся вакол сваёй машыны і аглядаў яе.

З'яўленне расхрыстанага Касецкага, які выскачыў з цемры, напалохала сваёй нечаканасцю болей, чым толькі што перажытае здарэнне.

«Прабачце, калі ласка, прабачце, вы так падобныя да маёй жонкі, да маёй Рыты!» — зусім не настаўніцкім голасам прашаптаў Касецкі, калі зразумеў сваю памылку.

Школьны настаўнік пайшоў вельмі ціха. Яму было няёмка і крыўдна, бо ў светлавалосай жанчыне пазнаў былую вучаніцу. Свяціла над лесам поўня. Яна нагадвала апельсін, але настаўнік фізікі на яе не глядзеў.

Мужчына з жанчынай сядзелі ў машыне сцішаныя, і кожны думаў пра сваё. Рухавік вуркатаў. Мужчына думаў пра тое, што яны дамовіліся жончыным бацькам пакуль не казаць, што разыходзяцца, і пра тое, што цешча пасцеле ім як заўсёды, на канапе, у маленькім пакоі з кветкамі, што гэтай ноччу давядзецца спаць разам. Можа, у апошні раз. Жанчына са светлымі валасамі думала пра школьнага настаўніка фізікі, пра яго спалоханы, пакрыўджаны і расчараваны позірк. Думала пра сваю дачку, якая цяпер спіць...

«Паехалі... Жыццё працягваецца. А рэмень накінь, не жартуй»,— папрасіў мужчына, і машына не кранулася, пакуль жанчына не начапіла рэмень.

Легкавы аўтамабіль будзе ў пункце «А» за дзесяць хвілін. Пешаход будзе ў пункце «Б» за дваццаць.

*лістапад 2014*

# СНАРАД

Вакно белае, чыстае, зімнае і светлае. На шырокім падваконні белы вазон з альясам. Паліцы з кнігамі, за шклом фотаздымкі, дробная пластыка: пташкі, звяркі, рыбкі і компас. Тэлевізар працуе гучна. Так гучна, што і суседзі чуюць галасы актораў, спевы, рэкламу, сабачы брэх, навіны, прагноз надвор'я. Стары пры гэтым тэлегармідары спіць. Сядзіць у сваім вялікім скураным фатэлі і спіць. Рукі пад пледам, выпрастаныя ногі ў кароткіх валёнках абапіраюцца на пяты, круглымі насамі глядзяць у столь. Побач, на часопісным століку, шклянка з вадой, лекі ў яркіх featureнакаліберных бутэлечках і пачках, тэлевізійны пульт і разгорнуты нататнік з роўнымі радкамі. Літары неразборлівыя, дробныя, як шрот. Кавенька адным канцом у вялікую кветку на выцертым кіліме паказвае, а другі пад пледам схаваны.

У шэрых валёнках дзевяностагадовы генерал ходзіць у кватэры трэці год. Можа, гэта толькі здаецца яму, а можа, так і ёсць, што ў доўгіх ваўняных шкарпэтках і абрэзаных валёнках ногі меней мерзнуць, і не так моцна баляць, не падгінаюцца і лепей слухаюцца гаспадара. Скідаць такі абутак зручна і хадзіць зручна, бо не чапляюцца валёнкі за кілімы і парогі.

Як заўсёды, стары не пачуў, як у замку павярнуўся ключ, як грукнулі цяжкія дзверы. Ён прахапіўся з іншай прычыны — халадок скразняку прабег па твары, дадаў зморшчынак на шчоках і пад вачыма. Правая рука вылезла з-пад пледа, намацала кавеньку, сціснула. Кавенька ўдарыла ў падлогу. Не ў кілім, а ў паркет. Пасля яшчэ раз і яшчэ. З доўгага калідора пачуўся гучны голас Насты: «Гэта я, Канс-

танцін Мікалаевіч, не трэба паркет псаваць! Людзей палохаць». Потым жанчына павіталася, сказала, што на вуліцы сцюдзёна, ветрана і гуляць яны сёння не пойдуць, бо можна захварэць. Лепш будзе, калі яна яго памые, але напачатку прыгатуе паесці і збярэ сняданак. У руках Наста трымала торбу з прадуктамі і бутэльку з мінеральнай вадой. Стары глядзеў на сваю сядзелку, якой было пяцьдзясят пяць, яна здавалася яму бессаромна маладой, і радасна міргаў голымі, як у яшчаркі, павекамі. Ён паспеў пагаліцца, зачасаць рэдкія бясколерныя валасы, але на запалых скронях яны тырчэлі і трохі прыгожа кучаравіліся.

Побач з тэлефонам ляжаў тэлевізійны пульт. Генерал узяў яго, нацэліў у экран і колькі разоў цвёрдым, але слабым пальцам ціскануў чырвоную кнопку. Экран згас.

Раз на месяц ён хваляваўся. Самым цяжкім для старога генерала было мыцца. Раней ён любіў ваду, мог доўга плаваць. Аднойчы, на Чорным моры, заплыў так далёка, што перастаў бачыць бераг. Ён бы і яшчэ далей мог плыць, але пamежнікі не далі. Падумалі, што ён вырашыў збегчы па моры ў Турцыю. На палубе катара вайскоўцы на яго сварыліся, а ён адмоўчваўся. Сядзеў, цяжка дыхаў і маўчаў. Ён і сабе не мог патлумачыць, чаму заплыў так далёка, ажно за два кіламетры ад берага. На прыстані лейтэнант і два сяржанты спалохаліся, калі даведаліся, што гэты немалады мужчына, бок і плячо ў шнарах, а на запясці гадзіннік — генерал. Пачалі выбачацца і чырванець... Цяпер, калі б увайшоў у глыбокую ваду, няхай сабе і возера, то вада б не стала яго трымаць. Ён гэта ведаў...

Пасля сняданка сядзелка пераапранулася ў кароткі халат без рукавоў, пачала наліваць ванну.

Яму было няёмка і сорамна, калі Наста дапамагала яму падняць нагу, каб пералез праз борцік ванны, а потым і сеў у духмяную ваду. Сорамна, калі церла рудой вяхоткай яго нямоглае і белае цела, ліла на патыліцу, шыю і спіну цёплую ваду. Яму няёмка, а яна смяецца. Каб гадоў трыццаць назад такое, а лепей сорак, то і ён бы смяяўся, а цяпер

бездапаможна злаваўся на сваю немач. Яна дала яму патрымаць кавалак мыла. Ён хацеў сціснуць, а яно выслізнула з мокрых пальцаў, булькнула ў ваду. Як ні стараўся, а дацягнуцца не мог, сагнуцца не атрымлівалася... Ён знясілена паклаў рукі на борцікі і апусціў галаву. Наста нахілілася, яе гладкая рука ў дробных кропках радзімак, прайшла праз пену, дакранулася да яго калена, мякка адсунула нагу, намацала мыла, слізганула па нерухомым сцягне і з'явілася над ваннай. З яе рукі сыпаліся кроплі.

— Прабач, Наста, слізкае яно, як рыбіна, не ўтрымаў, не падумай чаго...

— Калі і падумаю, то што з таго. Свет хіба перакуліцца? Давайце галаву мыць. Вада не халодная, можа, падцяпліць? Не, дык не, як скажаце. Сёння суп, рыба мяккая, зусім без костак, салата і кампот з вішнямі... Загаварылася тут, а там тэлефон разрываецца. Гэта вашы, відаць,— сказала Наста.

Выцерла рукі і заспяшалася ў вялікі пакой, дзе побач з карычневым старым фатэлем трашчаў на нізкім століку вялікі кнопачны тэлефон.

Ён не чуў ні з кім, ні пра што яна размаўляла. Сядзеў у цёплай вадзе з заплюшчанымі вачыма, і яму было лёгка. Думаў пра жаночыя рукі, грудзі, а найболей пра жывот... Калі Наста з'явілася, калі ўзяла вяхотку, то сказала будзённа, як пра суп, рыбу і кампот з вішнямі, што тэлефанаў нейкі Петах, а можа, Ветах, яна не паспела перапытаць... Гэты чалавек нават не пацікавіўся, як генерал сябе пачувае, а толькі і сказаў, што ўчора памёр палкоўнік Бараневіч, пахаванне адбудзецца заўтра, на Вайсковых могілках...

Стары сядзеў нерухома, як у сумёце, і яму раптам зрабілася халодна ў цёплай вадзе. Так зябка, што ногі пачало круціць.

— Што, харошы быў чалавек гэты Бараневіч? Давайце тую руку, цяпер бок, а ногі потым. Колькі яму гадоў, як вам? Вой, не заўважыла — вада зусім злецілася, трэба падцепліць... І пазногці трэба паабразаць.

Яна яшчэ нешта казала, але ён не прыслухоўваўся...

— Заўтра пойдзем з табой на пахаванне,— важка выдыхнуў стары і, пакуль не апрануўся ў чыстае і сухое, болей не прамовіў і слова, на пытанні не адказваў, як не чуў. Вада заўжды забірала шмат сілаў.

Папалуднавалі. Генерал еў неахвотна, адно, каб Насту не крыўдзіць. Кампот не дапіў. Падняўся, падзякаваў і пайшоў у вялікі пакой. Сеў у свой фатэль і папрасіў, а хутчэй загадаў, каб Наста прынесла з канапы ў кабінеце чамадан. Калі чамадан са скуранымі вугалкамі ляжаў побач з фатэлем на нізкім століку, то стары ўздзеў акуляры і адчыніў яго. Знайшоў чорную вялікую капэрту, выцягнуў пачак папер. Наста памыла посуд, потым пачала выціраць пыл. Стары паглядзеў на яе і папрасіў падысці. Ён паказаў ёй фотаздымак колеру тытуню, з пакамечанымі ражкамі. З картачкі пасміхаўся афіцэр з пляскатым, як блін, тварам і дробнымі зоркамі на пагонах.

— Гэта той самы Бараневіч, я правільна зразумела?

— Той, але тут ён малады.

— Непрыгожы...— прамовіла, аддала здымак і пайшла да пліты.

Потым стары генерал узняўся з фатэля. Наста чула яго дыханне з прысвістам, чула, як грукае кавенька. Чула, як адчыніліся дзверы спачывальні, двойчы пстрыкнуў выключальнік.

Гаспадар паклікаў жанчыну ў спачывальню. Нязвыкла пад высокай столлю гарэла жырандоля на шэсць лямпачак і таршэр побач з акуратна прыбраным ложкам. Стары стаяў перад глыбокай, але не надта высокай шафай, дзверкі нарасхрыст. З шафы пахла нафталінам, адэкалонам і ваксай. Ён дакрануўся левай рукой да каракулевага футра, якое нагадвала вялізны кокан, бо яго абгортвала марля. Побач віселі, а здавалася, што стаяць плячо да пляча, шэрыя шынялі з бліскучымі пагонамі. Наста выцягнула футра, перакінула праз руку. Яна не ведала, што рабіць далей.

— Пакладзі на ложак, разгарні і памерай. Ты павінна добра выглядаць. Там, на паліцы, у кардонцы такі самы

берэт, шэры і цёплы.— Генерал паказаў кавенькай на адну з кардонак на верхняй паліцы, сярод фуражак з бліскучымі брылькамі, побач з сівой папахай.

— А чаму ваша дачка сабе не забрала?

— Я не дазволіў. Што стаіш, надзявай. І берэт мерай.

Стары ішоў у залу да свайго фатэля і гучна, як усе, хто недачувае, казаў: «Паедзем таксоўкаю. Мне трэба яго пабачыць. Машына нас пачакае, а потым вернемся».

Ён не чуў, як Наста выйшла са спачывальні, як увайшла ў пакой.

— Мне няёмка, Канстанцін Мікалаевіч, як у паліклініцы з гардэроба чужое ўзяла... Навошта ўсё гэта? Не, я ў гэтым футры з кватэры не выйду. Будуць пасля казаць, што я вымантачыла адзежу вашай жонкі і хаджу. У мяне ёсць сваё сіняе паліто з капюшонам і цёплы белы берэт, зусім новы.

— Пальчаткі ў цябе ёсць? Чорныя? Выдатна...

— Можна я футра на балкон павешу, каб выпетрыўся гэты пах нафталінавы?

Стары глядзеў на сваю сядзелку, якая павярнулася, паправіла крысо, зашпіліла адзіны бліскучы гузік і зірнула ў шкло кніжнай шафы. Генерала не цікавіла, што скажа Наста. Калі ён вырашыў, то спрачацца з ім бессэнсоўна. Ён бачыў, як яны пад'едуць, як выйдуць з машыны і пойдуць да натоўпу пад чорнымі дрэвамі. Ён ведаў месца, ведаў, што Бараневіча пахаваюць побач з жонкай. Снег. Зямля. Вянкі. Але ён прыйдзе без кветак. Прыйдзе, каб плюнуць на магілу...

Пацягнула скразняком. Гэта Наста вынесла на балкон і павесіла шэрае каракулевае футра...

Генерал адчуў, як па ўсім целе, ад патыліцы да пальцаў на нагах прабег халадок, а потым у жываце зрабілася пуста. Ён паспрабаваў падняцца, каб дайсці да прыбіральні. Падняўся і пайшоў. Запаліў святло ў прыбіральні і застыў, не ставала сілы скрануцца і адняць ад сцяны руку. Падумаў, што трэба паклікаць жанчыну, але голас знік, рот адкрыўся-закрыўся, як у рыбіны... Хіснула на сцяну. Упаў, ударыўся галавой аб вушак...

Наста пачула, як дзверы прыбіральні ляснулі жалезнай ручкай у кафлю сцяны. Звонка, як малатком у шкло. Зрабіла ад пліты тры хуткія крокі. Пабачыла валёнкі, насы ўгару, кавеньку на падлозе...

Дзеці і дзеці дзяцей вырашылі, што час прыйшоў, і ў вялікай генеральскай кватэры з'явіўся чорнабароды святар з чорным партфелікам. Святар яшчэ на лесвічнай пляцоўцы сутыкнуўся з медыкамі, якія з кватэры выходзілі. Медыкі, з разуменнем справы, павіталіся першымі, святар адказаў. Яго чакалі. Ён выцер ногі. Круглатварая жанчына прыняла паліто і павесіла ў шафу. Яна правяла яго доўгім і цёмным калідорам, паказала, дзе памыць рукі і якім ручніком выцерці. Святар паставіў на падлогу партфелік, а калі выйшаў з лазенкі, то Наста правяла яго і адчыніла дзверы ў спачывальню. Святар агледзеўся, акуратна і з павагай адсунуў танометр, паставіў на стол партфелік, расшпіліў, дастаў «Псалтыр», шырокую барвовую стужку, расшытую золатам, срэбны келіх на тонкай ножцы, перахрысціў свой рыштунак і толькі цяпер уважліва паглядзеў на старога, які ляжаў на ложку.

І святар, і дзеці, якія хадзілі ў кватэры,— нехта гатаваў сабе распушчальную каву, браў з серванта распісныя філіжанкі — ведалі, што стары да вечара не дацягне, бо так і медыкі казалі, але і без дактароў можна было беспамылкова прагноз рабіць. Галава забінтаваная. Твар шэры, рэдкія валасы да скроняў прыціснуліся, нос востры, рот уваліўся, рукі жоўтыя, ні крывінкі, і не слухаюцца. Ляжаць на коўдры, як на снезе. Нікога дзед не пазнае, на пытанні не адказвае, вось-вось апошні раз уздыхне.

Голас у святара гучны і шчыльны, як лямец валёнка, і такі самы шэры. Ён паспеў толькі прамовіць: «Раб Божы Канстанцін...» Хацеў далей сваю справу рабіць, але заўважыў, што рукі перавярнуліся дагары далонямі і сціснутыя пальцы, як плаўнікі рыбіны, рух зрабілі. «Бліжэй! Бліжэй!» — папрасіў стары.

Ён глядзеў на святара такім позіркам, што той разгубіўся. Позірк насцярожыў і не спадабаўся, бо адсутнічалі ў ім,

як пакора, так і згасанне. А што было ў вачах, святар не разабраўся, бо часу бракавала, ды і сваіх праблем ставала, каб думаць пра кожнага хворага. Але чорнабароды святар наблізіўся, нахіліўся крыху, галаву павярнуў, вухам да хворага.

— А ты ведаеш, чаму снарад з гарматы семдзесят шостага калібра ляціць далей, чым снарад трыццаць сёмага? — ціха, але разборліва спытаў стары.— Я табе скажу. Хуткасць у іх аднолькавая, чатырыста пяцьдзясят метраў за секунду. Але цяжкі снарад праляціць пяць тысяч семсот метраў, а лёгкі — чатыры тысячы сто метраў... А надалей заляціць снарад з гарматы калібрам сто пяцьдзясят два міліметры. Ён самы цяжкі. Усе лёгкія снарады пападалі...

Святар не зразумеў, навошта яму ведаць пра нейкі снарад. Падумаў, што пачалося перадсмяротнае трызненне, што розум пакідае старога вайскоўца. Але кожнае слова прамаўлялася ўпэўнена, а позірк зрабіўся здзеклівым...

— Раб Божы Канстанцін... — пачаў святар.

— Не трэба!

Праз пяць хвілін святар выйшаў. Генерал не захацеў яго слухаць, ад споведзі адмовіўся. Такое з чорнабародым святаром адбылося ўпершыню, і ён выглядаў разгубленым і пакрыўджаным. Паклікалі, сказалі, каб спяшаўся, бо хворы амаль не размаўляе і сваіх пазнаваць перастаў.

Дачка і сын генерала папрасілі ў святара прабачэння за бацьку, заплацілі за дарэмныя клопаты. Круглатварая жанчына падала паліто, чорны партфелік патрымала, правяла да ліфта.

У кватэры гучна і незадаволена гаманілі дзеці старога і дзеці дзяцей. Два ўнукі, гадоў па сорак, палілі пры балконе і смяяліся. «Добра, што кійком не пабіў, мог жа...» «Каб сілы былі, то пабіў бы, во дае дзед, каб не машынаю, выпіў бы за яго здароўе. Чуў, што твайго шэфа турнулі?»

Наста сядзела на крэсле побач з хворым і пасміхалася. Яна ведала, чаму цяжкі снарад з гарматы калібрам сто пяцьдзясят два міліметры, вагой сорак адзін кілаграм, пры

хуткасці чатырыста пяцьдзясят метраў за секунду заляціць далей, чым снарады меншага калібру і меншай вагі...

— Добра, што памыла, дзякуй,— ціха сказаў генерал і паляпаў рукой па коўдры.— Шкада, пазногці не паспела абрэзаць.

— Адпачывайце, Канстанцін Мікалаевіч...

За прычыненымі белымі дзвярыма тупалі дзеці старога і дзеці дзяцей. Яны размаўлялі гучна, сварыліся, спрачаліся, але ў спачывальню не заходзілі. Наста паднялася і выйшла. Праз паўгадзіны ў вялікай кватэры зрабілася ціха, паўцёмна, у кухні шумела вада, і Наста асцярожна мыла далікатны посуд з нямецкага сервіза. Потым выцерла філіжанкі і расставіла ў серванце. Ціха зазірнула ў спачывальню. Пачула дыханне. Роўнае, аднастайнае, ціхае. Яна прысела на край ложка. Яна не ведала, цешыцца ёй ці расстройвацца, што Канстанцін Мікалаевіч не памёр, што ёй зноў давядзецца даглядаць яго, прыбіраць, гатаваць, слухаць, мераць ціск, сачыць, каб не забываўся піць лекі, нагадваць павячэраць, выводзіць у парк, мыць, як дзіця...

За тры месяцы, у траўні, Наста замывала халоднай вадой свежую бэзавую плямку на рукаве сукенкі сваёй унучкі. Церла белым кавалкам мыла след ад кроплі вішнёвага кампоту. Гладкі кавалак выслізнуў з пальцаў, каўзануўся-крутануўся па рукамыйніку і вылецеў на падлогу... Наста раптам разгубілася, пачырванела. Гарачая хваля абліла ўсё яе цела. Жанчына спалохана села на край ванны, моцна-моцна заціснула каленямі мокрыя рукі і падумала: «Добра, што дачка мяне не бачыць...»

*люты 2013*

## ДАЛЯГЛЯД

У дзяцінстве ў мяне быў выдатны зрок. Такі, што я мог бачыць не толькі лапкі дробных казюрак, але мог разгледзець і кручочкі на тых лапках, крыжы і кружкі на бліскучых і цьмяных крылцах, празрыстыя вусікі — быццам дзівіўся праз павелічальнае шкло. Бачыў і тысячы кропачак-зорак у начным небе, малюсенькіх, мігатлівых. І не таму бачыў, што тады паветра было чыстым, а проста яшчэ не паспеў сапсаваць вочы чытаннем кніжак, маляваннем тонкім, як іголка, пёркам дробненькіх літарак, потым тэлевізарам, камputарам ды іншымі шкоднымі радасцямі. Чаму я пра выдатны зрок, а таму, што прыгадаў вакно на гарышчы чатырохпавярховага, яшчэ да вайны пабудаванага дома. Гарышча пад бляшаным дахам агромністае: чорныя бэлькі, кроквы, слупы, цагляныя коміны, а пад нагамі бясколерны пыл, пілавінне, бруд розны, кавалкі дошак, скрыні, бочкі, дошкі, запэцканыя фарбай і галубамі, якія вуркочуць, лапочуць крыламі і носяцца ў змроку, бы кажаны. У тым доме, амаль на ўскраіне нашага гэпэ (гарадскога пасёлка), я і жыў. Аднойчы зайшоў на гарышча. Агледзеўся, падцягнуў да вакна скрыню, узлез на яе, паглядзеў і збянтэжана войкнуў...

Вялізная панарама раскінулася, расцягнулася, як гумка. Зямля падалася бясконцай, а неба бязмежным. Аблокі плылі кветкамі півоній з белымі і крышку ружовымі пялёсткамі. Прыгледзеўся, і нават падалося, што бачу ў блакіце горад Гомель — там, злева, і, можа, разгледзеў бы яго, каб у вочы не пачало свяціць красавіцкае сонца. Школа і спартовая пляцоўка ляжалі, як на далоні. Хацелася крыкнуць ад радасці, памахаць рукой, хацелася, каб мяне

пабачылі, але стрымаўся. Хлопцы гулялі ў футбол і здаваліся каратка80гімі, маленькімі, хоць і былі старэйшыя за мяне, а вось знаёмы гумовы мячык падаўся вялікім і марудным. Падзівіўся на іржавы школьны дах, на шэрых, як алавяных, галубоў, на цагляныя гаражы побач са школай, на мужчынаў, якія вэжкаліся побач з чорным разабраным матацыклам. На рубероідзе, побач з дзвярыма гаража, паблісквалі розныя жалязякі і нагадвалі яшчэ не памытую мясарэзку. Мужчыны курылі і абмяркоўвалі часткі механізма, нахіляліся, сядалі на кукішкі, выдыхвалі блакітны дым. Потым зірнуў на вокны суседняга дома, рыхтык такога самага, як мой... Але гэта мала цікава і да справы адносінаў не мае.

Калі ж прыўзняўся на дыбачкі, то змог пабачыць, далёка-далёка, на даляглядзе, нават за ім, нешта сіняе. Яно было цямнейшым за блакіт паветра. Яно было тонкім і яскравым, як нітка на вышыванне. Давялося мружыць вочы, узірацца, але чым болей стараўся, тым мацней расплывалася далячынь, а нітка то падвойвалася, то разрывалася, ці наагул прападала і яшчэ больш распальвала маю дзіцячую цікаўнасць.

Што гэта? Наступным дзём, адразу пасля школы, я падаўся на гарышча, але на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага паверха нягучна гаманілі дзве суседкі пра сацінавыя халаты, таму давялося перачакаць, пакуль яны разыдуцца па кватэрах. Хуценька ўзбег, а потым, калі пераступіў парог, то трапіў у гарачую і сухую цемру. Дайшоў да вакна. Узлез на скрыню і пачаў вэжкацца са шпінгалетам, бо нехта зачыніў маё вакно. Урэшце здолеў даць рады старой раме на чатыры каламутныя шкліны. Падзьмула свежым паветрам. На гарышчы захісталіся, заматлялі рукавамі мужчынскія светлыя кашулі, заварушыліся прасціны... Я зноў, быццам бачыў упершыню, узіраўся ў далягляд, дзівіўся на далёкую сінюю нітку. Але сёння яна не была такой яркай, як учора. У твар дзьмуў вецер, даводзілася мружыцца, пацяклі слёзы, але і высахлі хутка.

Што ж гэта такое сіняе? Згадаў, што калі засынаў, то думаў пра далягляд. Потым, у сне, хацеў да яго наблізіцца, а ён заставаўся на месцы, заставаўся ўсё такім самым далёкім і прывабным, загадкавым. Выцер налітыя слязьмі вочы і падумаў, што калі б цяпер мяне заспелі на гарышчы сябры, то пачалі б дражніцца, казаць: «Плакса-вакса гуталін...» Тады ж з'явілася думка, што тое сіняе — мора, але імгненна спахапіўся, адкуль яму тут быць. Я хоць і першакласнік, але не чуў, каб мора было побач. Да яго трэба тры дні ехаць цягнікам ці ляцець самалётам. Можа, гэта рака Сож? Але чаму яна такая роўная-роўная? Сіняе заставалася неразгаданым, незразумелым, прывабным і таемным... У мяне пад лыжачкай пачало смактаць ад трывожнай невядомасці.

І ўвечары, і ноччу, і раніцай я толькі і думаў пра загадкавую сінечу. Не вытрымаў і расказаў Сашку, які вучыўся ў трэцім класе і жыў на другім паверсе ў суседнім пад'ездзе. Мы пайшлі пасля школы на гарышча, залезлі на скрыню, адчынілі вакно, але лінуў шчыльны дождж. Ён вісеў махрамі, праз якія не толькі далягляд не пабачыш, але і школьны дах як след не разгледзіш. Дачакаліся, дождж скончыўся, выбліснула сонца. На даляглядзе з'явілася напятая сіняя нітка, але мой сябра яе не бачыў, як ні ўзіраўся, як ні вырачаў свае лупакі, колькі ні прыціскаў да белых броваў далоні брыльком. Я паказваў у далячынь пальцам, праводзіў у паветры лінію, тлумачыў, адкуль пачынаецца тое сіняе, па-над чым знаходзіцца, падкрэсліваў, якое яно роўнае...

Але ён яе, маёй ніткі, не бачыў. Пацепваў плячыма, крывіўся, нават плюнуў у вакно з вышыні. Саскочыў са скрыні, падумаў і прапанаваў злавіць хоць аднаго голуба, кінуць з даху і паглядзець, як ён паляціць... Вядома, Сашка старэйшы на два гады, болей абазнаны ў жыцці, разумнейшы, вучыцца на пяцёркі і на баяне ўмее граць. Калі ён кажа, што няма сіняй ніткі на даляглядзе, то, можа, і сапраўды яе там няма. Але ж яна ёсць, бачу яе, хоць і расплывіста, але гэта толькі таму, што пасля дажджу паветра мокрае...

Наступным днём, быццам каб праверыць, што Сашка памыляецца, з партфелікам у руцэ я прамінуў сваю лесвічную пляцоўку. Падышоў да дзвярэй на гарышча і пабачыў цяжкі замок. Паторгаў яго халоднае цела з сашчэпленай дужкай. Замок трымаўся мёртва. Давялося занесці партфель у кватэру, сказаць маме, што забыўся ў школе падручнік. Пабег, каб хутчэй трапіць на гарышча праз суседні пад'езд. Там на дзвярах замка не было. Надвор'е стаяла такое празрыстае, што я адразу пабачыў сваю сінюю нітку.

Гэта — лес, а перад ім светлы пясок...

Пра тое, што недзе ў тым баку ёсць сасоннік, я колькі разоў чуў ад дарослых. Але казалі яны пра яго неяк расплывіста, асцярожна, з прыхаваным страхам. Ніхто не расказваў ні пра грыбы-баравікі, якіх нарэзаў у ім, ні пра суніцы з чарніцамі. Калі размова заходзіла пра сасоннік, то яна раптоўна перапынялася, быццам нітка пераразалася. Так кажуць пра нешта забароненае, пра тое, што дзецям не варта і ведаць. Цяпер я той сасоннік бачыў. Сіні лес, а перад ім залацісты пясок. Вось таму і здавалася, што нітка напятая ў паветры, па-над зямлёй.

Першае, пра што падумаў, дык пра могілкі пад тымі соснамі, пра жалезныя крыжы і каменныя помнікі, пра мерцвякоў у шэрых прасцінах, пра косткі, чарапы і пра тое, што там жах і жуда. Але чым больш думаў пра нябожчыкаў, тым больш карцела іх пабачыць.

Праз тыдзень да Сашкі прыехаў з Поўначы родны дзядзька — капітан другога рангу, падводнік. Сашка хваліўся корцікам, падводнай стрэльбай з гарпуном, паказваў фуражку, цяльняшку, скуранку, гадзіннік, компас і нават чаравікі. Галоўнае — паказаў вялікі марскі бінокль. Каб выпрабаваць той бінокль, можна было выйсці на балкон, але я пераканаў, што лепей за ўсё залезці на гарышча. Сашка падумаў, бо баяўся выносіць бінокль з дому, але пагадзіўся.

Сашка даў мне бінокль, абачліва перакінуў праз галаву раменьчык, загадаў трымаць моцна і ні пры якіх абставінах

з рук не выпускаць. На ўсе парады я згодна ківаў, а ён усё гаварыў і гаварыў.

Гарышча. Скрыня. Шпінгалет. Вакно.

Падношу цяжкі бінокль да вачэй, прыціскаю, і свет кідаецца на мяне, навальваецца так, што ледзь са скрыні не падаю... Патроху прызвычаіўся да таго, што далёкае робіцца блізкім і неймаверна вялікім. Прызвычаіўся і да таго, што зямля і неба кідаліся ў бакі, ад самага дробнага руху.

Мяне найперш цікавіла далячынь. Пабачыў сіні сасоннік, пабачыў асобныя дрэвы. Ні крыжоў, ні помнікаў не разгледзеў, прывідаў не заўважыў. Яркая і сіняя нітка таемнага сасонніку — роўная, напятая над светлым пяском, ператварылася ў неахайную стужку размытага брудна сіняга колеру, такога, як на маіх спартыўных штанах. Пачалося вяртанне. Перад сасоннікам пясок з купкамі кустоў... Узаранае цёмна-шэрае поле, зялёны луг, дарогі. Вёскі, сады, палі, вадакачка, вуліца, школьны сад, школьны дах, спартыўная пляцоўка...

На гарышчы з'явілася суседка з тазікам бялізны. Заўважыла нас, насварылася, прагнала. Нават сапраўдны марскі бінокль яе не ўразіў.

Праз два гады я даехаў да сіняга сасонніка роварам. Мяне сустрэлі слупы і густа напяты калючы дрот, які не разгледзіш і праз марскі бінокль. Калі я падышоў бліжэй, калі хацеў дакрануцца да зялёнага слупка, то з'явіўся салдат з карабінам на плячы і загадаў «хутчэй правальваць!». Але я паспеў заўважыць у сасонніку два пагоркі, на іх лакатары, падобныя да шкілетаў крылаў, а крышку далей, схаваныя пад плямістую сетку, цягачы з ракетамі. У мяне тады яшчэ быў выдатны зрок.

*ліпень 2014*

## ЦІМКА І ВАНЬКА

Ванька не думае пра Цімку. Нават, калі чуе яго імя, бачыць жоўта-блакітны дом, цімкавых братоў, маці, чорнага калматага цуцыка на мянушку Калмык, карычневую тэлескапічную вуду, якая даўно не складаецца, а стаіць побач з ганкам, то і тады не думае, бо ведае, што Цімку не вернеш, што ён пайшоў назаўсёды...

Ванька думае пра футбол, пра ўдар з левай нагі, які не атрымліваецца, пра тых, з кім гуляе ў адной камандзе, пра трэнера — настаўніка фізкультуры. Цяпер ён думае пра раку, пра капронавую нітку, пластыкавыя пляшкі на два і паўтара літры, да рыльцаў якіх тая нітка прывязаная, пра жалезныя паваdкі, гачкі-трайнікі і невялікіх карасікаў з чорнымі плаўнікамі і хвастамі, якія падаюцца бруднымі.

Ён прачнуўся і адразу пачаў думаць пра карасікаў, ці не здохлі яны там, ці не плаваюць цяпер пузам дагары побач са шчыльнымі лістамі гарлачыкаў. А вось пра свайго сябра Цімку не думае, бо шмат часу прайшло — зіма доўгая і снежная, вясна нудная з халоднымі дажджамі, і амаль тры вясёлыя летнія месяцы. Ванька добра падрос,ператварыўся ў цыбатага падлетка, старыя красоўкі не лезуць, зрабіліся цеснымі, але і бацькавы балотнікі — рыбацкія гумовыя боты пакуль яшчэ трохі велікаватыя.

З трохлітровага слоіка Ванька налівае халоднае малако ў вялікі кубак. Адкройвае белы хлеб, але перадумвае і адразае лусту чорнага. На слоік свеціць яркае ранішняе сонца, і малако падаецца залацістым, як масла, а там, дзе цень, малако, як першы лёд на рацэ — сіняватае. Ванька п’е халоднае малако з белым хлебам, глядзіць у вакно. Па

двары ходзяць куры і певень, якога неўзабаве, на Ванькаў дзень нараджэння, зарэжуць. У будцы спіць сабака. З вакна бачныя вербы і алешыны, за якімі рака. Далей, на высокім беразе тры хаты, за імі цёмны лес, а над ім кучаравяцца жнівеньскія аблокі.

Ванька ідзе да ракі і грызе яблык, а ў левай руцэ кавалак хлеба. Чырвоная маладая кабыла спяшаецца да хлопчыка, цягне за сабой па траве доўгі ланцуг, ад якога скачуць-пстрыкаюць konікі. Ванька гладзіць кабылу пад грывай, частуе хлебам, выцірае мокрую далонь аб калашыну, адганяе аваднёў, потым і свой недаедзены яблык аддае кабыле. Яблык яна бярэ, але без ахвоты, не так, як падсолены хлеб. Да ракі крокаў дваццаць. Але кабыла пайсці за хлопчыкам не можа, ланцуг нацягваецца, і кабыла б’е ў мяккую зямлю капытом, выгінае шыю, торгаецца. Ванька не азіраецца, бо ні кабыла, ні хуткі даўгадзюбы кулік, ні брудны бусел на пожні яго цяпер не цікавяць. Ён ператварыўся ў зрок і асцярожна падыходзіць да берага нешырокай ракі. Вада цячэ, і водарасці выгінаюцца цяжкімі гірляндамі, дробныя рыбкі мітусяцца над светлым пясочкам, а дакладней, над залатым, бо на яго свеціць ранішняе сонца. З-пад ног, з густой травы, плёхаецца ў раку жаба і торгае лапкамі, плыве над залатым пясочкам і знікае на глыбіні. Там вада здаецца цёмнай, непразрыстай і нерухомай, бо там струмень, там плынь, там глыбака. Рака не вельмі шырокая — палкай перакінеш, але той бераг за зялёнай сцяной трысньягоў.

Ванька стаіць і лыпае шэрымі вачыма, цярэбіць крысо кашулі. Бутэлькі на месцы няма. Ён падыходзіць да вады зусім блізка, але бутэлькі няма. Учора ён пакідаў яе тут, пад самым берагам. Нават паклаў паміж лістамі гарлачыкаў, а карасік адплыў трошкі і пачаў круціцца, але бутэльку сцягнуць ён не здатны, а плыні тут пад самым берагам няма, бо тут зацішак. Можа, бацька забраў, калі прыводзіў на пожню кабылу? Калі заганяў у мяккую вільготную зямлю доўгі жалезны прэнт, да якога прымацаваны ланцуг.

Мінулым летам, такім самым пагодным днём, на гэтым самым месцы Ванька вудзіў рыбу. Спрабаваў злавіць галаўня на кавалак белага хлеба. Ванька вудзіў, а Цімка ляжаў на траве і ціха стагнаў. Яму было кепска, але чым яму мог дапамагчы адзінаццацігадовы Ванька? Цімкавы старэйшы і малодшы брат паехалі па гарэлку, а Цімка застаўся іх чакаць і пакутваць. Ванька шкадаваў Цімку, хоць і не любіў п'яных. «Хадзем, не зловіш ты тут сёння вялікага галаўня. Не твой дзень, Ванька, дзе ж гэтыя падлы? Колькі можна ездзіць? Я куплю табе новую вуду, доўгую, такую, што пад той бераг будзеш закідваць. Вось яшчэ трохі пагуляем і паедзем. Месяцы тры папрацуем, заробім і зноў дамоў. Учора тэлефанаваў наш начальнік, усё пра работу трындзеў, пра добры аб'ект, а пра грошы ні слова...»

Ванька выцягвае вуду, размяклы хлеб падае ў ваду, і яго пачынаюць дзяўбсці дробныя рыбкі.

«А пад зіму прыеду і прывязу табе тэлескоп... Усе галаўні твае, Ванька, будуць. Шкада, што цябе зімой не пускаюць, але, калі я добра папрашу, то бацькі пусцяць. Пойдзеш са мной зімой на возера? — трасе галавой Цімка і адварочваецца ад ракі. А можа, заўтра ў раён пад'едзем і купім табе новую вуду. Так і зробім. Ну калі ж яны вернуцца?» — кажа Цімка і цяжка ўстае.

Ванька ківае. Ён ведае, што калі Цімка паабяцае, то абавязкова зробіць. Абяцаў прывезці плэер — прывёз. Абяцаў новы мабільнік — купіў. Яны ж сябры, яны, калі Цімка цвярозы, то сядзяць на беразе ракі і плотак ловяць, ці з кладкі акунёў цягаюць... А калі дождж, ці няма надвор'я, то пра абы-што размаўляюць, смяюцца, мульцікі па тэлевізары глядзяць і ліманад п'юць.

Наступным днём, пасля поўдня, Ванька сядзеў у машыне, у суседскім легкавіку, на задняй сядушцы. Папераддзе невысокі Валодзька, а побач высокі і шыракаплечы пагалены Цімка. Мужчыны курылі, праз адчыненыя вокны ў салон легкавіка ляцеў гарачы вецер і выдзімаў горкі дым. Цімка лаяўся, ляпаў па назе пашпартам, цяжка ўздыхаў і

апавядаў, як служыў прапаршчыкам пасля войска пад Мінскам. Калі Валодзька трэці раз нагадаў Цімку пра штраф, то той неахвотна перакінуў праз плячо рэмень. Ванька глядзеў на Цімкаву патыліцу, на яго вялікія вушы і слухаў, як мужчыны лянотна размаўляюць пра легкавікі, разважаюць, якая з машынаў лепшая. «Памяняем «расію», закупімся і дамоў паляцім. Загудзім, праўда, Ванька?» — упэўнена казаў Цімка і круціў галавой.

Валодзька спыніў машыну побач з крамай аўтазапчастак, за пяць крокаў ад сіняй калонкі, выцягнуў ключы і сказаў, што хутка вернецца, бо купляць не будзе, адно паглядзіць, колькі тая жалязяка каштуе. Дзверы крамы за Валодзькам зачыніліся. Цімка ўзяў запальнічку, пару разоў пстрыкнуў і пачаў прыкурваць. Потым вырашыў глынуць вады з калонкі, але рэмень не вышчоўкваўся. Ванька хацеў вылезці з машыны следам. Але Цімка раптам знерухомеў, напружыўся, шыя пачырванела, і ён пачаў аб'язджаць, згінацца. Ён ссунуўся наколькі мог, далонямі прыкрыў твар, незапаленая цыгарэта выпала. Да сіняй калонкі ішла дзяўчынка ў рабой сукенцы і белых красоўках. Дзяўчынка ўважліва глядзела на машыну, на калонку. Пераскочыла калюжыну і спынілася побач з калонкай. У пластыкавае чырвонае вядзерца палілася вада. Вядзерца пару разоў хіснулася, вада пералілася праз край. Ванька дзівіўся на бліскучую ваду, якая зіхцела на дарозе, плыла пад колы машыны. Цімка скурчыўся, сцяўся, а калі ў машыну сеў Валодзька, то зашаптаў, каб той хутчэй ехаў адсюль, як мага хутчэй. Валодзька ўставіў ключы, здаў назад і паехаў. Легкавік праехаў побач з дзяўчынкай, якая акуратна несла поўнае вядзерца. Толькі калі машына павярнула на пляцоўку побач з банкам, то Цімка выпрастаўся і пачаў выціраць успатнелы твар.

Потым Цімка пайшоў мяняць грошы, а Валодзька сказаў ціха, быццам сам сабе: «А, мог бы дачцэ цукерак купіць, а то адна толькі гарэлка і гарэлка ў галаве...» Ванька нічога не адказаў. Ён думаў пра тэлескапічную вуду даўжынёй пяць метраў. Яму хацелася, каб яна была лёгкай і зручнай.

Вуду ў той дзень не купілі, бо на дзвярах вісела паперка, што крама сёння працаваць не будзе з тэхнічных прычынаў. Цімка набраў гарэлкі, піва, цыгарэт, але ўсю дарогу маўчаў і курыў, прыпальваў цыгарэту ад цыгарэты. І Валодзька маўчаў, нібыта не было пра што гаварыць, і Ванька маўчаў.

Узімку, за тыдзень пасля Новага года, гадзіне а дзявятай вечара, Цімка засіліўся ў дрывотні. Ён быў цвярозы, збіраўся наступнай раніцай ісці на рыбу, нават Ваньку абяцаў узяць з сабой, калі моцнага марозу не будзе... Потым Ванька ездзіў у раённую бальніцу з бацькам, завозілі ў морг новую адзежу і абутак. Чорныя летнія чаравікі былі ў кардонцы. Ванька чакаў у ярка асветленым калідоры. Стаяў і чакаў, калі выйдзе бацька з-за жалезных дзвярэй. Бацька выйшаў з пустымі рукамі і засяроджаным тварам. Ён пагладзіў Ваньку па валасах і прасачыў, каб сын зашпіліў куртку і надзеў шапку. У машыне ехалі да вёскі моўчкі. За вокнамі — белы свет, машына імчала, але здавалася, што свет стаіць на месцы. Праехалі побач з возерам, на якое Цімка абяцаў узяць Ваньку. Пад далёкім берагам сядзелі нерухомыя рыбакі, як чатыры кропкі.

Ванька раптам пабачыў бутэльку. Яна выторквалася з-пад травы, пабліскавала пукатым донцам пад самым берагам. Узрадаваны сваёй знаходцы, хлопчык палкай пачаў падцягваць бутэльку бліжэй. Ён яшчэ не ўзяў яе ў руку, не дацягнуўся, але заўважыў, што капронавая нітка разматалася і сыходзіць у глыбіню. Схапіў бутэльку і пачаў выбіраць мокрую нітку. Яна ішла лёгка, і рыбак адчуў расчараванне. Праз імгненне нітка слаба тарганулася. Ванькаў позірк збягаў у глыбіню, туды, дзе нітка рабілася нябачнай. Падумаў, што карасік заблытаўся, але нітка тарганулася так моцна і так рэзка, што ледзь не выслізнула з пальцаў. Ванька сутаргава пачаў яе выбіраць далей, спалоханы, але не разгубленьі. Ён цягнуў нітку, а потым, пад самым берагам, вада раптам завіравала так, што лісце гарлачыкаў павыварочвалася, паказала свой непрывабны спод. Ванька пабачыў рыбіну і спалохаўся яе нечаканай велічыні. Праз чвэрць гадзіны

ён здолеў выкінуць шчупака на бераг, на траву. Адцягнуў яго далей ад ракі. Ванька плакаў ад радасці і хацеў дастаць кручок, расціснуць шчупаку сківіцы. Не змог! Так і панёс сваю здабычу. Бутэлька цягнулася следам. Шчупак торгаўся, выгінаўся, біўся аб ногі, але Ванька цягнуў яго. Нават побач з кабылай не прыпыніўся.

Ад ракі было дзве сцежкі. Адна да дома, дзе жыў Ванька, а другая да таго, дзе жыў Цімка. Ногі самі панеслі хлопчыка з вялікім шчупаком да жоўта-блакітнай хаты. Да той, дзе побач з ганкам стаяла тэлескапічная вуда, даўно без катушкі і кручка. Ванька напачатку ішоў, а потым пабег. Ён хацеў быў крыкнуць: «Цімка, Цімка, глядзі!» Але не крыкнуў, не паспеў, бо з агарода выйшла Цімкава маці. Яна несла ў кашы зялёную траву, каб карміць трусоў, а ў левай руцэ касу.

Ванька спыніўся. Рыбіна не торгалася, вісела, як нежывая.

«Ванечка, ты сам злавіў... А божа ж мой, дзетачка!» — сказала Цімкава маці і павярнула ў двор, за хату, туды, дзе побач з дрывотняй былі клеткі з трусамі.

Ванька падаўся да свайго дома. Ён не будзе думаць пра Цімку, не будзе, не будзе.

*травень-кастрычнік 2014*

# ДОМ

*Навела*

Дом стаяў на пагорку, на высокім падмурку і адчуваў сябе кінутым. Ён выстываў на сцюдзёных лістападаўскіх вятрах, перамяшаных з крупкамі сухога снегу, і цешыўся нават мышам, якія грызлі забытую гаспадаром макарону. Бегалі па шкапіку, у маленькім пакойчыку, побач з печчу, сноўдалі па падваконнях і шафах, тачылі шпалеры, папісквалі, саскоквалі са стала на падлогу. Гаспадар так заспяшаўся, і так хутка пачаў збірацца пасля таго, як яму патэлефанавалі, што забыўся параскідаць атруту па пакоях...

Дом пабачыў людзей, якія цёмным і ветраным вечарам узышлі на ганак, але не на высокі, ад вуліцы, асветлены ліхтаром і засыпаны каляным сухім лісцем, а на той, што з двара, і ўзрадаваўся. Гэтых мужчын ён ведаў — мясцовыя п'яніцы, вясёлыя, крыклівыя, гучнагалосыя. Але цяпер насцярожаныя і ціхія. Яны дапамагалі гаспадару чысціць калодзеж. Было тое на самым пачатку жніўня. Мужчыны хвалілі ваду з глыбокага калодзежа, але пілі гарэлку, якой частаваў гаспадар, закурвалі пасля кожнай чаркі, плявалі пад ногі і задаволена рагаталі. Пілі на вуліцы, пад верандай, на шырокім цэментовым ганку і казалі, што грыбоў не будзе, бо сушка, а калі і пойдуць, то толькі ўвосень, прыканцы верасня, а можа, і яшчэ пазней...

Мужчыны пастаялі крыху. Суха, як папера, шумеў дуб, каля рэчкі пагрозліва забрахаў сабака, а калі змоўк, то Сяргей, так звалі ніжэйшага, выцягнуў з кішэні вязку ключоў на алюмініевым дроце і пачаў адмыкаць ніжні замок. З усёй

вязкі толькі два і падышлі, але ў замку не правярнуліся. А вось верхні, яшчэ зусім новы замок, паддаўся хутка. Потым Сяргей ізноў паспрабаваў праварочваць ключ у ніжнім. Мужчыны лаяліся шэптам, на гаспадара, на цемру, на дом, на восень і калупаліся ў замку. Гэта цягнулася доўга. У гасцей была сякера і кароткая чорная кошка — цвікадзёр. Усё адбывалася ў цемры, толькі раз успыхнуў маленькі ліхтарык. Гэта Васіль пасвяціў на пагнуты ключ і прашаптаў: «Не, калі яшчэ раз, то адломіцца і ў замку застанецца!» Лязо сякеры Сяргей увагнаў у шчыліну паміж вушаком і дзвярыма, а Васіль аберуч наваліўся на рыфлёны прэнт кошкі. Дзверы і вушак захрубасцелі і адчыніліся. Ад вушака адкалолася белая трэска, паляцела пад ногі. Мужчыны зайшлі на веранду, падлога ўздыхнула і зарыпела.

Сіні кружок святла, памерам са сподак, спыніўся на дзвярной ручцы, слізгануў па пліце, па вёдрах на падлозе, на імгненне спыніўся на чырвоным балоне і застыў на шчыліне ў замку. Гэта былі старыя, шмат разоў фарбаваныя дзверы ў хату. «І тут два, а ты казаў што адзін!» — прашаптаў Васіль.

Дом, ад гэтых словаў, як прачнуўся, спахапіўся, зніякавеў, спалохаўся, бо зразумеў, што адбываецца, а потым сціснуўся так, што затрашчалі і захрубасцелі бэлькі, дошкі і бярвёны сценаў... Дом зацяўся і сціснуўся, ды так, што зніклі нават вузенькія шчыліны ў падлозе паміж масніцамі.

Сяргей таргануў ручку, наваліўся плячом на слізкія дзверы, але яны нават не варухнуліся — стаялі, быццам былі адным цэлым са сцяной з таўшчэзных бярвёнаў. «Я ж казаў табе, што трэба праз вакно лезці, а ты адамкнем-адамкнем...» — злосна шаптаў Васіль і спрабаваў падабраць ключ.

Стары дом супраціўляўся як мог. Кожнай дошкай, вялікім і малым цвіком, кожнай дзвярной пятлёй, шрубом і гайкай... Рабаўнікі зрабіліся мокрымі ад поту і злоснымі. Стаміліся. Урэшце здолелі раскурочыць і павыломліваць замкі, адчыніць дзверы і пераступіць парог. Васіль ледзь

на нагах трымаўся, а таму адразу сеў на канапу, непаслухмяныя рукі, якія калаціліся, паклаў на калені. Сяргей замітусіўся, пачаў адразу азірацца, хутка свяціць ліхтарыкам, прыкідваць, што трэба браць.

Васіль падняўся з мяккай канапы, сцягнуў са стала цырату і пачаў складаць на яе рэчы: бліскучы тэрмас, белы электрычны чайнік, нават вялікі кіпяцільнік зняў з цвіка. Сяргей прынёс радыёпрыёмнік, ліхтарык, з шуфляды выграб апцугі, шрубоўкі, нажоўку, дрыль. З кухні ўзяў відэльцы, лыжкі, нажы. Са шкапіка забралі бутэльку гарэлкі, а з адчыненай пустой лядоўні старую мясарэзку...

Рабаўнікі станіліся, бо баяліся, прыселі да голага стала. Побач са сталом, паміж вакном і шафай, вісеў прылеплены нябачным скотчам спісаны аркуш паперы. Сяргей адарваў яго. Узяў ліхтарык і пасвяціў. «Што там напісана?» — спытаў Васіль. «Абы-што, мяккае неба, халодную ваду, пра дзядоўнік, і што Радзіма там, дзе магілы сваякоў...» — сказаў Сяргей, плюнуў на паперу і прыляпіў да сцяны.

Дом прыгадаў гаспадара, які сядзеў пры стале, на тым самым месцы, дзе злодзей. Стомлены твар гаспадара, абліты штучным святлом, быў, як у нябожчыка. Але нябожчыкам акуляры кладуць у кішэнь, як і насоўку. Шкельцы блішчэлі, як дзве поўні. І перад грубкай гаспадар сядзеў на нізкім услончыку ў акулярах на засяроджаным твары. Перабіраў паперы і кідаў у агонь. Некаторыя старонкі адкладаў, перачытваў, але потым камечыў і паліў. Так доўжылася некалькі восеньскіх вечароў. У пакоях было суха і цёпла, а вокны зрабіліся мокрыя, спрэс у бліскучых кроплях. І дзве мухі аджыло. Яны пачалі лётаць вакол лямпачкі...

У перадапошні вечар гаспадар і прыляпіў на сцяну, побач са сталом, тую паперчыну... І яшчэ, тым самым познім вечарам гаспадар доўга стаяў і глядзеў на фотаздымкі. Яны былі пад шклом, а шкло тое трымала рама, пафарбаваная ў арэхавы колер. У дзеда гаспадара засталося трохі

фарбы. Каб пафарбаваць вялікую лаву, шкапік побач з печчу, дзверы, то не хопіць, а на раму досыць. Гаспадар, як ніколі раней, доўга разглядаў фотаздымкі, а потым зняў з другой сцяны маленькую рамку, паклаў на стол і пачаў разбіраць, павыцягваў цвічкі, падняў пыльны кардон і дастаў пажаўцелы здымак. На ім быў дзед, які пабудаваў гэты вялікі дом, баба і хлопчык. Дзед і хлопчык стаялі, а баба сядзела на ганку. У адной руцэ нож, у другой яблык. Гэты фотаздымак гаспадар паклаў у нататнік, паміж старонкамі.

«Паглядзі на печы і пад ложкамі, можа, там яго вуды і спінінгі, а я шафу адчыню»,— загадна прашаптаў Сяргей і пачаў заганяць лязо сякеры ў вузкую шчыліну.

Дом напружыўся так моцна і адчайна, што вялікі цвік, на якім трымалася рама з фотаздымкамі, цвік, які забіў яшчэ дзед гаспадара, пачаў ледзь заўважна паварочвацца і згінацца. Вялікая рама са шклом абрынулася на падлогу. Шкло гучна пабілася, разляцелася, фотакарткі рассыпаліся...

Ліхтарык выпаў з Сяргеевай рукі і пакаціўся пад ложак. Васіль прысеў побач з шафай, затуліў галаву рукамі, уцягнуў яе ў плечы.

«Слухай, трэба валіць адсюль. Не падабаецца мне тут. Зловяць, чуеш, Сяргей!» — мармытаў Васіль і зашпільваў гузікі. «Нехта ходзіць, тупае там, не чуеш хіба? Па-над намі спыніўся. Стаіць»,— прашаптаў Сяргей і аберуч падняў сякеру.

Рабаўнікі моцна спалохаліся, вельмі моцна, але трэба знайсці апошняе — вуды і спінінгі, бо бачылі, што на аўтобусны прыпынак гаспадар ішоў толькі з пляцаком...

Калі Сяргей падышоў да шафы і наважыўся зламіць дзверцы, калі прымерыўся і замахнуўся, то... Пад столлю, амаль па-над галовамі, гучна пстрыкнула і загарэлася лямпачка. Ярка. Неверагодна ярка, рыхтык сонца. І ў верандзе загарэлася лямпачка, і над плітой, і ў вялікім пакоі, і над знявечанымі дзвярыма ганка...

* * *

Дом не мог расказаць гаспадару, як супраціўляўся, як бараніўся, як перамог. А каб здолеў, хіба ў такое паверыш?

Раніцай побач з домам стаяла дзве машыны, а ў двары некалькі вяскоўцаў нягучна размаўлялі са следчым, высокім і пахмурным. У доме хадзіў раённы пракурор, немалады, стомлены, засяроджаны. Ён спыніўся над рассцеленай на падлозе цыратай і пачаў вывучаць бязладнасць сабраных рэчаў, быццам абіраў, што ўзяць сабе. Дзверы адчыніліся. Захісталіся фіранкі, паперка, прылепленая да сцяны паляцела на падлогу, пад ногі пракурору.

«Эдуардавіч, дык пісьменнік едзе?» — сказаў следчы. «Заняты нумар».— Адказаў пракурор, пачаў ціскаць кнопкі мабільніка і ўглядацца ў паперку на бруднай падлозе. «Алё, алё… Ты мяне чуеш, Алег, пазнаў. Тут такая справа, твой дом у вёсцы… Што? Не можаш прыехаць… А заўтра? Як гэта… Назаўсёды… Зразумела… І сям'я на ПМЖ… Ну, ты мяне здзівіў… Добра, дзякуй, забяру, у шафе… Яшчэ раз дзякуй, Алег…» — Пракурор схаваў тэлефон у кішэнь расшпіленага паліто, нахіліўся і падняў паперку.

У выстылым доме на верандзе было насыпана мёртвага дубовага лісця. Высокі следчы сядзеў пры стале, а на табурэце сядзела вясковая жанчына ў старамодных акулярах і дыктавала тэлефонныя нумары сваіх трох сыноў, якія на пачатку мінулага тыдня з'ехалі на заробкі ў Піцер. Пракурор пастаяў побач з печчу, паслухаў размову следчага з жанчынай, а потым панёс да сваёй машыны два спінінгі, чорны заплечнік з розным рыбацкім рыштункам і зялёныя гумовікі, лічы яшчэ новыя.

З усяго пачутага сёння вялікі дом, як не намагаўся, а зразумець, што такое ПМЖ — не мог.

*жнівень — лістапад 2012*

# ПАДРАБЯЗНАСЦІ

Голас дачкі гучаў упэўнена. Яна параіла не хвалявацца, бо ведае, што ўсё ў мамы будзе добра, бо яна яшчэ маладая, прывабная жанчына... Нават пацікавілася колерам памады... Вера зірнула на гадзіннік, потым у мяккі паўзмрок сакавіцкага вечара.

...Вера дакладна, з тысячамі падрабязнасцяў, памятала той сонечны кастрычніцкі дзень, тую мінулагоднюю суботу, празрыстую, як вымытае шкло. Чырвоная рыска тэрмометра за вакном кухні паказвала восем градусаў. Вера вырашыла, што менавіта сёння варта разабрацца з кветкамі ў агародчыку, бо далей адкладаць нельга: з панядзелка абяцалі начныя прымаразкі.

Яна старанна абрэзала сухія галінкі, абкапала кожны куст, падграбла. На гэтую працу сышло крыху болей за гадзіну. Стары цэлафан, які яна зняла ўвесну з гэтых, толькі меншых кустоў, выкінула, бо ён амаль увесь падраўся.

Ні ў гаражы, пустым і маўклівым, прапахлым жалезам і гумай, ні ў майстэрні, што месцілася ў сутарэнні, цэлафана не знайшлося. Потым яна згадала. Паднялася драўлянай лесвіцай на гарышча. Жоўтыя прыступкі хрубасцелі, парыпвалі. На іх зусім не сцёрся лак, бо на гарышча ніхто не хадзіў. Лесвіца выдавала абсалютна новай, а парэнчына крышку шурпатай, не адпаліраванай далонямі. Гарышча — адзінае месца ў яе ўпарадкаваным доме, дзе рамонт распачаўся чатыры гады таму, але так і не скончыўся.

Павярнула ключ, адчыніла светлыя сасновыя дзверы, зрабіла крок і спынілася. Пахла дрэвам. Пстрыкнула выключальнікам, тады яшчэ двойчы, але лямпачка не загарэлася.

Вочы прызвычаіліся, і Вера агледзелася. Яна даўно, можа, з год, сюды не заходзіла. Цэлафан ляжаў у доўгай скрыні пад жалезным аднаспальным ложкам. І цяпер яна знайшла важкі пакунак, схоплены скотчам у дыктавай скрыні. Хутка, бо спяшалася, узяла яго пад паху, таропка выйшла і замкнула дзверы. Падумала, што трэба будзе лямпачку замяніць.

Пасля, на вуліцы, увесь час, пакуль давала рады з кветкамі, абгортвала, захутвала, укрывала, абвязвала шпагатам, яе тачыла незнаёмае і трывожнае пачуццё. Не давала супакоіцца і засяродзіцца на прыемнай працы з кветкамі. Яна думала, думала, шукала прычыну раптоўнага хвалявання, але не знаходзіла. Упарадкавала кветкі. Памыла чаравікі, потым рукі, агледзелася. Ёй падалося, што нехта за ёй цікуе, адсочвае кожны рух і нават кожную думку. Выцерла ногі, пакінула гумовікі ў калідорчыку, паклала на іх пальчаткі, якія бязвольна звесілі сінія абалонкі пальцаў.

Адкуль прыйшло хваляванне і трывога, жанчына не ведала. На кухні, на паліцы, у белай вазачцы з сінімі рыскамі, у схованцы, узяла цыгарэту. Вера два гады амаль не курыла. Можа, хіба ў кампаніі, у гасцях, ці калі прыходзілі сяброўкі, дазваляла сабе разняволіцца і падыхаць тытунёвым дымам. Але тут не той выпадак. Тут — нервы. Закурыла. Калі расціснула недапалак і адчыніла вакно, то ў пакоі паглядзелася ў люстэрка. Твар такі белы, што вусны, толькі крышку падфарбаваныя, падаліся чорнымі... Вера ўзяла валідол. Яна заўсёды так рабіла. Села пры стале, паклала побач мабільнік, каб калі што, дзеля ўсяго дзеля... Сядзела, пакусвала вусны, смактала шурпатую, халодную пігулку і насцярожана, засяроджана прыслухоўвалася да свайго арганізма. Сэрца працавала роўна, галава не кружылася, паветра быццам бы ставала...

А потым яна зразумела, здагадалася, што тое, але яна не ведала дакладна, гэта рэч, гук, пах, знаходзіцца там, наверсе.

Яна паднялася і пайшла на гарышча, у вялікі недароблены пакой — слова «мансарда» ёй не падабалася. Механічна

пстрыкнула выключальнікам. Святло не гарэла. Згадала пра лямпачку, згадала, што забылася яе ўзяць. Спакваля вочы прызвычаіліся. Усё, што тут месцілася, стаяла, ляжала і вісела, знаходзілася ў ціхім суладдзі. Тры скруткі рубероіда, дошкі, рэйкі, скрыні, алюмініевы бак, дзве вялізныя бутлі, адна голая, а другая, як апранутая, аплеценая карычневай лазой, пакарабачаныя вёдры, стары рукамыйнік, пакункі паркетных дошчачак, ваконныя рамы пад сцяной, вузкі жалезны ложак з панцырнай сеткай. Пластыкавыя ружовыя начоўкі, поўныя старых газетаў і часопісаў. Усё прыцярушваў мяккі пыл.

З невялікага акенца — на вуліцы яркае сонца — падалі промні. Яркія, хоць чатыры шкліны і здаваліся каламутнымі. Промні падалі на падлогу. На светлыя вузкія габляваныя дошкі, побач з ложкам. У прастакутніку гэтага нерухомага залатога святла стаялі старыя чаравікі. Вялікія, сорак пятага памеру. Жанчына глядзела на гэтыя разбітыя чаравікі, і яе сэрца калацілася. Яна не магла даўмецца, адкуль, як яны тут з'явіліся? Напэўна ж, ведала, што раней іх тут не было, не магло быць? Адкуль? Яна разгарнула і паклала на ложак газету. Села. Яна не адводзіла позірк, не магла адвесці ад гэтых залатых у сонечным святле, цяжкіх будаўнічых чаравікаў. Яны здаваліся несапраўднымі. Выглядалі, як адлітыя з каштоўнага метала... Стаяць і маўчаць... Чаравікі нябожчыка мужа... Сухія каляныя матузкі, на адным з іх вузельчык. Заклёпкі зіхцяць, абцасы збітыя, насы падрапаныя. Чаравікі спрэс у плямах фарбы: белай, цёмназялёнай, рудой і жоўтай. Яна вывучала плямкі фарбы, драпіны, як навуковец — літары невядомай мовы. Намагалася скласці ў знаёмыя словы, але хіба такое можа быць? На кантах прысохла тынкоўка, на правым чаравіку глыбокая драпіна. Так, менавіта на правым — драпіна...

Празрысты і бязважкі пыл курэў у залатых промнях панад ссохлымі карэлымі чаравікамі...

Вера сядзела на мулкай сетцы і баялася паварушыцца. Перад ёй разгортвалася дзея, сэнс быў незразумелы, невыт-

лумачальны, але яна не магла адвесці позірк ад незвычайных і такіх знаёмых чаравікаў. Колькі ўсё гэта доўжылася? Магло праляцець некалькі імгненняў, а магла сысці і цэлая гадзіна.

...Гэта яна ва ўсім вінаватая. Гэта яна сказала мужу, што ёй не падабаецца бэзавы вузел жылаў, гузак, памерам з грэцкі арэх, пад яго каленам на правай назе. Сказала і сказала. Муж знізаў плячыма і адказаў, што ён не пераймаецца, бо нага не баліць, але пухір памацаў. Праз месяц, раніцай, калі ён выйшаў з ваннага пакоя паголены, вільготныя валасы зачасаныя, ніводная кудзерка не тырчыць. Яна паглядзела на яго ногі і зноў нагадала, зноў сказала, што не падабаецца гузак, што ён псуе выгляд. Тым разам муж раззлаваўся. Запэўніў, што такая самая песня была і ў яго-нага бацькі, але пражыў стары восемдзесят чатыры гады, і каб не страўнік, каб не аперацыя, зробленая ў раённай бальніцы, то... Паабяцаў схадзіць у паліклініку да хірурга. Абяцанне выканаў. Прынёс два цюбікі з крэмам і сказаў, што будзе мазаць ногі. Калі ён забываўся, то яна нагадвала. Крэм на конскім каштане трохі дапамог, і варыкозны вузел змяніў колер, пасвятлеў, зменшыўся, страціў акрэсленую пукатасць.

Муж памёр на аперацыйным стале. Дактары запэўнівалі, што аперацыя самая звычайная, і Вера не хвалявалася. Адарваўся тромб. Не было нейкага прыбора, і ўратаваць Мікалая не змаглі.

Ад таго дня прайшло тры гады, пяць месяцаў і сямнаццаць дзён. Ён не дажыў да свайго пяцідзесяціпяцігоддзя сорак восем дзён. Потым яна ўсё гэта падлічыла.

За год пасля пахавання дачка выйшла замуж. Вера аддала дзецям машыну. Дагледжаны мікрааўтобус. Муж ім ездзіў на працу, а ў выходныя і пасля працы на заробкі. Замоваў хапала, ці не ўсе пачалі рамантаваць кватэры і дамы, будавацца, перабудоўвацца. Мяняліся вокны, дзверы, падлогі, дахі... А яе Мікалай быў добрым майстрам. Адказным і не злоўжываў гарэлкай. З ім ахвотна мелі справу. Мікалай

на здароўе не скардзіўся, ну толькі зуб мог забалець ці спіна ад цяжкай і аднастайнай працы... З будоўлі, дзе працаваў майстрам, сыходзіць не збіраўся. Ён паспяваў паўсюль. Свой дом перабудаваў, адрамантаваў. Адзінае, што не паспеў, з гарышча зрабіць мансарду і выкапаць у двары ставок, дзе плавалі б рыбкі і бруіў фантанчык, а яны сядзелі б на верандзе і глядзелі. Ён піў бы з вялікага кубка духмяную гарбату, а Вера каву з маленькай філіжанкі...

За тры дні Вера асцярожна спытала ў дачкі, ці не яна хадзіла, каб нешта ўзяць на гарышча. Дачка, а потым і зяць запэўнілі, што на гарышчы не былі. Вера тлумачыць сваё пытанне не стала. Ключ ад гарышча схавала ў белую вазачку з сінімі рыскамі.

Тады як там апынуліся чаравікі? Вера добра памятала, што выкінула мужаў камбінезон, рукавіцы, камізэльку са шматлікімі кішэнямі і ўвесь стары абутак. Будаўнічыя чаравікі паклала ў чорную торбу, занесла і кінула ў кантэйнер са смеццем. Памятала, як аддала добрую вопратку мужчынам з яго брыгады, а якая горшая, тую бесхацінцам. Яна нічога, што магло нагадваць мужа, не пакінула ў шафах. Гальштукі, і тыя аддала...

У яе жыцці з'явіўся мужчына. Зусім не падобны да Мікалая. З'явіўся ў той час, калі яна прыбрала ўвесь вялікі посуд, на паліцы стаялі толькі маленькія рандэлькі і маленькая патэльня, а на стале кубак і філіжанка. Яе Мікалай любіў паесці, ён быў дужы. Ёй падабалася яго карміць, падабалася яму гатаваць.

І калі яна згадвала Мікалая, то ажно сціскалася ўся ў салодкі і пругкі камяк гарачай плоці.

Мужчына павінен быў хутка прыйсці. Ён працаваў інжынерам на заводзе. Быў невысокі, гаваркі, вясёлы і далікатны. Граў на гітары. Меў кватэру. З жонкай не жыў чатыры гады і два месяцы. Вера падлічыла. Яна двойчы начавала ў ягонай кватэры, на пятым паверсе. Чыстай, добра адрамантаванай. У яго быў вялікі акварыум, у якім тры чырвоныя рыбкі і адна чорная. Цяпер яна рыхтава-

лася да сустрэчы. Нервавалася і злавала. Хадзіла з пакоя ў пакой, цокала абцасамі, цяжка дыхала, быццам паветра не ставала...

Напачатку разрываўся хатні тэлефон. Доўга і настойліва, нават, як падалося, з абурэннем. Потым праз хвіліну голас падаў мабільнік. Яна паглядзела на нумар, хоць і ведала ўсе сем лічбаў. Націснула і прыклала да вуха. Слухала разгублены і незадаволены мужчынскі голас, а тады сказала: «Не трэба да мяне прыходзіць... Не трэба, і ўсё... Ні сёння, ні заўтра, ніколі. Прабач».

Па-святочнаму апранутая, гадоў на дзесяць памаладзелая, ішла на тонкіх абцасах, прытрымлівала шаўковую спадніцу, падымалася светлымі прыступкамі на гарышча. Запаліла святло, села на ложак, на разасланую газету. Рэзка правяла рукой па роце, распэцкала вішнёвую, пад колер валасоў, памаду... Хапанула паветра, паглядзела на тое месца на падлозе, дзе яшчэ ўчора стаялі шэрыя, пакарабачаныя мужавы чаравікі, з калянымі, як з дроту, матузкамі, на адным — вузел... Заплюшчыла вочы і скіравала позірк у суцэльную цемру, у нетры, куды баялася зазіраць, у блытаніну жаночых думак, жаданняў і спадзяванняў. Сказала і ніколькі не здзівілася ні свайму голасу, ні самой прамоўленай думцы: «Чуеш, Бог, а цябе няма!»

*люты-сакавік 2013*

# МАМА

П’яніца нагадваў святога, намаляванага сучасным мастаком. Рэдкая шэрая барада, худая шыя, цёмны, як апечаны паўднёвым сонцам, твар, шэрыя запалыя вочы і цёмныя рукі. Узрост вызначыць дакладна немагчыма. Магло быць і сорак, і шэсцьдзясят магло быць. Насамрэч яму ішоў толькі сорак трэці год. Ён не ведаў, які сёння дзень. Які месяц. І якая гадзіна — значэння не мела. Без розніцы: дзясятая раніцы ці дзясятая вечара. Ён даўно сядзеў на лаве ў парку. Праходзілі побач людзі. На яго глядзелі хутка, а ён на іх глядзеў доўгім позіркам. Калі ішла парачка з півам, то ён цяжка ўздымаўся і прасіў у хлопца цыгарэту. Пры дзяўчыне амаль не адмаўлялі, нават маглі і дзве даць. Брукаванкаю каціла вазок маладая жанчына ў бэзавай сукенцы. Сіні вазок парыпваў і мярзотна папіскваў.— Якая гадзіна? — спытаў цвярозы п’яніца.

— Пятнаццатая дваццаць,— пачулася ў адказ.

— А дзень які?

— Здаецца, серада.

— А месяц?

— Што табе яшчэ трэба! — абурылася маладая жанчына, і вазок зарыпеў, заскакаў брукаванкаю.

Раней гэтая сіняя джынсавая куртка, што на плячах, была яму малая, а цяпер моршчылася на схуднелым целе і выдавала вялікай, як на дзіцёнку, якога бацькі апранулі навырост. І зношаныя джынсы выглядалі чужымі. І толькі старыя разбітыя красоўкі былі да месца.

Такому адмовіш і забудзеш. Нават сумленне не варухнецца ў душы. Пройдзеш і забудзеш назаўсёды. У яго мелася

мабіла. Ёй было гадоў дваццаць. Чорная слухаўка-цагліна, з тоўстым пальцам антэны. Ён знайшоў яе ў скрыні. Знайшоў сёння ўначы, калі шукаў, што яшчэ можна хутка прадаць. Але нікому не прыдалася гэтая дапатопная слухаўка. Ён выцягнуў яе з кішэні і пачаў засяроджана круціць-разглядаць. Дзіўна, але пальцы амаль не калаціліся. Раней, калі да яго прыходзіла пятнаццацігадовая дачка, з такімі самымі шэрымі вачыма, то ён даваў ёй сто даляраў, здаралася, што пяцьдзясят. Потым даваў дваццаць, потым дзесяць. Дачка брала грошы і развітвалася. Яна ні разу не спытала, адкуль тыя грошы... Брала і сыходзіла, нібыта спяшалася па пільных справах. Так толькі свае робяць. А потым дачка перастала заходзіць, бо бацька перастаў даваць грошы. Скончыліся рэчы ў аднапакаёўцы і скончыліся сустрэчы з дачкой.

На працу яго не бралі. Каму трэба работнік алкаголік. Нават тыя, каму ён у свой час дапамагаў, рабілі выгляд, што нічога яму даўно не вінныя і нічым не абавязаныя.

Было колькі жанчын, пасля жонкі, пасля таго, як разышліся, размяняліся, раз’ехаліся. Але што ён мог ім даць? Яны зніклі, як усё ў ягоным жыцці, як рэчы.

Ён глядзеў на сваю мёртвую слухаўку. Ціскануў кнопку. Яна мякка ўвайшла ў корпус і вынырнула. Наступную лічбу націснуў, за ёй яшчэ і яшчэ... Слухаўка нечакана ажыла. Заміргала напачатку чырвонай кропляй, а за імгненне зялёнай.

Андрэй глядзеў на яркую кроплю зялёнага святла. Кропля выдавала зелянейшай за асветленую сонцам траву. Слухаўка шумела. Там былі гукі. Закінутая на антрэсолі, яна аджыла і запрацавала, як дваццаць гадоў таму.

Ён здзіўлена і спалохана прыціснуў яе да вуха. У дынаміку варушылася музыка. Піканне, шоргат, блямканне і звон... А можа, гэта пташкі ў парку ціўкалі і спявалі так салодка? Можа...

— Алё,— Андрэй вымавіў аўтаматычна.

— Алё,— прагучаў у адказ мужчынскі голас.

— Слухаю. Ты хто? — насцярожана і злосна спытаў цвярозы п’яніца і павярнуўся на мулкай лаве.

— А ты што хацеў, чалавек?

— Нічога, проста націснуў і ўсё.

— Проста? Проста і ліст з дрэва не падае і кропля дажджу з неба. Кажы, што трэба, Андрэй.

— Вярні ўсё, як было дваццаць гадоў таму. Ты ж можаш?

У дынаміку пачулася мармытанне, уздых, далёкая музыка, блізкае шыпенне.

А потым запанавала ціша. Такая цвёрдая, як цагліна. Лямпачка згасла і больш не міргала. Слухаўка зрабілася мёртвай і цяжкай, як адлітай з жалеза. Цела нечакана пачало наліваццa жыццём, запаўняць сінюю джынсу курткі. Джынсы са злінялых і пацёртых зрабіліся цёмна-сінімі і цеснымі. А рукавы і калашыны ўсё працягвалі напаўняцца целам. Андрэй адразу згадаў, што куртка адразу, як толькі купіў, выявілася цеснаватай і яе давялося кінуць у шафу. Нават вуліцу ў Варшаве ўспомніў і краму, дзе набыў куртку і джынсы. Успомніў, як гандляр попельна-ружовую сукенку навязліва прапаноўваў. І сукенку Андрэй тым разам купіў, нават глядзець не стаў...

Ён асцярожна падняўся з лавы, а пасля сеў на месца. Прысадамі таропка набліжалася двое маладых мужыкоў. Адзін у плашчы, а другі ў рудой скуранцы. Таго, які ў скуранцы, Андрэй пазнаў. Як не пазнаеш аднакласніка і сябра па справах. З Сяргеем ён і ў Еўропу сто разоў ездзіў, і ў Эміраты, і ў Сібір, а пазней на Далёкі Усход. А другі — зусім незнаёмы, але з выгляду — прыемны.

Андрэй прывітальна ўскінуў дужую руку з тэлефонам. Сяргей павярнуў на бакавую прысаду. Толькі высокі мужчына ў плашчы працягваў ісці да Андрэя. Калі паміж імі засталося тры крокі, то высокі выхапіў з кішэні светлага плашча пісталет і стрэліў. Усё адбылося хутка, амаль імгненна. Свет разляцеўся на кавалкі. Апошняе, што паспеў пабачыць Андрэй,— светлы плашч незнаёмца і яркую зеляніну вясновага лісця.

Незнаёмец нахіліўся, паглядзеў у вочы і пабег.

Гэта рамантычны фінал. Быць такога не магло. Жыццё назад не адкручваецца, хоць ты трэсні... Але свет сапраўды паплыў, а потым разляцеўся і рассыпаўся. Андрэй пачырванеў, твар наліўся крывёй. Ён ускінуў цёмныя рукі і паваліўся на лаву. Некалькі парачак прайшло побач. І жанчына з вазком праехала-адвярнулася, акулярамі цёмнымі бліснула. «Хуткую» выклікаў сантэхнік, які ішоў рамантаваць фантан з голымі дзеўкамі. Ён паставіў на лаву цяжкую скрыню з муфтамі, гайкамі, ключамі, абцугамі і другой патрэбнай трасцай. Набраў нумар на сваім тэлефоне і закурыў.

— Прыедуць, зробяць укол, адпусціць... І мне бывае кепска, пакуль не вып'ю раніцай. Так пагана, што і жыць не хачу. Ніхто мне, мужык, за фантан плаціць не будзе. Я гэта ведаю. Але я пайду і зраблю... Няхай пырскае.

Потым сантэхнік пабачыў вялікую слухаўку старога мабільніка з чорным пальцам антэны. Агледзеўся, нахіліўся. Падняў з-пад лавы і схаваў у кішэнь. Падумаў крыху і перахаваў у жалезную скрыню, дзе прыкрыў жмутом рудой кудзелі.

«Хуткая» з'явілася з той бакавой прысады, куды ўцёк забойца. Андрэй яшчэ дыхаў, калі яго паклалі на насілы. Ён нават вочы расплюшчыў і прашаптаў: «Ма-ма...»

*красавік 2013*

# КУРАГА

Як жа яго звалі? Кулімбек, Казбек, Кулінбег, Ку...

Толькі першы гук і захавала памяць. Хлопец стаяў асобна ад усіх нас, пад жалезным слупом, падобным да шыбеніцы. На тым слупе гарэў адзін ліхтар. Дзень, светла, а слязіна ліхтара ззяе. Халодна, а яна цёплая.

Вакол гаманілі, шапталіся, лаяліся, тупалі, паварочваліся направа-налева, сварыліся, маўчалі, спрачаліся, а ён заставаўся сам-насам. Яго касаватыя вочы, пад тонкімі чорнымі бровамі, глядзелі, цёмныя зрэнкі рухаліся, а ён стаяў, быццам і не разумеў, ні дзе ён, ні навошта ён тут? На ім быў прыкметны ўсходні халат... Нават вельмі прыкметны, але не фальклёрны, а сапраўдны, добра-такі паношаны. Кудлатую шапку хлопец трымаў у руках. Праз плячо торба, пашытая са стракатага кіліма. Пальцы тонкія і доўгія, як у музыкі, але цёмныя, перабіралі кудзеркі аўчыны. Яго рукі і твар я разгледзеў потым. А вакол гудзе рой маладых хлопцаў. У паліто, куртках, ватоўках, плашчах. З пляцакамі, сідарамі, торбамі, валізамі, нават з авоськамі некаторыя...

Маёры хадзілі нетаропка, лейтэнанты рухаліся подбегам з паперамі ў руках, за імі мажныя расхрыстаныя прапаршчыкі з сяржантамі. Бачыў трох палкоўнікаў у шэрых папахах, яны праходзілі ціха, важка, адсутна і абыякава, зашпіленыя на ўсе гузікі. Паперадзе адразу расступаліся і сцішваліся, ніякавелі. Там, дзе прайшлі начальнікі, на некаторы час, заставаліся прагалы, як просекі, як завулкі. Гучалі назвы гарадоў: Ліпецк, Арол, Калуга, Тамань, Мінск, Саратаў, Масква, Чарнігаў, Кіеў, Чарнаўцы, Магілёў... Гэта толькі тыя, якія найчасцей чуліся.

Колькі нас было? Тысячы тры дакладна. Купкамі, зграйкамі, натоўпамі, парамі, кампаніямі, як вялікімі, так і малымі, шчыльнымі шыхтамі, чэргамі.

А гэты хлопец у доўгім цёплым халаце стаяў пад жалезным слупом адзін. Рускі снег, калі аціхаў вільготны вецер, лянотна падаў. Сняжынкі апускаліся павольна і абыякава. Вялікія і халодныя. Ён глядзеў на іх каштанавымі вачыма, назіраў, як яны растаюць на руках. Задзіраў галаву на тонкай шыі, узіраўся ў маскоўскае нізкае неба. Снег вакол стаптаны, брудны, лужыны. Ні травы, ні кустоў, ні дрэваў. Вакол вышэзныя белыя парканы, якія абгароджваюць тэрыторыю зборнага пункта. Пара доўгіх аднапавярховых будынкаў і адзін, на два паверхі, з зялёным фарбаваным дахам і высокім ганкам. Была яшчэ і нізкая доўгая прыбіральня, побач з якой чарга-натоўп. У высокім бетонным паркане дзве жалезныя брамы з бляшанымі зоркамі, а побач з імі — аўтобусы і цяжкавікі вайсковага колеру. Машын меней, чым аўтобусаў.

Адсюль прызыўнікоў павінны развезці па «вучэбках», і па тых месцах, дзе мы будзем праходзіць карантын. Свайго афіцэра, які са мной доўга размаўляў у Мінску, я бачыў, але ён на мяне не глянуў. Прайшоў таропка побач, не прыпыніўся. Праз паўгадзіны зноў прайшоў. Можа, ён зусім на мяне забыўся? Можа, трэба нагадаць яму пра сваё існаванне? А калі мяне разам з усімі павязуць куды далёка? Мо ў той самы Афган? Ад гэтых думак рабілася млосна, але абыякавасць і стома перамагалі, бо пасля цяжкай ночы ў гарачым вагоне, дзе шмат пілі, курылі, сварыліся і нават ледзь не пабіліся, было кепска...

Я не ўмею чакаць спакойна. Заўжды хвалююся, нервуюся, перажываю... І тады не ўмеў, і цяпер не навучыўся. А гэты хлопец у цёплым халаце стаяў спакойна, быццам тое, што адбывалася, яго зусім не тычылася. Стаяў так, нібы ў кожны момант мог сабрацца і пайсці да шырока разяўленай брамы, апынуцца там, у цывільным жыцці. Сесці на цягнік ці на самалёт і паляцець дамоў. Ён не разумеў, што войска нас праглынула, што самахоць адсюль не выйдзеш.

А жалезная брама працягвае зяваць. Аўтобусы заязджаюць, прывозяць і прывозяць будучых салдацікаў... Войска паглынае нас, як тыя крошкі...

Хлопец пад слупом нагадваў скульптуру Буды, высечаную з каштоўнага дрэва, а потым старанна адпаліраваную. Яго ўсходні твар тонкі, арэхавага колеру, шыракаскулы, дасканала прамаляваны, а на вуснах загадкавая ўсмешка.

Ад сполаху, стомы і разгубленасці мне захацелася есці. А хутчэй за ўсё апетыт з'явіўся ад выпітай мінулым днём і ноччу гарэлкі. У кішэнях ватоўкі знайшоў толькі цыгарэты і запалкі. Калі сабраўся прыкурыць, то зірнуў на хлопца. Нашы позіркі сустрэліся. Я падышоў да яго. Падаў яму пачак. Ён узяў цыгарэту і хітнуў. Нават не хітнуў, а схіліў паголеную галаву і некалькі імгненняў так і стаяў. Я сказаў, як мяне завуць, ён назваў сваё імя. Кулімбек, Казбек, Кулінбег, Ку... Пакурылі. Па-руску ён размаўляў так кепска, што я мала чаго мог зразумець. Магчыма, ён хацеў мяне аддзячыць, а можа, здагадаўся, што я хачу есці. Дастаў з торбы круглы, падобны да вялікага бліна, хлеб. Разарваў яго напалам. Падаў мне. Потым выцягнуў з торбы курагу. Залаты, ружова-жоўты камяк пладоў. Ад яе выгляду ў роце з'явілася сліна. Курага была смачная, салодкая з прыемнай кіслінкай. Зубы вязлі...

Кусаў пругкі прэсны хлеб з курагой, жаваў, глытаў і глядзеў на свайго дабрадзея. І ён еў з той самай незразумелай усмешкай. Але даесці я не паспеў. Зямляк, з якім пазнаёміўся ў Мінскім ваенкамаце, незадаволеным голасам паклікаў. Я схаваў рэшткі ежы ў кішэнь ватоўкі і таропка падаўся да сваіх. Там два прапаршчыкі, адзін з паперамі, а другі рукі ў кішэнях, хадзілі і аглядалі беларускіх прызыўнікоў. У маладзейшага прапаршчыка бліскаў, калі ён выкрыкваў чарговае прозвішча, жалезны зуб. Тыя, чыё прозвішча прагучала, адыходзілі ў бок. Мяне не назвалі. Потым, без развітання, маўкліва і хутка, адабраныя пайшлі за прапаршчыкам да брамы, да машын. І неяк адразу тыя, што засталіся, згубілі да іх цікаўнасць.

Другі прапаршчык, нізкі і круглатвары, дастаў з-за пазухі паперку, паглядзеў на нас і першым прачытаў маё прозвішча. Я зрабіў крок. Ён доўга дзівіўся на мяне, а пасля перапытаў, ці насамрэч я мастак. Загадаў стаць побач з ім і пачаў выкрыкваць іншыя прозвішчы. Удакладняць — хто сантэхнік, паркетчык, зваршчык, слесар, муляр, кравец, кухар...

Раптам пачуўся крык. Я азірнуўся. Там, пад слупом, падобным да шыбеніцы, на якім гарэў ліхтар, нешта адбывалася. Колькі чалавек круцілася вакол майго знаёмага ў халаце, а ён курчыўся пад слупом. Наш прапаршчык спакойна працягваў чытаць прозвішчы, а пад слупом хутка збіраўся цёмны натоўп. Тады нехта гучна крыкнуў: «Доктара, гэй... Чурка памірае! Атруціўся!» І далей нягучна, але спалохана: «Хутчэй! Доктара!»

Прапаршчык некалькі разоў перапытаў, хто — кінамеханік? Сказаў, што павінен быць, бо прозвішча ў спісе ёсць, а чалавека няма... Загадаў стаяць на месцы, а сам пайшоў да будынка пад зялёным дахам. У мяне пачало круціць жывот. У рот пабегла салодкая вязкая сліна, якая ледзь пракаўтнулася... Захацелася прысесці, перагнуцца, але я адно прыціснуў да жывата далоні, пахістаўся ды колькі разоў папляваў пад ногі.

Да слупа бег расхрыстаны, у белым халаце, доктар. Ён быў без шапкі, малады. У мяне так круціла жывот, што я ледзь трымаўся на нагах. Потым сагнуўся, прысеў на кукішкі. Калі боль трохі суняўся, то і я падаўся да слупа. Хлопец у цёплым халаце ляжаў на спіне, а доктар навальваўся на яго, ціскаў сашчэпленымі рукамі яму на грудзі і выгукваў: «Р-аа-з! Р-аа-з!» З'явіліся санітары з раскладзенымі брызентавымі насілкамі. Потым яго паклалі і панеслі подбегам да аднапавярховага будынка, а доктар пайшоў следам, рукі ў кішэнях халата, у роце незапаленая цыгарэта...

Тут зноў нехта сказаў, што чурка глынуў атруту і яму кірдык. Што ён не хацеў служыць у войску, а таму і скончыў жыццё самагубствам. Хто гэта прашаптаў — не памятаю,

бо мяне абліло халодным потам. Я падумаў, што ён і мяне атруціў сваім блінам з кіслай курагой і хутка мяне панясуць на брызентавых насілках. Сняжынкі будуць падаць, падаць, падаць... Але жывот балець перастаў, зусім. І есці не хацелася.

У Кулінбека, ці як там яго, спынілася сэрца. Так сказаў прапаршчык, калі мы таропка грузіліся ў кароткі аўтобус.

Не памятаю, як ехалі праз Маскву ў брыгаду, бо ў цяпле задрамаў. У сутарэннях, побач з лазняй, загадалі распрануцца, скласці адзежу пад сцяну, на доўгую лаву і падпісаць свае прозвішчы і адрасы, куды і каму яе адсылаць. Я сваю не падпісваў. Калі забіраў з кішэні ватоўкі цыгарэты і запалкі, то пальцы датыкнуліся да кавалка хлеба і да ліпкай курагі. Я акуратна паклаў цяжкую старую ватоўку на лаву.

Пасля войска колькі гадоў не мог есці курагу. Нават, калі бачыў яе, то мне рабілася млосна. Цяпер ем, і мне смачна...

*люты-сакавік 2014*

# АЛЬБОМ

## Кро...

Бывае, гадзінамі спрабую заснуць і не магу. Намагаюся зразумець паходжанне гукаў... Гляджу ў столь, прыслухоўваюся. Што гэта можа быць? Так падае кропля ў шклянку. Тонкае шкло трымціць, шклянка выдыхвае гук. І за імгненне наступная кропля бомкае ў шклянку, потым яшчэ тры. Даўно перастаў заходзіць у кухню, лазенку, прыбіральню, бо ведаю, што гэты гук нараджаецца не там. Ведаю, што гэта не за вакном снег ды лёд растаюць, а потым прасочваюцца і падаюць на карніз ці ваконнае шкло. Думаў, магчыма, дробны жучок-шашаль грызе мэблю, падлогу... Думаў, што гэта гадзіннік за сцяной. Спыняў усе гадзіннікі, а гук працягваў нерваваць, потым палохаць. Ведаю паходжанне ўсіх начных гукаў.

Усіх, апрача падзення пяці кропляў на донца шклянкі.

Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры...

Дзве кро...

Даўно, увосень 1979 года, у Верхнім горадзе, у двухпавярховым доме, з якога выселілі жыхароў, а дом збіраліся разбурыць, я знайшоў люстэрка ў цяжкай дубовай раме. Шкло пабітае, калі ў яго глядзеўся, то не ставала часткі: то твару, то постаці, то неба... Рама лакаваная — вішнёвая, дакранацца да яе прыемна. Шкло выбіў на вуліцы кавалкам чырвонай цэглы. Праз тую раму глядзеў на занядбаны квартал, царкву і кляштар, на раку, дом.

Нёс раму і думаў пра тое, а што я намалюю...

У тым доме мяне спалохаў стары, які размаўляў, як мне падалося, па-нямецку. Ён звяртаўся да Фімы. Потым патлумачыў, што Фіма — яго родны брат... І ў тым доме я пачуў ідыш, на якой размаўляў той стары са сваім братам...

Горад, дом, старога габрэя ў чорным плашчы, з малатком у левай руцэ і чорным чамаданам у правай. Той кепска паголены стары расказаў пра гаспадароў люстэрка, прыгадаў, дзе яно вісела ў Вяржбіцкіх. Хто глядзеўся і хто перад ім галіўся ды прычэсваўся.

Я маляваў краявід. Маляваў дом. Маляваў габрэя з малатком і валізай.

Потым намаляваў свой партрэт з ружовай кветкай і перафарбаваў вішнёвую раму ў чорны колер. Дакранацца да яе і цяпер прыемна. На тым партрэце я — падлетак.

Але праз маю выяву прасвечваецца горад, габрэй, дом, неба. І калі гляджу на палатно, то бачу пабітае люстэрка з павутой расколін. Невялікага трыкутнага кавалка шкла і цяпер не стае. Дзіўна...

## І ты, Брут!

Раніца. У краме, у аддзеле бакалеі, побач з прылаўкам, цётка ў памаранцавым адзенні. Пры яе нагах круціцца кудлаты цуцык. Цётка штурхае яго нагой, скідае капюшон, узіраецца ў недалёкі шэраг featurerознакаліберных пляшак і кажа: «Дай-ка мне, Марына, адзін брут! Галава баліць...»,— падае банкаўскую картку. Прадавачка задуменна ставіць пляшку шампанскага. Цётка спрактыкавана набірае код, хавае бутэльку з бліскучым коркам у маленькую торбу, картку — у кішэнь, спахопліваецца і просіць аднаразовы кубачак. Посуд атрымлівае задарма, як бонус.

Разам з цуцыкам і брутам выходзіць з крамы.

## Балкон

Нехта скажа «гаўбец», а я скажу «балкон»... Доўгі і шырокі балкон мастацкай вучэльні імя Глебава. На тым балконе атынкаваны шурпаты парапет. Балкон трымаецца на белых калонах. На яго можна было патрапіць праз дзверы спартовай залы. Увосень і ўзімку ў зале гулялі ў валейбол, баскетбол, бегалі, скакалі. Увесну вялікую залу дзялілі перагародкамі, якія мацавалі цвікамі да падлогі. Дзялілі на закуты-майстэрні, у якіх дыпломнікі пісалі свае карціны. Тагачасная зала нагадвала сённяшнія офісы...

Мы выходзілі на балкон пакурыць, падыхаць паветрам, выпіць віна, зноў пакурыць. Паразмаўляць з гасцямі і выкладнікамі, зноў выпіць. Праўда, пілі, калі цямнела, бо меркавалі, што жывапіс можна рабіць толькі пры сапраўдным сонечным святле... Смешна...

У мяне быў фотаздымак. Невялікі, чорна-белы. На ім балкон мастацкай вучэльні. На балконе — мае сябры-таварышы. І я стаю між імі, гляджу на фатографа. На тым здымку нас дзевяцёра: Генка Чэх, Сашка Лось, Жанка, Галя, Агафон, Адамчык, Лідка Лазар, Марынка Фурман і я... Не ўсе, на жаль. Фатограф стаяў на вуліцы, перад будынкам, здымаў знізу.

А таму мы маленькія, а вучэльня нагадвае карабель, балкон — борт яго, а мы — пасажыраў, якія развітваюцца з берагам...

Карабель вярнуўся. Будынак стаіць на тым самым месцы, але балкон пусты, маіх сяброў-таварышаў, як хваляй, змыла.

## Празрыстасць

Плячыстая пляшка з кароткай шыяй, са шкляным прыцёртым коркам, поўная празрыстай вадкасці. Я падняў яе і глянуў праз шкло і вадкасць на сябра. Мне хацелася яснасці, а яму хацелася сысці ад адказаў на мае непрамоўленыя пытанні. Вось таму мы і пілі неразведзены спірт, які

студзіў скуру, калі кропля трапляла на далонь, апякаў язык, а рот рабіў сухім... Мы пілі той спірт з тонкіх медыцынскіх шклянак з чырвонымі рыскамі. Налівалі па семдзесят пяць грамаў, як на адзін глыток.

За вакном сінела студзеньскае паветра, а на тэрмометры за шклом тонкая чырвоная рыска стаяла на мінус дваццаці. Да майго дня народзінаў заставалася два дні.

Свет здаваўся празрыстым.

Доктар наліваўся ружовасцю, а на яго белым халаце пачыналі з'яўляцца рэзкія цені. Сябе я не бачыў...

## Жо...

Сапраўдны мастак павінен быць галодны. Так думаў я на першым курсе мастацкай вучэльні. Менавіта гэтая думка саграvала пусты страўнік і змушала рухацца хутчэй па паўцёмных вуліцах ранішняга вясновага Мінска. Я прыехаў у вучэльню першым выстылым тралейбусам нумар два. Пабудзіў старую заспаную вахцёрку ў накінутай на плечы шэрай хустцы. Яна незадаволена выцягнула з дзвярэй адламаную ножку табурэткі. «Зноў ты тут!» — прагучала мне ў спіну, як лаянка. Потым я атрымаў ключ ад майстэрні. Сядзеў і маляваў антычную капітэль. Стараўся. Апрача шоргату алоўка і гарачага патрэсквання калярыфераў, іншых гукаў не было. Цішыня, папера, аловак і запэцканая графітным брудам капітэль. Мне было добра.

Раптам я пачуў крокі вахцёркі, яе неразборлівыя словы і цяжкія крокі. Дзверы майстэрні адчыніліся і ўвайшоў Жорка. Ён прыехаў з чыгуначнага вакзала, а пад пахай трымаў кардонную тэчку, з якой вытыркаліся няроўныя краі паперы. Жорка меў прозвішча Шчасны, такое самае, як у мастачкі. Напачатку я думаў, што ён сваяк той мастачкі, таму яго і прынялі ў вучэльню. Але Жорка не быў яе сваяком. Ён прывёз семдзесят накідаў, зробленых уначы на вакзале.

Каб у яго асадцы не скончыўся атрамант, то накідаў было б яшчэ болей. Жорка расклаў малюнкі на падлозе і сеў

на табурэт. Вочы чырвоныя, рукі ў атрамантных плямах, валасы прыліплі да ілба. Ён выцягнуў з кішэні пінжака два сухары з чорнымі барадаўкамі разынак і большы даў мне.

Жорка маляваў лепш за ўсіх у нашай групе. Цёткі, дзядзькі, дзеці, сабачкі і клункі з розным рыззём атрымліваліся ў яго жывымі і смешнымі. Трафім Ігнаценка, які выкладаў малюнак, Шчаснага асцярожна хваліў за працавітасць і колькасць, а некаторыя накіды ставіў нам у прыклад. Я так хутка маляваць не ўмеў.

Жорка — першы, каго выгналі з нашай групы. Выгналі за двойкі з каламі па тых навуках, якія да малявання калі і мелі дачыненне, то далёкае. Жорка быў ідыётам. У простай дыктоўцы мог зрабіць сто памылак, а нескладанае пытанне па фізіцы змушала яго абліваацца потам так, што кашуля рабілася цёмнай.

Жорка сваёй рудой шчэццю, ён быў на два гады старэйшы за мяне, нагадваў некаторыя аўтапартрэты Ван Гога. Можа, яшчэ і позіркам каламутных вачэй — зацятым, упартым, адсутным... Ён вельмі хацеў стаць мастаком. Можа, болей, чым хто з нашай групы. Упэўнены, што ён пагадзіўся б адсекчы сабе левую руку, каб толькі гэта дапамагло здейсніць мару.

Выпадкова высветлілася, што яркі жывапіс Жоркі — усяго толькі вынік яго дальтанізму. Зялёныя яблыкі хлопец маляваў ружовымі, а бэзавую тканіну яскрава-зялёнай, як купарос на старой бронзе. Яго карцінкі пераліваліся, ззялі і зіхцелі, а я з захапленнем глядзеў, як ён водзіць пэндзлікам, і зайздросціў.

Жора закахаўся ў Светку Цыбіну і сказаў, што калі яна не пойдзе за яго, то ён яе заб’е. Светка спалохалася і пагадзілася. Іхняе жыццё ператварылася ў суцэльную пакуту. Светка кідалася на Жорку з гарачым прасам, а ён, тым самым прасам, хацеў знявечыць ёй твар. Светка кінула Жорку, зноў выйшла замуж за няўдалага мастака, а потым за негра і з’ехала ў Кенію. Пра вясёлае сямейнае жыццё Жоркі апавядала мне Танька Смірнова, тагачасная сяброўка Светкі.

Здаецца, Жорка скончыў вучэльню, але нашы шляхі болей не перасякаліся.

Дарма кажуць, што Мінск маленькі.

Каб мы сустрэліся цяпер, то, мусіць, я паціснуў бы шырокую далонь былога аднакурсніка, паглядзеў у бясколерныя вочы і падзякаваў за руды сухар з чорнымі барадаўкамі разынак. Пра мастацтва размаўляць бы не стаў.

## Мінскі альбом

П’яная жанчына ў расшпіленай куртцы з капюшонам, з дзіцёнкам на руках, які плача, двойчы спатыкнулася і ўзышла на мост. Вечар. Цёмна. Вада трымціць рознакаляровымі адлюстраваннямі «Журавінкі». Жанчыну хістае, але ідзе. Яна ўскудлачаня, з цыгарэтай у роце. Спынілася. Стаіць побач з парэнчамі, па-над ракой, глядзіць, напачатку ўгару, потым на ваду. Дзіцёнак перастае румзаць. Робіцца ціха. Вельмі ціха. Вусцішна. Жанчына выплёўвае недапалак.

Я стаю каля моста праз Свіслач, побач з парапетам, і камечу пальчаткі. Дзіцёнак ікае, ускрыквае і пачынае плакаць. Жанчына сыходзіць.

Мне хочацца закурыць. Так моцна хочацца закурыць, што ні пра што іншае не магу думаць.

## Паліто

Быў у майстэрні мастака. Даўно не бачыліся, шмат размаўлялі. Пілі гарбату са шкляных тонкіх кубкаў. Мастак паказваў карціны. Рамы на палотнах з гадамі робяцца ўсё лепшыя і лепшыя, а творы горшыя і горшыя. Мяне гэта назіранне напалохала, я вынес яго з майстэрні.

Згадаў кароткае драпавае паліто на ваціне, якое вісела пры дзвярах, на цвіку, у інтэрнацкім пакоі, па вуліцы Сурганава, на другім паверсе... Гэта было ў васьмідзясятым годзе.

Цяпер у майстэрні, на плечыках, вісіць скураное паліто з каўняром з выдры. Пад ім новыя цёплыя чорныя чаравікі, як жукі...

## Геній

Толік з'яўляецца ў горадзе ўвосень, нечакана. Апрануты не па надвор'і, занадта лёгка. Заўсёды ў адным і тым самым шэрым, некалі фарсістым, а цяпер зношаным, пінжаку з жалезнымі гузікамі. Толіку не бывае халодна. Ёсць два месцы ў Мінску, дзе мы сустракаемся, але не вітаемся. Першае — побач з вайсковымі могілкамі, а другое — побач з кінатэатрам «Мір».

Бачу, як ён ідзе ўздоўж чорнай агароджы могілак. Правая рука ў кішэні, а ў левай — тэчка. Толік можа спыніцца, стаць побач з жалезнымі прутамі і пачаць маляваць. Будзе ехаць доўгі трамвай вуліцаю Даўгабродскай. Будуць спяшацца людзі, бо пачынаецца дождж, будуць выдзірацца з рук парасоны, а ён будзе маляваць. І ніводная кропля дажджу не ўпадзе на шэрую паперу, на рукі мастака...

Ён шмат разоў спрабаваў паступіць у тэатральна-мастацкі інстытут, але яго не бралі, не бралі, не бралі...

А яшчэ, гэта побач з кінатэатрам «Мір», Толік можа доўга стаяць і глядзець на будынак. Бо менавіта для фасада кінатэатра ён цэлы год рабіў доўгае пано. Маляваў з такой упартасцю, што засынаў апрануты і ляжаў, як нябожчык, а ягоны пінжак вісеў на спінцы крэсла. І яно нагадвала чалавека побач з ложкам хворага. Вакол насыпана паперак, як лісця пад дрэвам. Гэта вялікія і зусім дробныя малюнкі, ёсць пакамечаныя і падраныя...

Аднойчы, ветраным лістападаўскім днём, побач з кінатэатрам, яго тэчка выслізнула з азяблых рук, раскрылася — малюнкі паляцелі, закруціліся па вуліцы... Толік стаяў і глядзеў, потым пачаў збіраць. І тады яго ледзь не збіла машына, бо ён не чуў і не бачыў яе... Так і не сабраў усе, выхапленыя ветрам эскізы і накіды, а пабег адтуль, нават не азірнуўся, бо яму было сорамна.

У 1973—1974 навучальным годзе я жыў з Толікам у адным пакоі, на чацвёртым паверсе інтэрната архітэктурнабудаўнічага тэхнікума. Я — першакурснік, ён — дыпломнік.

Не ведаю, ці жывы мастак Толік Вераб'ёў?

## Дзве вежы

Я стаяў ва ўсім старым: ватоўка, чаравікі, нагавіцы, швэдар, рудая зімовая шапка.

І пляцак на маім плячы вісеў стары, брудны. А лістападаўскі вецер дзьмуў халодны, ледзяны. Шчокі, вушы і рукі — мерзлі, вочы слязіліся, але я глядзеў на шэра-вохрыстыя вежы сабора.

Побач са мной стаялі дзве сотні хлопцаў. Нехта глядзеў у неба, хмарыстае і шэрае, нехта — пад ногі... А я глядзеў на знявечаныя вежы, дах, хмары і птушак. Глядзеў, быццам бачу іх упершыню. Мы стаялі ў двары гарадскога ваенкамата і чакалі. Чатыры разы ўсім загадвалі выйсці ў двор і стаць у шыхт. (Сёння на месцы ваенкамата — музей Савіцкага.)

Юрка Чваркоў, мы з ім стаялі плячо да пляча, калі дазволілі разысціся, пацягнуў мяне ў прыбіральню, такую брудную, што няма дзе нагу паставіць. І там мы пілі гарэлку. З рыльца. Я прыціскаў да зубоў рыльца пляшкі і глытаў халодную гарэлку.

Але ні цяплей, ні весялей ад яе не рабілася.

Праз паўгадзіны мы зноў пілі. Рыльца чарговай пляшкі білася аб зубы. Потым зноў пілі. А потым, калі стаялі ў двары і два афіцэры ў доўгіх шынялях спрабавалі ў які раз пералічыць нас, мне зрабілася цёпла. Над знявечанымі касцёльнымі вежамі плыў карабель. Вялікі, жалезны, шэры... І сцягі markнакаляровыя на тым караблі, і гарматы... І вялізныя вінты лянотна круціліся, перамешвалі хмары, вецер і стары горад.

Гэта быў 1983 год. Мяне забіралі ў войска. Было змрочна і шэра. Раніцай, на Беларускім вакзале, у Маскве, я зграбаў снег з нейкіх скрыняў, побач з паштовым вагонам, і еў яго. Многія грызлі халодныя белыя камякі.

Я спалохана шукаў у небе карабель і вежы, задзіраў галаву, а на твар ляцеў халодны снег.

## Натуршчыца 1978

Сюжэта ў гэтай гісторыі няма.

У жанчыны быў выразны твар. Яна пазіравала два сеансы. Усяго двойчы яна сядзела на крэсле, глядзела, куды ж яна глядзела? Пра гэта я здагадаўся потым. Яна пасміхалася сваім думкам. Рукі, рукавы кофты закасаныя, трымала на каленях. З усёй групы толькі я і Валодзька Мохаў малявалі яе. На трэці і чацвёрты дзень натуршчыца на заняткі не з’явілася. Драбнатвары мужчына, які загадваў натуршчыкамі, даў ейны адрас, бо каб ведаў тэлефон, сам бы ўсё высветліў.

Мы з Мохавым паехалі даведацца, чаму яна перастала прыходзіць. Натуршчыца жыла на Камсамольскай, у дварах. Той двор мы адшукалі хутка. Вокны пачыналіся адразу ад зямлі. На падваконнях кветкі ў вялізных, абгорнутых для прыгажосці шпалерамі, кансароўках. Бялізна сушыцца. Кастрычнік, але цёплы, а можа, мне гэта здаецца, бо спяшаліся і нам зрабілася горача... Падняліся на другі паверх драўлянымі сходамі. Дом здаваўся пустым і пахла дзіўна, па-вясковаму. Пагрукалі ў дзверы, пачакалі, пагрукалі яшчэ. Валодзя пацепнуў плячыма і сказаў, што ў кватэры ціха.

Я прапанаваў напісаць цыдулку і запхаць пад дзверы. Але яны адчыніліся. Бліснуў ланцужок. На нас запытальна глядзеў мужчына. Мы пачалі тлумачыць, што шукаем натуршчыцу, назвалі прозвішча, сказалі, што мы — мастакі. Ён гукнуў у цемру: «Мама, гэта да вас... Мастакі... Прайдзіце». Наша натуршчыца ляжала на канапе. У нагах — руды кот, але ён адразу збег.

Натуршчыца сказала, што не прыйдзе да нас, бо захварэла. Побач з канапай стаяў зэдлік, а на ім — бутэлечкі, лыжка, шклянка з вадой, яблык і высокі крышталёвы келіх. «Гэта віно... Думала, што яно смачнае і салодкае, а яно кіслае. Я піла яго даўно, з жаніхом...» — патлумачыла натуршчыца і паспрабавала засмяяцца. Але закашлялася, пачырванела.

Прыйшоў яе сын і прынёс кубак з цёплым пітвом. Натуршчыца глынула і перастала кашляць. Побач з канапай

стаяла чорнае піяніна. На ім кардонка з цукеркамі, кожная ў бліскучай фользе, як елачная цацка. Натуршчыца папрасіла, каб я падаў цукеркі, а сын наліў віна маладым мастакам. Сын ейнае пажаданне выканаў. Ён усё рабіў з хуткай пакорлівасцю, спрытна, па-жаночы. Мы выпілі, з’елі па дзве цукеркі.

Тое віно мне не падалося кіслым. Жанчына згадала, што быў у яе жаніх-мастак. Ён яе маляваў фарбамі, на палатне, але партрэт не захаваўся, бо была вайна.

«Я прыйшла пазіраваць, каб яго згадаць. А глянула на вашы малюнкі і пабачыла, якая я старая, зморшчаная, як тая жаба...» — сказала яна з разгубленай усмешкай.

Яе сына звалі Эдзік, і ён правёў нас да дзвярэй. Мы пачулі, як ляскнуў замок. Бразнуў ланцужок. У двары я закурыў. Пахла вільготнай бялізнай, дымам, старым Мінскам і хлебам.

Ні прозвішча, ні імя той жанчыны не запомніў, а вось па бацьку яна была — Вісарыёнаўна.

## Стары вакзал

На старым вакзале пахла чыгункай, прыбіральняй, хлоркай і буфетам... А яшчэ нямытымі пасажырамі, якія нагадвалі клункі, торбы, валізы... Да чыгуначнага вакзала было бліжэй, чым да аэрапорта, а на трамвайны прыпынак бліжэй, чым на тралейбусны.

Я сядзеў і маляваў пасажыраў, якія спалі ці здранцвела сядзелі. Абуджаліся яны ад гучных і хрыпатых абвестак, але толькі на адно імгненне, потым ізноў рабіліся нерухомымі. Здаралася, што да мяне падыходзілі міліцыянты і даводзілася паказваць шэранькае пасведчанне навучэнца мастацкай вучэльні. Міліцыянеры глядзелі дакумент, няскончаны накід, зроблены алоўкам, крыва пасміхаліся і сыходзілі. На вакзале маляваць мне падабалася, бо там па начах шмат нерухомага, запаволенага, спыненага. Застаецца перанесці абрысы на паперу і паставіць дату. Але тады, у 1973—1974 гадах, я не падпісваў свае накіды, не захоўваў іх. Быў

упэўнены, што намалююцца лепшыя, такія, што і падпісаць будзе не сорамна.

Часам я спыняюся на плошчы і гляджу на вакзальныя вежы, якія адлюстроўваюцца, рассыпаюцца і наноў збіраюцца ў нерухомай паверхні шкла... Ні разу не бачыў, каб у новым вакзале нехта старанна і самааддана маляваў.

## Чэ...

З Генам Чэхам я пражыў чатыры гады ў адным пакоі. Па інтэрнатах жылі і па прыватных кватэрах.

Гена быў нефарматны. Ён пачынаў маляваць, а потым даклейваў кавалак паперы, бо яму не ставала прасторы на аркушы. І з палотнамі адбывалася тое самае. Прымацоўваў да падрамнікаў рэйкі, ляпіў стужкі палатна і працягваў фарбаваць. У памяці захаваліся многія зробленыя ім кампазіцыі, эскізы, накіды, партрэты... Гена ўсё рабіў засяроджана і ўпарта. Ён імкнуўся да завершанасці і дасканаласці, атрымлівалася — наадварот. І ў наш інстытут, у «Пухавіцкую акадэмію», на манументальнае аддзяленне яго не ўзялі — нефармат. Разы тры-чатыры ён здаваў іспыты, а ўсё не шанцавала.

Там, дзе сёння шклобетонны гандлёвы цэнтр «Еўропа», банкі, крамы і іншыя будыніны, там, дзе ўніверсам «Рыга» і шматпавярховікі, у гады навучання ў мастацкай вучэльні стаялі самыя звычайныя драўляныя і мураваныя дамкі. Сады, штакетнік, парканы, сабакі брэшуць, вуліца мокрая ў бліскучых калюгах. Мы з Генам шыбуем цемраю з заняткаў у Крапоткінскі завулак. У нашых руках палотны, якія выкручвае сустрэчны вецер, спрабуе выхапіць і шпурнуць у цемру. Мы тады трымалі іх так, быццам палотны адзінае, што ў нас было. Перакрыквалі вецер і дождж, размаўлялі пра мастацтва і потым зноў пра яго ж. У Генкі карычневы плашч, а ў мяне шэрая балоневая куртка. Нашы доўгія валасы мокрыя і ногі мокрыя, але мы на гэта не зважаем...

Нас грэе мастацтва.

Потым сядзім у маленькім пакойчыку, які здымаем у бабулі нашага аднакурсніка і малюем. Пісаць алейнымі

фарбамі гаспадыня нам забараняе, бо ёй смярдзіць шкіпінар і ад яго галава круціцца. За вузкі аднавокі пакойчык і тапчан, на якім спім, штомесяц аддаем гаспадыні па пятнаццаць рублёў.

Гена напісаў ці не самы лепшы дыплом на нашым курсе. На вялікім палатне быў намаляваны мужчына ў кепцы, які едзе на кані, а побач ідзе жанчына з граблямі. Урачыста, павольна і стомлена крочыць конь. Урачыстыя на вечаровым небе аблокі, падобныя да кветак ці парашутаў...

Зрэдку сустракаю свайго сябра Гену Чэха. Ён выкладае ў мастацкай школе, у Светлагорску. І мне здаецца, нудзіцца, але змяніць фармат не стае ні жадання, ні моцы. Мы сядзім у кавярні і п’ем каву. Пра мастацтва не размаўляем. Зусім не гаворым, бо тое, што я думаю, наўрад ці зразумее Гена, а яго думкі я ведаю. Гамонім пра дзяцей, пра былых аднакурснікаў... Я ведаю, што Гена даўно хоча спытаць, чаму я скончыў інстытут і кінуў жывапіс? Чаму я займаюся не фарбамі, лініямі, карцінамі, краявідамі, выставамі, а невядома чым? Гэтае пытанне падзяляе нас, як шкло. Мы бачым праз яго адно аднога, пазнаём, радасна ўсміхаемся, спрабуем размаўляць, а не атрымліваецца.

...дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кро...

## Арка

У Мінску ёсць арка. Калі прайсці праз яе з праспекта, то трапіш у двор. Там будынак з белымі калонамі. Раней левае крыло доўгай будыніны займала мастацкая вучэльня імя Глебава. Улетку 1973 года... Мой сябра Ігар Цішын даведаўся, што атрымаў на ўступных іспытах па дыктоўцы двойку. Ён выбег з вучэльні. На ім была валошкавая кашуля, яркая, як полымя гарэлкі. Полымя мільганула пад аркай і згасла...

Калі і ёсць у Мінску трыумфальная арка, то гэта яна. Дзіўна, цырульня побач з аркай засталася, а мастацкай вучэльні няма...

## «Малочка»

Самыя лепшыя вандроўкі тыя, у якіх няма пэўнай мэты. Калі ідзеш і можаш збочыць у завулак ці двор, спыніцца на рагу вуліцы, прысесці на лаву побач з фантанам або пры століку вулічнай кавярні. Звычайна мы размаўляем пра ўсялякае і markdownрознае, але можам і маўчаць... Мы ідзем з дачкой па Мінску.

Думаю пра месцы, куды вяртацца не хочацца.

Паварочваем на Купалаўскую. Будынак цырка нагадвае прэс-пап’е, а праспект — стол. Вуліца робіцца цеснай. Столікі, побач легкавікі, а іх гаспадары вячэраюць. Пытаюся ў дачкі, а ці ведае яна, што тут было раней? Дачка кажа, што рэстарацыя «Узбекістон», а цяпер — «Пікавая дама».

І раптам я ёй пачынаю згадваць, што да рэстарацыі «Узбекістон» у гэтым доме, на першым паверсе, знаходзілася кавярня «Малочнае», ці, як многія казалі,— «малочка». Вядома, што ў свае амаль васямнаццаць дачка пра «малочку» можа і не ведаць.

Але ж я памятаю... І тыя дубовыя дзверы, і маленькі гардэроб насупраць уваходу. Нават мужчыну ў цёмна-сінім гарнітуры, выгляд адстаўнога маёра, памятаю.

Ён у тым гардэробе не адзін год стаяў. На студэнтаўхлопцаў пакрыкваў, а да дзяўчат заляцаўся... Адразу за дзвярыма нясмачна пахла прыгарэлым малаком. І меў той пах нешта хатняе, дзіцячае. Але не пах падгарэлага малака, адносная таннасць вабіла да гэтага месца. І калі быў студэнтам, то даволі часта хадзіў сюды. Удзень «малочка» працавала, як звычайная сталоўка. Бярэш руды спод, займаеш чаргу, якая нетаропка рухаецца. Суп малочны, блінцы з тварагом, сырнікі, аладкі, запяканка, смятана, тварог, малако, гарбата, кампот, кефір, коржык... На рубель можна ўдваіх паесці. Пасядзець пры стале з белым абрусам. А вось вечарамі ў «малочцы» музыка грала гучна, стравы змяняліся і афіцыянткі разносілі напоі моцныя.

...Мы прыйшлі з Валодзькам Мохавым і занялі столік пад вакном. Ён замовіў гарэлку і закуску. Што за шчодрасць такая, мне было не зразумела, але я з пытаннямі не спяшаўся. Чакаў. Ён разліў гарэлку па чарках і паведаміў, што закахаўся. Выпілі.

Далей сказаў, што ўсё занадта складана, бо ў жанчыны ёсць дзіця. Выпілі. Ён папрасіў у мяне закурыць. Доўга і няўмела камечыў папяровы муштук, на абрус церусіўся тытунь. Курыць Мохаў не ўмеў. Зацягнуўся, закашляўся, пачаў тушыць папяросу, апёк палец, вылаяўся. Падняў пляшку, наліў і прапанаваў выпіць. Я глядзеў на яго шэры і нерухомы твар. Мой аднакурснік заўсёды быў правільным, да мастака не надта падобным. Заўжды пастрыжаны, паголены, адзенне чыстае, абутак блішчыць. У Мохава на ўсе пытанні меліся адказы. Але сёння яго нешта круціла і гняло, быццам памеры не супадаюць і вялікае не месціцца ў малое... Але потым, калі зноў выпілі, ён сказаў галоўнае. Жанчына, у якую ён закахаўся, выкладае ў нашым інстытуце, і я яе добра ведаю, яна жыве ў Мінску, у яе кватэра і дачка. Я не стаў удакладняць, на колькі гадоў выкладчыца старэйшая за студэнта, а прапанаваў выпіць.

У той вечар мы напіліся. Мохаў прасіў нікому пра размову не казаць. Я і маўчаў, пакуль пра гэта не даведаліся ўсе на курсе і ў інстытуце. Мой аднакурснік Валодзька Мохаў ажэніцца з выкладчыцай, яны з’едуць са сталіцы ў Гомель. Там мой аднакурснік і памрэ. Мне раскажуць, як нешта ў галаве правільнага Мохава перастане складацца, вялікае зноў не будзе змяшчацца ў малым...

Пра свайго аднакурсніка я не стаў казаць дачцэ, а прыгадаў, як мы з яе мамай прыходзілі сюды. Нават успомніў, пры якім століку сядзелі і што елі.

Усё болей у горадзе месцаў, дзе бачу тых, каго няма. Бывае, што некаторыя робяцца бачнымі на адну хвіліну, але гэта толькі для мяне. Яны шэпчуць, глядзяць, а потым, калі спрабую наблізіцца,— знікаюць.

## Усмешка Джаконды. Краніум

Калі руйнуюць стары дамок, а на яго месцы будуюць новы, то я не здзіўляюся і не абураюся. Тут ёсць працэс... Чалавек нарадзіўся, жыў, памёр...

Не ведаю, ці ёсць у сённяшніх навучэнцаў мастацкай вучэльні і акадэміі такая завядзёнка, якая была ў маіх аднакурснікаў, аднагодкаў, паплечнікаў. Кожны, хто браўся вучыцца на мастака, мусіў мець сапраўдны чалавечы чэрап. Яго належала маляваць з розных бакоў, вывучаць, ведаць, як свой уласны. Адкуль ішла тая ўпэўненасць, што наяўнасць у майстэрні ці інтэрнатаўскім пакоі чэрапа навучыць маляваць твар чалавека, ледзь заўважную ўсмешку, прымружаны ад цікаўнасці ці абыякавы позірк... Можа, гэта ўплыў гісторый пра мастакоў Адраджэння, якія цёмнымі начыма рэзалі ў сутарэннях трупы людзей і жывёл, каб вывучыць анатомію? Можа, патрабаванні рэалістычнай школы, але чэрап здаваўся мне рэччу звышнеабходнай.

Тым, хто меў чэрап, зайздросцілі...

Год 1974. Я жыў на другім Крапоткінскім завулку ў прыватным дамку. Да сваёй бабулі мяне і Генку Чэха пасяліў аднакурснік Сашка Лось. Мы вырашылі здабыць сабе чарапы. Двойчы з’ездзілі на Кальварыйскія могілкі. Крычалі ў мокрых і згалелых дрэвах вароны, пахла цвілым лісцем, але на недагледжаных і брудных могілках нам не пашанцавала. Сашка нават магілу свайго дзеда адшукаць сярод іржавых крыжоў і пагнутых агароджаў не здолеў...

Праз пару тыдняў нехта сказаў, што зносяць габрэйскія могікі за Нямігай. Гэта быў рэальны шанец. З адной на трох рыдлёўкай мы выправіліся нядзельным ранкам туды. Халодны восеньскі вецер. Даехалі аўтобусам да агромністага опернага, які нагадваў рэшткі Вавілонскай вежы. Перайшлі мостам цёмную надзьмутую Свіслач. Рушылі праз брудныя кварталы, якія тады не хаваліся за новымі шматпавярховікамі.

Чорныя коміны хлебазавода. Цёмны дым. Старыя абшарпаныя дамкі. Вуліца Сухая ўся ў калюгах. Знайшлі па-

трэбнае месца: людзі зрэдку ходзяць. Дрэвы спілаваныя, галлё, бруд, агароджы пакарабачаныя. Вялізны экскаватар з каўшом у дол увабітым, два чорныя бульдозеры. Нават камяні помнікаў з шасцікутнымі зоркамі яшчэ не пазвозілі. Яны, як выдраныя зубы, ляжалі на мокрай і гразкай зямлі. І косткі чалавечыя паўсюль. Малая бярцовая, вялікая, рэбры, часткі хрыбетнікаў...

Ніхто нам не замінаў, ніхто не спыняў. Мы хадзілі па цяжкай зямлі, якая наліпала на чаравікі, калупалі дол, але чарапоў не знаходзілі. Пабачылі глыбокую траншэю і чалавечыя косткі на дне, на рудой гліне, у вадзе. Траншэя глыбокая, адвалы на два бакі.

Неяк злезлі. У зямлі, на ўзроўні грудзей, заўважылі праваліну. Паторкалі рыдлёўкай. Пасыпалася труха спарахнелых дошак. Гэта была труна. Першы чэрап дастаўся мне.

Я сам яго выцягнуў з цёмнай дзіркі. І сківіца ніжняя знайшлася побач... Не было ні грэблівасці, ні гідлівасці. І Генка знайшоў труну хутка, але выцягнуў напачатку косткі. Пракапалі трохі правей. Гена дастаў з цёмнай праваліны маленькі чэрап. Колькі не пароўся, а ніжнюю сківіцу не адшукаў. Расстроіўся, пакрыўдзіўся, быццам я вінаваты, што яму не пашанцавала. І трэці чэрап неўзабаве здабылі.

Калі вылезлі з глыбокай траншэі, то адчулі, як смачна пахне з хлебазавода ванілінам і батонамі...

Склалі свае здабыткі ў палатняную торбу і, радасна-стомленыя, рушылі на свой Крапоткінскі завулак...

На газавай пліце выварым чарапы ў вадзе з хлоркай. Брудная пена скіне колькі разоў накрыўку, пазалівае полымя. Смуроду цяжкага і задушлівага напусціць — не перадаць. Старая гаспадыня напалохаецца. Яна будзе ўпэўненая, што мы клей косны варым, каб палотны праклейваць. Накрыўку здыме, зазірне ў вядро, а тут з кіпеню адзін з чарапоў і вынырне...

Чэрап, які я адшукаў, стане колеру арэхавага, на ніжняй і верхняй сківіцы па два зубы ў металічных каронках заблішчаць. Маленькі, які Генка здабудзе, колерам зробіцца

жоўта-малочным. Мы вызначым, што чэрап дзіцячы, бо ўсе дробныя зубы на месцы. А той, які ўнуку гаспадыні трапіцца, належаў старому і бяззубаму габрэю. Калі высахне, то адразу пацямнее ў колер бруднага воску...

Не думалі мы тады пра Бога і вечны спачын. Не думалі і пра могілкі, як апошні дом і прытулак чалавека...

Мы малявалі чарапы. Ні выкладчыкі, ні настаўнікі слова кепскага нам не сказалі, не паўшчувалі, не папракнулі... Я стану перавозіць той чэрап з бліскучымі зубамі з інтэрната ў інтэрнат, з адной майстэрні ў другую, з адной прыватнай кватэры на другую. Ён паўсюль будзе са мной...

Я моцна верыў тады ва ўласны талент і пакліканасць.

Калі сёння гляджу на загадкавую, ледзь заўважную ўсмешку Моны Лізы, то не бачу яе чэрапа і ніжняй сківіцы.

Савецкая ўлада — д'ябальская і цынічная... Водар хлеба плыў хвалямі над зруйнаванымі, знішчанымі габрэйскімі могілкамі. Такі смачны, такі ванільны, такі неперадавальны...

У палатнянай торбе грукаюць тры чарапы. Мы — шчаслівыя. Разумею ўласнае глупства, але маладосць мае права на памылкі...

## Кніжкі

Навучэнцы мастацкай вучэльні дзяліліся на тых, хто купляў альбомы па мастацтве і на тых, хто не купляў. Паводле колькасці альбомаў можна было меркаваць, ці сур'ёзна малады чалавек вырашыў звязаць жыццё з мастацтвам. У Наташкі Астроўскай такіх кніжак не было, нават паштоўку з выявай карціны яна не купіла.

## Ага...

Там, дзе сёння мікрараён Зялёны луг, была вёска. Улетку, пасля першага курса, у той вёсцы праходзіла наша натурная практыка. Даязджалі тралейбусам ці трамваем да

апошняга прыпынку, а потым ішлі праз поле. Малявалі лапухі так, быццам іх адлілі з гіпсу, быццам яны белыя і чыстыя, а не прыцярушаныя пылам. Малявалі кветкі, дзядоўнік, дрэвы і хаты, коз, пеўняў, сабак і кароў. У гэтай вёсцы была дзяўчына-вар'ятка. Здаецца, звалі яе Валька. Яна хадзіла па вёсцы то запаволена, то пачынала крычаць і бегла. Ногі ў яе былі тоўстыя, пальцы брудныя, спадніца кароткая. Вар'ятка часам падыходзіла і глядзела, як мы малюем. Падыходзіла ціха і асцярожна, стаяла нерухома і сачыла, як на паперы пачынае ўзнікаць выява. Мне не падабалася, калі нехта чужы стаіць за спінаю і ціха дыхае. Я Вальку прагнаў. Яна адбегла на колькі крокаў, стала пад яблыняй і задрала спадніцу...

У той дзень я намаляваў сінія бярозы. Дрэвы стаялі на пагорку, а я сядзеў побач са сцежкай на бервяне. Пакуль маляваў, то думаў пра вар'ятку, пра яе белыя ногі і нахіленыя ветрам дрэвы. Заняты маляваннем сініх бяроз, не пачуў, як да мяне падышоў Агафон. Ён паглядзеў і сказаў, што бярозы зялёныя, а не сінія, а я яму расказаў пра белыя ногі...

Праз колькі гадзін Сашка Агафоненка нешта апавядаў дзяўчыне-вар'ятцы, смяяўся, бліскаў шкельцамі акуляраў, частаваў печывам. Валька слухала майго аднакурсніка ўважліва і ела печыва.

Добра памятаю толькі адну працу Сашкі Агафоненкі. Ён зрабіў яе на першым курсе. Брудна-шэрая вясковая вуліца, калюгі, поўныя брудна-шэрай вады, шэрыя хаты, шэрыя платы і шэрае неба. І толькі адно дрэва чырвонае, як кроў, як агонь... На ўсё жыццё той акварэльны аркуш запомніў. У Агафона былі сотні малюнкаў, а ў маёй памяці захаваўся толькі адзін. І выкладчык жывапісу і кампазіцыі Юрый Выхадцаў глядзеў на тую шэрую карцінку па-дарасламу, быццам яна надрукаваная на старонцы часопіса. Агафоненка ж не разумеў. Стаяў і пахістваўся з нагі на нагу, хрубасцеў дужымі пальцамі. Чакаў, калі пачнецца перапынак і можна будзе пабегчы на стадыён... Сёння, я думаю, гэта была безумоўная, але выпадковая ўдача.

Агафон сябраваў не з алоўкамі-пэндзлямі, а з фізкультурай. На перапынках ён бегаў на стадыён тэхнікума, вяртаўся ўспатнелы і задаволены. Казаў, што падцягнуўся на турніку пяцьдзясят разоў і прабег восем колаў. Агафон не курыў і на першых курсах зусім не піў, але грошы на п’янкі-пагулянкі заўсёды даваў. Сядзеў, еў і глядзеў, як хлопцы п’янеюць і пачынаюць чапляцца да дзяўчат, як мацюкаюцца, як аднакурсніцы задаволена чырванеюць.

На адной з наступных практык, яна праходзіла ў Раўбічах, мае аднакурснікі-аднагрупнікі добра пасядзелі на пагорку, па-над плыткай рэчкай. Выпілі віна. Лёнік Мароз, абіраць на той момант не было з каго, спакусіў Марынку, вырашыў, што і ёй трэба адчуць сябе шчаслівай жанчынай. І Марынка, як потым казалі, была не супраць любошчаў у кустах на беразе рэчкі. Але Агафон наляцеў на Лёніка, ададраў яго ад паўраспранутай Марынкі. Моцна трымаў Лёніка за рукі і крычаў: «Як табе не сорамна, Мароз, ёй жа балюча!»

Я не ведаю, якія мастакі былі ў кумірах Агафона, якія кніжкі ён чытае, якое кіно глядзіць, якую музыку слухае. Як і не ведаю, з якой мэтай ён паступіў у вучэльню, навошта яму было ўсё гэта складанае і цяжкае, п’янае і нервовае жыццё?

Дзіўна, але і на тых фотаздымках, што засталіся ў мяне ад часоў вучэльні, Агафона няма...

Сашку Агафоненку я сустрэў у скверы побач з ГУМам гадоў восем таму. Была восень. Я Агафона не пазнаў. Ён сам падышоў да мяне. Ад яго пахла гарэлкай, а ад ягонай скуранкі — дажджом. Ён апавёў мне пра Кулікоўскага (потым я пра яго напішу), які зусім звар’яцеў і выпільвае лобзікам літары з пенапласту, працуе мастаком-афармляльнікам на мясакамбінаце. Але, як высветлілася, то бачыў Агафон Кулікоўскага гадоў дзесяць таму. Смурод мясакамбіната я памятаў, як і цвёрды позірк Кулікоўскага...

## Горад

Мінск дзіўны горад. Ёсць у ім таямніца. Калі некага не жадаеш бачыць, сустракаць яго на вуліцах, у метро, крамах, кавярнях, аптэках, то і не сустрэнеш. Хоць год хадзі, хоць дзесяць... А калі трэба сустрэць ці пабачыць, то абавязкова з тым чалавекам горад і сутыкне: у метро, краме, аптэцы, кавярні. Часам здаецца, што Мінск маленькі, як кватэра, а часам ён агромністы, як лес.

Але, можа, гэта толькі мне ён дапамагае?

## Фу...

Калі з праспекта падысці да аркі і стаць, то праваруч — вокны цырульні з чаргой, леваруч — будынак мастацкага інстытута. Яго вокны, як вочы з бельмамі, бо іх заўсёды зацягвалі паўпразрыстай паперай; паперадзе, двор перайсці, белыя калоны з капітэлямі і філёнчатыя дзверы мастацкай вучэльні. Калоны трымаюць доўгі балкон...

Увесну на калоне з'явіўся надпіс: «Цуканаў — дуб!» Той надпіс хутка зафарбавалі, але напісанае слова не знішчыш. Цуканаў — прозвішча тагачаснага дырэктара вучэльні. Хто зрабіў надпіс, не знайшлі.

Мне падабалася прыходзіць у вучэльню рана, а сыходзіць позна. Фінікі тады каштавалі ўсяго восемдзесят капеек за кілаграм. Калі моцна хацелася есці, то я купляў кулёк фінікаў. Крама «Садавіна-гародніна» — побач, на праспекце...

Стаяў на балконе вучэльні, еў тыя коўзкія фінікі, кідаў костачкі з балкона і думаў, што буду знакамітым мастаком. Тады нават і кроплі сумневу ва ўласным таленце не было. Праўда, да інстытуцкіх майстэрняў, дзе сумневы пачнуць з'яўляцца, яшчэ далёка. Пакуль гэта толькі першы курс...

Пальчаткі і боты целяпаліся — такія тонкія рукі і ногі ў Марынкі Фурман. Скура — бела-блакітная, а валасы — залаціста-рудыя і кучаравыя, як вяхотка. Марынка апранала-

ся ярка і цёпла. Швэдры насіла шчыльныя, а шалікі доўгія і мяккія.

Мне Марынка не падабалася, як і я ёй. У памяці засталося некалькі яе прац, і тое толькі таму, што нагадвалі знакамітых Сіньяка і Сёра. Гэтыя акварэлі яна зрабіла яшчэ на першым курсе вучэльні. Я перастаў на Марынку звяртаць увагу на тым самым першым курсе і не памятаю, што і як яна малявала наступныя тры гады.

Нават дыплом яе не захавала памяць.

На першым курсе Марынку крыху пахвальваў выкладчык жывапісу Выхадцаў, а потым і ён на яе карцінкі амаль не глядзеў. Мне здаецца, што і ёй гэта было без патрэбы. Але, добра памятаю, як зайздросна яна глядзела на дзяўчат, калі да іх пачыналі нахабна чапляцца хлопцы.

Марынка аднойчы запрасіла мяне да сябе. Я прыйшоў. Пазваніў у дзверы і адскочыў, бо на мяне глядзеў яе вялізны і слінявы баксёр! Я сядзеў у фатэлі і баяўся паварушыць рукой, словы прамаўляў ціха і лагодна, амаль шэптам, а сабака гыркаў, гатовы кінуцца на мяне і перагрызці горла. Марынка зацягнула яго ў лазенку і там зачыніла. Сабака гучна брахаў, а потым пачаў скрэбці кіпцямі дзверы і скавытаць.

З 1977 года я Марынку Фурман не бачыў. Чуў, што яна працавала на кінастудыі, расфарбоўвала чужыя малюнкі. Цікава, а каб сустрэліся, то што б я мог ёй апавесці?

## Туман

У такім тумане, як апошнія дні, парк падобны да вясновага лесу, у якім здарыўся пажар...

Я ішоў учора праз парк, дыхаў туманам. Пачуў мужчынскія галасы. Размаўлялі па-ангельску і гучна. Наблізіўся. Мужчыны пры мокрай лаве пілі гарэлку. Налівалі ў аднаразовыя кубкі, чаркаліся бязгучна і выпівалі. На лаве акуратна ляжалі рэчы, пакеты, пальчаткі...

Гэта было а дзясятай раніцы. За дзве гадзіны я вяртаўся тым самым шляхам. Мужчыны стаялі побач з лавай, спра-

чаліся гучна, але не па-англійску. Вакол іх зямля гарэла, закіданая яркім лушпіннем. Размова ішла пра верталёт і жанчын. Спалучэнне мяне не здзівіла, бо туман у Мінску амаль казачны.

## Дрэва

Ёсць і ў мяне ў Мінску ўлюбёная вуліца, месца, будынак... А яшчэ ёсць любімае дрэва: дуб побач з дамком І з'езда. Я гляджу на яго ўзімку, калі ён засыпаны снегам, увесну і ўлетку. А найболей ён мне падабаецца позняй восенню, калі толькі на ім і шуміць рудое лісце...

Мне здаецца, што гэта важна — мець такое дрэва? Любімае?

## Майстэрня

Там было вакно, але форткі не было. Вакно малое, можа, метр на метр. Калі да яго падысці ўсутыч, то бачыш цэглу і цэмент, а вышэй — неба і ногі. Сабак бачыш і сабакі бачаць цябе, бо яны адчуваюць, калі за імі цікуюць, а людзі не бачаць, бо вакно майстэрні нізка ў асфальце, як у акопе, а па-над ім — краты... Каб патрапіць у майстэрню, то трэ было зайсці ў двор дома, адчыніць жалезныя дзверы з надпісам «Бойлерная» і сысці бетоннымі прыступкамі. Потым адчыніць наступныя дзверы і трапіць пад чатырохпавярховік па вуліцы Бялінскага.

Адразу за дзвярыма — тумблер-выключальнік, павернеш — дзве лямпачкі запальваюцца, і можна далей ісці, пад цяжкай столлю. Вакол трубы розных памераў, гарачыня, пара, бульканне і сычэнне. Спецыфічны пах цвілі, пары, мокрай зямлі і цэглы. Яшчэ двойчы, пакуль дойдзеш да дзвярэй майстэрні, даводзіцца падымацца і сыходзіць жалезнымі лесвіцамі... А сама майстэрня маленькая. Стол, два крэслы, самаробны ложак, эцюднік, некалькі планшэтаў, маленькі стэлаж, яркая лямпачка пад нізкай столлю...

З няручнасцяў — адсутнасць вады. Яе бралі з чорнага крана.

Сантэхнік падказаў, што гэтая вада пітная. На гэтым кране вісела пакарабачанае вядро, а ваду набіралі ў літровы слоік і кіпяцілі.

Жыць і працаваць у той майстэрні можна было. А ў вайсковай частцы, амаль насупраць, праз вуліцу з трамваямі, сваё жыццё: спявалі, маршыравалі, бегалі. Па тым, што адбывалася там, можна заўсёды вызначыць час. Бягуць, тупацяць — шостая раніцы, спяваюць — поўдзень...

Калі майстэрню абрабавалі, то скралі фотапавелічальнік у чамаданчыку, падушку, якую я прынёс з інтэрната, і пляшку віна... Карціны, фарбы, пэндзлі і малюнкі не ўзялі, але пераглядзелі, параскідалі і пакамечылі.

З віном і гарэлкай у той майстэрні праблем не было. А з вадой былі.

Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры...

Дзве кроплі, потым яшчэ тры... Дзве кроплі, потым яшчэ тры...

Дзве кро...

*студзень-сакавік 2014*

# ПРА МАМУ

*Запісы з фэйсбука*

У думках тысячы разоў прамаўляў «люблю», а ўголас, каб мама пачула, то, можа, усяго колькі разоў. Скажу, амаль шэптам, хутка, па-дзіцячы, альбо з усмешкай і сам зніякавею, спалохаюся. Быццам нешта забароненае вымавіў, быццам не так выдыхнуў. Чаму гэтае слова захрасае, сціскае горла, дыхаць не дае?

Так лёгка і звыкла напісаць «люблю» ў лісце ці на святочнай паштоўцы, а так цяжка сказаць.

* * *

Адзін з маміных «пункцікаў» — чысціня. Мама змагаецца з пылам, якога няма, з нябачнымі плямкамі і парушынкамі. Яна мые падлогу, выцірае, выбівае дыванкі і коўдры, прасуе шторы, абрусы, ручнікі, сурвэткі. Шкла ў вокнах яе кватэры быццам няма. Гэта цяпер, калі састарэла і саслабела, то не мые вокны па чатыры разы на год, не фарбуе з педантычнасцю хірурга падваконні, рамы і дзверы. Не пераклейвае яшчэ чыстыя шпалеры ў калідоры на новыя, не беліць напярэдадні Вялікадня столь на кухні, не перасцілае і не перавешвае ўсё чыста і ва ўсіх пакоях. «Не хачу, каб людзі, калі памру, сказалі што жыла абы-як»,— неахвотна тлумачыць мама і глядзіць на столь. Паводле ейнага меркавання столь у кутах трохі рудая і яе трэба пафарбаваць. Абавязкова. І яшчэ, я вельмі не люблю гэтую маміну размову, а яна настойліва паўтарае, як апраўданне: «Чыстую кватэру вам будзе лягчэй прадаць».

* * *

Вёска Карпаўка, дзе нарадзілася мама, стаіць на рацэ Сож. Не дзіва, што мама добра плавае і вады не баіцца. Аднойчы яна пераплыла Сож. Трохі пахадзіла на тым беразе, маленькая, як пташка, і вярнулася. Бацька плаваць не ўмеў. Ён стаяў у рацэ, з падкасанымі калашынамі, курыў папяросу і зайздросціў, а потым яшчэ і насварыўся на маму. А мама смяялася, адціскала свае густыя цёмныя валасы і казала: «А што такога, ну пераплыла...»

Сож у Клёнках, дзе быў летнік, хоць і шырокі, але не такі, як у Карпаўцы, дзе ён зліваецца з Дняпром. Мне тады ішоў восьмы год, я еў вялікай лыжкай трускалкі, пасыпаныя цукрам, з літровага слоіка, якія прывезлі бацькі, і неверагодна ганарыўся мамай. Сам плаваў адно па-сабачы, далёка ад берага не заплываў, бо баяўся.

* * *

Дачыненні паміж мной і малодшым братам няпростыя, найчасцей так і бывае ў сям'і, бо назапашваюцца розныя крыўды, як вялікія, так і дробныя. І надыходзіць той момант, калі пачынаецца высвятленне адносін. Калі ўсчынаецца сапраўдная сварка: з абразамі, абвінавачваннямі, перабольшваннямі, падлікамі, лаянкай. Мама, вядома, палохалася і палохаецца. Але не памятаю, каб яна заняла бок таго, за кім відавочная праўда. Мама шкадуе і пакрыўджанага, і крыўдзіцеля — аднолькава, як старэйшага, так і малодшага. Глядзіць на нас вачыма поўнымі слёз і спрабуе супакоіць, суняць жарсці. Заўсёды. Не памятаю, каб стала на мой бок, ці на бок малодшага сына.

Упэўнены, што яе пазіцыя — самая моцная, а паводзіны слушныя, і справядлівасць на ейным баку.

* * *

Мне было дванаццаць. Я прыйшоў са школы і еў пражаную бульбу з гуркамі, а пасля мяне чакаў вялікі кубак кампоту. Мама ўвесь час маўчала, прыбрала талерку з відэль-

цам і пайшла з кухні. Кампот быў смачны — слівовы. Піў няспешна, а потым салодкія слівы павыбіраў з кубка пальцамі, бо лянота было з-за стала ўставаць, мама ж не бачыць. Хутка памыў рукі, зайшоў у пакой, каб падзякаваць, а мама плача. Сядзіць пры круглым стале, твар рукамі затуліла і хліпае. На маё пытанне «што здарылася», не адказвае. Спрабуе супакоіцца, а не атрымліваецца. Пачаў суцяшаць, а яна тады яшчэ болей расплакалася. Пазней прызналася, што згубіла грошы на зімовае паліто, і ў дадатак увесь заробак, які ўчора атрымала на заводзе. Новае зімовае паліто з футравым каўняром — даўняя маміна мара.

Карычневы партманет з бліскучай зашчапкай не без маёй дапамогі знайшоўся. Ён выпаў з кішэні, калі мама лазіла ў пограб набраць бульбы і ўзяць з паліцы бэзавы трохлітровы слоік з тым самым слівовым кампотам. Новае паліто яна купіла. Мне падабалася гладзіць яго мяккі бухнаты каўнер, але рабіў я гэта, калі мама не бачыць. Бо яна тое паліто любіла.

* * *

На пытанне «кім працуе мама», а ў школе іх скрозь задаюць, я губляўся і хутка адказваў, што працуе на шклозаводзе. Вядома, і мне хацелася, каб мама была доктарам, інжынерам, настаўніцай, майстрам, начальнікам... Але мама рэзала шкло, і я доўга не любіў гэтае пытанне. Мне было сорамна за маму. Здаралася, што я хлусіў і прыдумляў сваёй маме прыгожую прафесію. Аднойчы сказаў, што яна — эканаміст. Чаму?

Маме не падабаецца ўспамінаць сваё маленства, казаць пра тое, як яны былі ў бежанцах, а пасля вярнуліся з бацькам у сорак чацвёртым у сваю паўразбураную хату. Вайну згадвае неахвотна... Потым захварэў і памёр яе бацька, мой дзед Адам, а мама з братам Шурам і самай меншай сястрой Надзяй трапілі ў дзіцячы дом, бо сіроты... Адтуль мама пайшла на завод. Трохі весялей апавядае, як на выходныя забірала сястру з дзіцячага дома да сябе ў інтэрнат.

На пошце доўга запаўняе бланк грашовага перавода, напружваецца, чырванее. Почырк няўпэўнены, літары няроўныя, словы з памылкамі. У інтэрнаце мастацкай вучэльні мяне спыніла камендантша і паведаміла, што мне прыйшоў перавод на дваццаць рублёў, хутчэй за ўсё з вёскі, ад бабулі. Я пачырванеў, бо грошы даслала мама. Было тое ў семдзесят чацвёртым, а маме было ўсяго сорак чатыры...

Цяпер маміны граматычныя памылкі мне даражэйшыя за вершы класікаў. Піша яна літарамі крывымі, вялікімі і няроўнымі, але можа разрэзаць вялікую шкліну. Разрэзаць без лінейкі, так роўна, што ніякі паэт не здолее.

* * *

Я прыехаў з Мінска дамоў. Гэта было, калі мы яшчэ жылі на Кастрычніцкай, у камуналцы, а нашымі суседзямі былі Лукомскія. Мама пераказвала навіны: пра дзеда з бабай, пра сваякоў, пра маіх аднакласнікаў, бо ўсіх бачыла ці не штодня ў клубе, ля клуба, на вуліцы. Я слухаў не надта ўважліва, бо ведаў што перастрэну ўсіх, паразмаўляю. Раптам у калідоры грукнулі дзверы, прыйшла суседка. Тут мама сцішыла голас і згадала, як пару тыдняў таму бацька пабіў суседа. Я здзівіўся, бо бацька невысокі, неагрэсіўны, схільны хутчэй саступіць, чым біцца. Спытаў, за што яны біліся. Мама, звычайна скажа нешта, а потым чакае пытання. Тут жа яна пераказала падзею без маіх пытанняў. Сусед — Мікола Лукомскі — прыйшоў на кухню і абразіў маму. Сусед быў крыху п’яны, а таму і злосны. І бацька, так атрымалася, выйшаў на агульную кухню. Мама апавядала, як мужчыны біліся на цеснай камунальнай кухні, як з бразгатам ляцелі на падлогу місы, посуд, тазы, як сыпаліся лыжкі з відэльцамі. Як Мікола схапіўся за нож, але ўдарыць, дзякуй богу, не паспеў. «Саша размахнуўся, ды як даў яму, Мікола і паваліўся паміж плітой і сталом. А пасля Саша нож забраў і павёў мяне ў наш пакой, а Мікола застаўся ляжаць і крахтаць»,— мама прамаўляла і няўмела, па-жаночы, паказвала бойку.

Шчокі ў мамы пачырванелі, вочы блішчэлі, яна памаладзела нават. У ейных словах быў гонар, бо муж абараніў яе, перамог маладзейшага і дужэйшага крыўдзіцеля.

Потым з суседзямі памірыліся. І сёння Райка Лукомская бывае прыходзіць да мамы на пяты паверх. Яна моцна састарэла, так моцна, што і пазнаць цяжка. Яны сядзяць на канапе і гавораць пра дзяцей і ўсё на свеце. А дзе Мікола Лукомскі, не ведае ні Райка, яго былая жонка, ні мая мама.

* * *

Сваю кватэру мама перапісала на мяне. Аддала мне даверанасць з пячаткамі і подпісамі, сказала, каб не згубіў, каб паклаў на месца. Выглядала яна сцішана і разгублена. Мяне наяўнасць таго дакумента і сур'ёзнасць моманту засмуцілі. Хоць разумею, што некалі давядзецца і гэтай справай займацца. Вядома, што лепей, як мага пазней, але калі гэты момант надыдзе, як яно будзе, думаць не хочацца. Стараюся не думаць, але думаецца.

«Ты ж будзеш гэтым усім займацца. Калі прадасі, то аддай палову грошай брату, добра?» — папрасіла яна, калі я перагнуў паперчыну і схаваў у торбу.

«Добра, але я забяру тыя грошы, якія ён мне дзесяць гадоў аддаць не можа»,— сказаў, а за імгненне і пашкадаваў.

Мама падціснула вусны, сцялася, разгублена ўздыхнула. Можа, з паўгадзіны не размаўляла са мной, мыла на кухні посуд, бразгала нечым, а потым падышла і папрасіла не рабіць гэтага. Сказала, што сама, калі зможа, сплаціць братаву пазыку. Я разумеў, што моцна яе пакрыўдзіў, што яна ўсё гэта доўга абдумвала, узважвала, перабірала варыянты, хвалявалася, ціск сама сабе мерала, а яно не атрымалася так, як яна хацела...

«Падзялі пароўну, я цябе прашу, а то людзі будуць казаць, смяяцца з мяне, паабяцай, сынок».

Я паабяцаў зрабіць так, як яна просіць. Яе не будзе, а ўсё адно хвалюе, што пра яе могуць сказаць людзі. Вось гэта мяне дзівіць.

* * *

Калі еду дамоў, то напярэдадні абавязкова тэлефаную маме і пытаю, што прывезці. Часцей за ўсё яна просіць прывезці смачнай рыбкі. Жонка ідзе і купляе запакаваны кавалак стронгі ці сёмгі.

Прывожу. Мама глядзіць на чырвоную рыбу і хавае ў лядоўню. Ні разу не бачыў, каб яна тую рыбу ела. Ведаю, на свае вочы бачыў, што абсалютна такая самая рыба, у такой самай упакоўцы, прадаецца ў нашым гастраноме пад самым домам, што прасцей — пайшла і купіла.

Аднойчы пачуў тэлефонную размову мамы са сваёй старэйшай сястрой — цёткай Вольгай. Мама хвалілася, што я прыехаў, што цяпер сплю з дарогі, а потым радасна пералічвала падарункі і пачастункі са сталіцы. Цётка Вольга пытаецца, чым мама збіраецца мяне карміць, што будзе на сняданак? А мама як чакае гэтае пытанне — радасна пачынае пералічваць стравы, казаць, што я худы, што зусім мала ем. Старэйшая бывае ўдакладняе, ці ёсць у малодшай гуркі, ці ставіла капусту, хоць ведае, што ёсць, што капуста стаіць на балконе...

Цяпер ведаю, што рыба, якую я прывожу, смачнейшая, тлусцейшая і ў меру салёная. Упэўнены, што няхай яна будзе і саланейшая, але для мамы яна будзе смачнейшая.

* * *

Спадзяюся, што дачыненні з Богам у мамы простыя і ясныя. У царкву, калі ёсць сілы, ходзіць. Святы ведае, нават бывае мне тэлефануе, каб нагадаць, што сёння — свята, а таму і працаваць нельга. Просіць, каб і нявестцы сказаў, і ўнучцы. Малітвы чытае. Стаіць побач з ложкам, у сваіх старамодных акулярах, глядзіць у кніжку і нягучна моліцца. Вокладка кніжкі абгорнута газетай, можа, і той, дзе працую я. На выцвілай газеце алоўкам намаляваны няроўны сіні крыж. Не прыслухоўваўся да яе слоў, стараўся не замінаць, прачыніў дзверы свайго пакоя, каб не турбаваць.

Перад абразом, які бацькі забралі з дзедавай хаты, стаяць штучныя папяровыя ды пластыкавыя кветкі. Чарачка са свечкамі. Абраз упрыгожаны рушніком з чырвонымі кветкамі. Нічога надзвычайнага. Пад сталом, на якім абраз, старая швачная машынка ў жоўтым дыхтавым футарале. Машынка спраўная — шые. Мама, калі быў дома, спытала, ці не буду я супраць, калі яна аддасць сваю машынку хрэсніцы, у падарунак, на памяць. Вядома, я не супраць.

Побач з машынкай слоікі з сочывам і мёдам.

* * *

Маму мала цікавіць, пра што я пішу ў кніжках, газетах і часопісах. Чытае толькі, калі прашу. Для яе самае галоўнае мой фотаздымак. Яна глядзіць на яго, вывучае, а потым, калі размаўляем па тэлефоне, то кажа: «Нешта ты схуднеў, зусім не ясі». Пачынаю пераконваць што ем добра і рэгулярна, што спраўны, што ўсё ў мяне добра. Яна ж кажа, што я яе падманваю, што яна мяне бачыла на здымку, што выглядаю, як зэк, з такімі кароткімі валасамі.

Тлумачу, што той здымак, які яна бачыла, пяцігадовай даўніны, а цяпер я не такі. Фотаздымкам, сваім вачам, яна верыць болей, чым маім словам.

* * *

Мама падышла да мяне і сказала: «Калі атрымаецца, то завязіце мяне на Курган, да бацькі... А калі не будзе палучацца, то закапайце, дзе атрымаецца».

* * *

Стары сервант стаіць у кухні. За шклом чарачкі, келіхі, кубкі, сподкі, невялікі папяровы абраз, колеры на ім цьмяныя, выявы не надта разборлівыя. З бакоў, у шкапках, скрыначка з нажніцамі, ніткамі, гузікамі. І розныя дакументы там. У другім шкапіку нажы, лыжкі, відэльцы. Паміж шкапкамі глыбокая ніша. Там фотаздымкі. На тым, што

пасярэдзіне, мы з братам, а па баках — унучка. На адным меншая, а другі з выпускнога ў ліцэі. Злева ляжыць малітоўнік, правей — старамодны буднік. І карткі, і малітоўнік, і гадзіннік стаяць на чысценькай сурвэтцы. Нічога іншага мама туды не кладзе. Мне ўся гэтая самаробная кампазіцыя крыху нагадвае алтар.

У вялікім пакоі таксама фотаздымкі ў секцыі, але ў зале мама бывае раз ці два на дні: кветкі паліць, тэлевізар паглядзецць, а ў кухні шмат разоў. Зірне на гадзіннік, каб даведацца, ці не надышоў час прымаць лекі — пабачыць дзяцей і ўнучку. На гадзіннік, як і ўсе старыя людзі, мама глядзіць шмат разоў на дзень. Бывае і ўначы выходзіць, каб ціск памераць.

* * *

Бацькоўская кватэра на апошнім пятым паверсе. Прыступкі ў пад'ездзе крутыя, нязручныя, хадзіць імі і маладому цяжка, а ў мамы ногі баляць, на кавеньку абапіраецца... Доўга наверх ісці.

Прапанаваў кватэру памяняць, каб на першым ці на другім паверсе. Мама пагадзілася, хоць і не адразу. Далі абвестку. Пачалі знаёмыя і незнаёмыя людзі тэлефанаваць. Ахвочых памяняць аднапакаёўку на двухпакаёўку ставала. Праз тэлефон дыктавалі адрасы, хвалілі сваё цёплае і ўтульнае жытло, палісаднікі пад вокнамі, чысты пад'езд, спакойных суседзяў...

Тэлефанавалі мне ў Мінск, я спрабаваў згадаць дом, вуліцу, дзе тая цёплая і светлая аднапакаёўка. Потым тэлефанаваў маме ў Касцюкоўку. Цягнулася ўсё гэта даволі доўга, ці не год. Перабралі ці не з дзясятак варыянтаў, але ўсе яны маму не задавальнялі. У кожным мелася нейкая загана. Урэшце я не вытрымаў, пачаў злавацца.

«Сынок, як жа я адсюль паеду, тут жа бацька ўсё парабіў... Кожны шруб ён сваімі рукамі закруціў...— сказала мама.— А што хадзіць высока, дык як-небудзь. Не паеду я адсюль...»

* * *

Мне было гадоў пятнаццаць, калі прысніў той сон.

У тым сне мама сядзіць пры стале, на каленях маленькая кашулька шэрага колеру. На стале шпулькі з белымі і чорнымі ніткамі, бляшаная скрыначка з рознымі гузікамі. Мама ўцягвае нітку ў іголку, завязвае вузельчык і прышывае да кашулі белы гузік. Прышывае чорнай ніткай. Гэты сон паўтараўся не адзін раз. Але ў пятнаццаць гадоў я апавёў яго маме. Яна падумала і сказала, што была ў мяне такая шэрая кашуля з кароткімі рукавамі. Але тое было даўно і я наўрад ці магу памятаць, бо знасілася яна вельмі хутка — тканіна, як марля...

Маміны рукі, бліскучая іголка, белы гузік на дзве дзірачкі... Мама перакусвае нітку, калі гузік прышыты, складае шэрую кашулю.

* * *

Мама, колькі сябе памятаю, заўсёды баіцца, што я спазнюся на цягнік. Так было і калі я толькі паступіў у мастацкую вучэльню, потым у інстытут. Баялася, што спазнюся з адпачынку ў войска... І цяпер баіцца, выпраўляе да аўтобуса раней, амаль на гадзіну. Трэба сказаць, што з яе дапамогай ні разу не спазніўся: ні на цягнік, ні на аўтобус.

Абдымае, просіць праверыць, ці на месцы квіток. Зноў абдымае, цалуе, прыціскаецца да мяне, нават на лесвічную пляцоўку выходзіць — там слёзы выцірае і прыспешвае. Так было і гэтым разам. Вядома, не спазніўся. Амаль гадзіну хадзіў на вакзале ў Гомелі. Потым, калі цягнік крануўся, згадаў, што не выканаў абяцанне, не вынес па дарозе смецце. Цэлы дзень збіраўся, а пасля і забыўся. Раззлаваўся на сябе, на сваю дзіравую памяць. Так раззлаваўся, што да самага Мінска крыўдна было.

Торбачка са смеццем стаяла ў калідоры, побач з маімі чаравікамі. Зусім і няцяжка было яе падхапіць.

* * *

Мама дваццаць сем гадоў адпрацавала на шклозаводзе — рэзала шкло. Гадоў васямнаццаць рэзала шкло на экспарт. І сёння ў шафе стос ганаровых грамат, дыпломаў, лістоў з розных краін з падзякамі за якасную працу. У дзяцінстве я забаўляўся з мамінымі рулеткамі і шкларэзамі, якія захоўваліся ў шуфлядцы шкапка на балконе.

Мама прыходзіла з завода стомленая. Сядала, апускала рукі і маўчала, глядзела ў падлогу.

Праз чвэрць гадзіны пачынала гатаваць, на твары з'яўлялася ўсмешка.

У вёсцы маму любілі, чакалі, бо яна рэзала вяскоўцам шкло. Рэзала хутка, акуратна і беражліва, бо шкло — каштоўнасць. Вяскоўцы з захапленнем глядзелі, як мама разрывае шкло, адломлівае вузкія кавалкі, складае шыбку з дзвюх шклін, рэжа, і нават лінейкай не карыстаецца.

Кропля яе ўмельства працаваць са шклом перадалася і мне. Усяго адна маленечкая кропля.

* * *

Свой тэлевізар, які гады чатыры не глядзім, увесну аддалі маме. Прыехаў да яе прыканцы кастрычніка, мама просіць наладзіць тэлевізар, бо праграмы збіліся. Папстрыкаў пультам — усё паказвае, усе дваццаць з нечым каналаў. Гляджу на яе, а мама тлумачыць, што каналы трэба зрабіць узапар, адзін за адным. «Мне трэба, каб я адразу магла ўключыць той, на якім вайна і Украіна»,— кажа мама. «Навошта табе вайну тую глядзець, будзеш толькі хвалявацца?» — пачынаю злавацьі абурацца.

«Як гэта навошта? А каб за вас меней перажываць. Зрабі вайну на першай кнопцы».

Так і не зрабіў, з'ехаў у Мінск, а цяпер перажываю, што не выканаў маміну дзіўную просьбу.

* * *

Вечар празрыста-ружовы, неба чыстае. Бяроза жоўтая і нерухомая, яе вершаліна вышэй за пяты паверх. Можна кожны лісток разглядзець. Мама стаіць, узіраецца ў ружовы і ціхі вечар. На пліце грэецца чайнік. Мама маленькая, важыць пасля бальніцы пяцьдзясят чатыры кілаграмы. Есць мала, як пташка. Абдымеш яе, прыціснеш, здаецца, хрубасціць, як сухая хлебная скарынка. А голас зусім не змяніўся, гучны, нават уладны. Яна глядзіць у вакно і спявае. Гудзе ціхенька баском: «Туман ярам, ярам даліною... Туман ярам...»

Раптам яна спахопліваецца, змаўкае, азіраецца, бачыць мяне і здымае з пліты вялікі чайнік: «Можа, паясі? Бліноў, можа, а хочаш дранікаў?»

Я ціха вяртаюся ў пакой, а мама глядзіць у празрысты кастрычніцкі вечар, на жоўтую бярозу... «За туманам нічога не відна, за туманам...»

Затуляю рукамі твар.

* * *

Некалькі разоў мама загаворвала пра сваю смерць. Я пачынаў злавацца, казаць, што не хачу пра гэта слухаць. Думаў, што яна не першы раз пачынае размову пра свой сыход, каб выклікаць спачуванне, каб я пашкадаваў яе... Потым, калі прачнуўся ўначы, згадваў маміны словы, то і зразумеў. Не сябе яна шкадуе, а мяне. І памалу, спакваля, ціхімі размовамі прывучае мяне да сваёй смерці, робіць так, каб я не вельмі баяўся непазбежнага, і, магчыма, хуткага.

* * *

Я дайшоў да рога высокага цаглянага паркана, які агароджвае тэрыторыю дзіцячага садка. Некалі, пяцьдзясят гадоў таму, мяне вадзілі ў гэты садок. Нават імёны выхавацелькі і нянькі памятаю. Няньчынага сына звалі Воўка. Ён быў высокі і дарослы. Мы дражніліся: «Воўка — маркоўка, спераду вінтоўка. Ззаду барабан — называецца кабан!» Нам было весела, а Воўка прыходзіў да сваёй маці, да цёткі Ані.

Ён смяяўся і бегаў за намі. Мы ўцякалі, хаваліся. Потым яго забралі ў войска і за паўгода прывезлі ў труне. Ён служыў памежнікам і загінуў на мяжы, здаецца, з Румыніяй, а можа, і Венгрыяй. На пахаванне мяне не ўзялі. Сына выхавацелькі звалі Сяргей...

Я азірнуўся. Мама, у цёмна-чырвоным, колеру журавін, зімовым паліто стаяла далёка, як маленькая рыска, як кропка.

Свяціла на халодным небе сонца. Рыска ці кропка... Як лепей напісаць?

* * *

Я праглядаў кніжкі, каб абраць тыя, якія забяру ў Мінск. Мама зазірнула ў пакой і сказала, што для мяне ёсць работа. Патлумачыла, што паміж ваконнымі рамамі ў спачывальні сядзіць муха. Сядзіць і глядзіць на яе, як вартаўнік. Звычайная муха: чорная, сярэдніх памераў. Пагрукаў па шкле — муха не паварушылася. Мама пачала тлумачыць, як раскруціць раму, прыадчыніць, а потым, праз вузкую шчыліну, вузкай рэйкай — штапікам, тую муху дастаць.

Пасмяяўся. Раскруціў. Муху пасунуў, і яна выпала на белае і чыстае падваконне. «Вось і добра... Не будзе на мяне глядзець»,— задаволена сказала мама і панесла муху ў сметніцу.

* * *

«Калі б ты змог напісаць пра маё жыццё — усё чыста, то людзі плакалі б. Такое яно было труднае... Усе, хто са мной вучыўся, а нас — рэзчыкаў шкла, было ў ФЗО трыццаць восем чалавек, усе памерлі... Адна я засталася з усёй групы»,— кажа мама.

«Усе тады так жылі — цяжка»,— заўважаю я.

«Амаль усе... Добра толькі тое, што ні дня не жыла ў людзей, заўсёды свой куток быў. Ложак у інтэрнаце, пакой у «камунальнай» дзевяць метраў, потым на Кастрычніцкай у камуналцы, цяпер гэтая кватэра... Дэкрэт давалі тады ўсяго на пяцьдзясят шэсць дзён. Як ты вырас!»

* * *

У спачывальні, побач з маміным ложкам, старая шафа. Там, на верхняй паліцы, дзе раней шапкі з капелюшамі ляжалі, шэры кардонны футарал ад фотаапарата «Змена-6». У гэтай скрынцы дакументы, аперазаныя чорнай аптэчнай гумкай. Сярод шматлікіх пасведчанняў, прапускоў, даведак, выпісак, метрыкаў, атэстатаў — чатыры чырвоныя кніжачкі — «Ударнік камуністычнай працы». У адной яшчэ яе дзявочае прозвішча, у астатніх — бацькава. Мама захоўвае гэтыя чырвоныя кніжачкі, але я не думаю, што для таго, каб пераконваць сябе, што жыла правільна.

Трымаю іх і не ведаю, што сказаць.

* * *

Вастру маме нажы: два старыя, знаёмыя, адзін новы. Мама глядзіць і кажа: «Нажом парэжаш палец, і ён так доўга не гоіцца, а шклом, няхай і моцна, за два-тры дні і загойваецца».

* * *

У мамы ёсць дзве рэчы, набытыя яшчэ да майго нараджэння: мясарэзка і вялікая патэльня, чыгунная, глыбокая. Дзіўна, але яны служаць і сёння, бо мама іх даглядае і беражэ.

Мне заўсёды падабалася глядзець, як мама круціць мяса на катлеты. Складае цьмяна бліскучую мясарэзку, прыладжвае на край стала. Сабраная мясарэзка нагадвае нешта жывое, вантробнае, таемнае... Мама круціць няспешна, аднастайна, без мітусні — ніводнага лішняга руху. Мяса, сала, цыбуля змяняюць форму, ператвараюцца... Праз дзіркі ў чорным дыску ў місу пачынаюць паўзці, вылазіць бела-чырвона-бела-чырвона-белыя... На гэта можна глядзець бясконца... Я і глядзеў, чакаў. Каб праз гадзіну першым есці духмяныя катлеты, якія смажацца на вялікай чыгуннай патэльні.

* * *

Касцюкоўка, насоўка — рыфма не вельмі...

Вядома ж, мама так акуратна ўставіла адпрасаваную, складзеную ў колькі столак, беленькую насоўку ў кішэнь майго сіняга пінжачка. Я ішоў у другі клас ПСШ № 14. Першага верасня.

Пра насоўку я згадаў, калі мне разбілі нос. За што — не памятаю. Хто разбіў — ведаю, але гэта не істотна. Насоўкай я выціраў чырвоную і ліпкую юшку. Стаяў пад школьнай прыбіральняй, румзаў і выціраў. Кроў сунялася. Насоўку скамечыў і запхаў у кішэнь...

А хлопцу, які даў мне кулаком у нос, я ўдзячны.

Уся яна — мая Касцюкоўка, ці мой гэпэ — такія маленькія, што я магу, загарнуць, схаваць іх у тую скрываўленую насоўку.

З усімі мільёнамі ўспамінаў.

Малая Радзіма — скрываўленая насоўка.

* * *

Мама кажа: «...а потым мы пайшлі... Куды пайшлі? А ў бежанцы і пайшлі... Бацька, Вольга, я, Шура і Надзя... Зайшлі некуды пад Рэчыцу... А як там хаваліся, дзе, у каго — не памятаю, хоць і не малая тады была. Забылася, як здурнела... Вольга і Шура памятаюць, хоць Шура і маладзейшая за мяне на тры гады, а можа нешта апавесці, а я не памятаю, як ішлі, як там было... Вярнуліся дамоў узімку, калі Гомель вызвалілі. Нас цётка, якая насупраць жыла, пусціла да сябе ў хату. Не, нашу хату не спалілі. Засталася, але дужа разбурылі яе салдаты. Расцягнулі, калі бліндажы свае будавалі. Столь разабралі, падлогу, дзверы паздымалі, вокны...»

* * *

23 снежня лёг спаць а палове на другую і хутка заснуў. Спаў моцна, але нечакана прахапіўся. Намацаў у цемры мабільнік, націснуў клавішу, паглядзеў час. Пятая гадзіна пяць

хвілін. За паўгадзіны заснуў і прачнуўся, калі было светла. Зварыў каву, сеў працаваць, але не пісалася і не чыталася.

А палове на пятую, на хатні тэлефон — званок. Высветлілася, што гэта Люба — маміна суседка з трэцяга паверха. Люба сказала, што а пятай раніцы маму забрала «хуткая», бо «сарвалася сэрца» (збілася з рытму). Патлумачыла, як ім пашанцавала, бо на «хуткай» дзяжурыў сын майго стрыечнага брата. Ён і завёз маму з Касцюкоўкі ў Гомель, у Першасавецкую бальніцу, у кардыялогію.

Я пачаў тэлефанаваць у кардыялогію, але безвынікова: ці не здымаюць, ці нумар заняты... А палове на шостую патэлефанаваў стрыечны брат. Ён прыйшоў адведаць цётку. Набраў мяне, і я паразмаўляў з мамай. Яна апавяла, як з самага вечара балела сэрца, а потым ноччу яна папрасіла суседку, каб тая прыйшла. Суседка памерала ціск і выклікала «хуткую». Машына прыехала а пятай раніцы». Ты толькі не хвалюйся, сынок, цяпер мне лепей... Не, ехаць да мяне не трэба. Усё ў мяне ёсць, торба для бальніцы стаяла сабраная...» — мама намагалася гаварыць бадзёра, занадта гучна, яна амаль крычала...

* * *

Сядзелі з мамай на канапе і перабіралі старыя фотаздымкі. Раптам яна зняла акуляры, апусціла рукі, задумалася.

«А колькі таго шчасця ў маім жыцці было? Ну, можа, трохі і было... Вось столькі»,— яна сказала і развяла пальцы — вялікі з указальным. Прасвет паміж імі быў маленькі, як гузік з дзіцячай кашулі.

Потым мама спахапілася і пачала акуратна разладжваць загнуты ражок старога фотаздымка, на якім бацька вядзе за руку майго малодшага брата. Бацька ў чорным і доўгім плашчы, а брат, як пінгвін, хоць і ў светлым камбінезоне.

*2011—2014*

# САЛДАЦКІ ГУЗІК

*1983—1985 год*

«Мне сняцца сны аб Беларусі...»

## Сала

Варанае сала называлі «жывым», бо яно было шэрае і пругкае, як гума. Упадзе на стол ці на падлогу і падскоквае жабай. Але і яго елі, нават дзялілі вялікія кавалкі напалам, разрывалі лыжкамі, а калі не атрымлівалася, то пальцамі. Тыя, хто праслужыў паўгода і болей, грэбавалі вараным салам, не елі, але глядзелі, як яго жаруць маладыя, як ім душацца.

Насупраць мяне сядзеў Сашка Іваноў — балгарын з Кіева. Гэта было ў першыя тыдні службы, калі нас, галодных і запалоханых, хістала ад стомы. Мы раздзялілі лыжкамі вялікі кавалак такога, яшчэ цёплага сала... Хутка з'елі. Паглядзелі ў пустыя талеркі. Сашка кавалкам хлеба падабраў тлушч.

«Ведаеш, у мяне такое адчуванне, што мы трапілі не самахоць у нейкі эксперымент, нас цяпер даследуюць... Адслужым, а потым будзем ганарыцца, што выжылі, ацалелі. Ці не будзем?» — сказаў Сашка, з'еў хлеб і закашляўся.

Я ляпаў яго па спіне кулаком, а ён кашляў і кашляў. І твар, і шыя, і патыліца зрабіліся чырвоныя, колеру пагонаў, слёзы пацяклі з вырачаных вачэй, ён сутаргава спрабаваў расшпіліць кручок на каўняры гімнасцёркі. Расшпіліў.

«Абышлося, ледзь не здох. Дзякуй. Гэта ты пазайздросціў, відаць!» — спачатку выдыхнуў, а потым прашаптаў Сашка.

Я пагадзіўся. Пазайздросціў.

## Вока

У першы тыдзень службы Толік Бохан змог напісаць адзін ліст. У другі — два. На трэці ліст напісаў, але не было капэрты, каб даслаць. За чацвёрты тыдзень ён напісаў яшчэ два лісты і пазычыў тры капэрты ў земляка. Старанна пазаклейваў і аддаў сяржанту, каб той перадаў паштальёну. За месяц Толік даслаў шэсць лістоў і не атрымаў ніводнага ў адказ. Малады салдацік запераджываў, пачаў моцна хвалявацца.

Перад «адбоем» Толікавы лісты чыталі ўголас. Казарма рагатала. Паспелі прачытаць чатыры. На пятым Толік заплакаў, а ўсе развесяліліся яшчэ болей. Калі дачытвалі шосты ліст да невядомай Валі Гурок, Толік кінуўся на сяржанта, якому аддаваў пошту, і ўказальным пальцам выбіў вока. Быццам выпадкова.

Сяржанту ўставілі шкляны пратэз і камісавалі.

А Толік адслужыў свае два гады і атрымаў медаль «За адвагу на пажары». Валя Гурок Толіка не дачакалася. Купалася п’яная ў Дняпры і ўтапілася.

## Гашак

Раніца яшчэ бэзавая, сухі снег рыпіць, салдаты скрабуць плац да бетона... Хочацца спаць, есці, нікога не бачыць, не чуць. Калі я прыйшоў пасля сняданку ў клуб, прапаршчык Жэнька Канахоўскі сядзеў у фатэлі і курыў. Яго бабінны магнітафон граў. Жэнька наліў кубак моцна запаранага чаю, прапанаваў цыгарэту. Я закурыў і пачаў грэць аб гарачы кубак замерзлыя рукі. Прыбег начальнік клуба, на кожным пагоне па тры зоркі, твар з холаду чырвоны, на тонкіх вусіках кроплі і на носе, на самым кончыку — кропля. Ён выключыў магнітафон: «Ты што, не разумееш, Жэня, сёння можа быць толькі ціхая і жалобная музыка. Мінор».

Прапаршчык Жэнька — мастак-самавук, тыцнуў цыгаркай у бок вялікага раскладнога стала, побач з якім стаяў

штабны планшэт — сто дваццаць на сто. На ім былі чорна-белыя фотаздымкі таварышаў з Палітбюро і кандыдатаў.

«Ты ведаеш... І што ў штабе кажуць, хто цяпер будзе?» — начальнік клуба глядзеў на чорна-белыя фотаздымкі памерам дваццаць на пятнаццаць. «Саша, а хіба табе не ўсё роўна?» — Жэнька расціснуў вялікі недапалак аб донца попельніцы. Начальнік не адказаў на пытанне, а пабег шукаць сталяра, каб павесіць сцяг з чорнай стужкай побач з уваходам у клуб. Старшы прапаршчык Рацыёнаў любіў розныя рытуалы і гучную вайсковую музыку.

Мы па-будзённаму заняліся вялікім планшэтам — памёр Андропаў Ю. У., і ўсе планшэты цяпер трэба перарабляць: у штабе, клубе, ротах, батальёнах, на гаўптвахце і ў каравулах.

За паўтара года я незлічоную колькасць разоў здзіраў і пераклейваў гэтыя планшэты, бо мужчыны з прэснымі тварамі, у пінжаках і мундзірах, паміралі і паміралі, быццам спаборнічалі. Партрэты нябожчыкаў даводзілася выдаляць, жывых перасоўваць, змяняць парадак, падпісваць. У тыя лютаўскія дні, калі памёр Андропаў і яго партрэт замяніў партрэт Чарненкі, я ўнёс прапанову. Сутнасць яе зводзілася да таго, што не трэба фоткі ляпіць да планшэтаў на клей ПВА, лепей карыстацца гумовым. Жэнька адразу зразумеў усе выгоды такой прапановы. І мы хутка зрабілі два планшэты — штабны і клубны.

Праслужыў я тады яшчэ толькі тры з паловай месяцы. Хацеў збегаць у бібліятэку, але Жэнька затрымаў: «Слухай, не трэба «свяціцца», падумаюць, што табе няма чаго рабіць. Калі што спатрэбіцца, скажы, я прынясу».

У тыя лютаўскія дні я вырашыў перачытаць Гашака. Прапаршчык прынёс кніжку ў дыпламаце. Я загарнуў яе ў газету, схаваў у ніжнюю шуфляду працоўнага стала, туды, дзе ляжаў самаробны кіпяцільнік, нататнік, лісты ад жонкі, бацькоў і сяброў.

Прыгоды салдата Швейка смешнымі мне тады не падаліся. Кніжку не дачытаў.

## Кісель

Кісель давалі два, а калі і тры разы на тыдзень. Звычайна ён быў шэра-ружовы, густы, вогненны. Налівалі па кубках з шэрых пяцілітровых чайнікаў. На вайсковым кісялі плавалі плеўкі. Зачэпіш лыжкай, а яна вісіць, цягнецца, як гумовы клей. Глынеш-каўтанеш, пачатак плеўкі ў горле, а хвост яшчэ ў кубку боўтаецца...

Тыя, каму неўзабаве на дэмбель ці ў адпачынак, кісель не пілі. Грэбліва і прынцыпова адсоўвалі ад сябе посуд. Прапаршчыкі з афіцэрамі той салдацкі кісель ніколі не пілі, як і кухары з хлебарэзамі. Меркавалі, што менавіта ў кісель падсыпаюць бром, каб салдатам не хацелася і нават не думалася пра дзевак. Хто і калі падсыпае — невядома. Я не верыў у такую фігню, смяяўся, але перад адпачынкам кісель не піў, дзеля ўсяго дзеля.

## Фрэнсіс Скот Фіцджэральд

Юра Вяткін служыў пісарам у штабе. Ён пасля школы хацеў паступіць у Інстытут міжнародных зносін, але бацька сказаў, што паступіць туды нават ён, вайсковы начальнік, роднаму сыну дапагчы не зможа. Юрка паступіў у «Плешку», скончыў, размеркаваўся ў Дзяржплан, тры месяцы папрацаваў побач з Крамлём, і яго забралі ў войска. Любімы пісьменнік у пісара Вяткіна быў Скот Фіцджэральд, а любімы раман «Tender Is the Night». Мы з ім гэты раман згадвалі ў размовах, але пасля таго, як ён прынёс кнігу, і я яе прачытаў.

Аднойчы, каб зрабіць сябру прыемнае, я замовіў кінамеханікам фільм «У джазе толькі дзяўчаты». Наша пажарная брыгада ахоўвала кінастудыю «Масфільм», а таму стужку прывезлі ў чатырох шэрых яўфах. Я запрасіў Юрку ў клуб, дзверы зачынілі, і Толік Палій пусціў кіно на вялікі экран. Мы сядзелі з Юркам у вялізнай зале і глядзелі на Мэрлін Манро. Раптам Юрка падхапіўся, скінуў парадны кіцель, фуражку, заскочыў на сцэну і пачаў танчыць.

Я сядзеў, курыў, глядзеў на шчаслівага чалавека, які скакаў да знямогі па сцэне ў мітуслівым кіношным святле. Потым ён сеў побач, аддыхаўся і прамовіў: «Валодзька, як жа я хачу туды!» — паказаў пальцам на экран.

Дваццаць другога студзеня 1985 года, на мой дваццаць сёмы дзень народзінаў, Юрка Вяткін зрабіў мне падарунак — кніжку Фрэнсіса Скота Фіцджэральда.

## Паланскі

У самаробным барвовым дыпламаце дэмбеля Толіка Палія ляжаў альбом, зроблены паводле ўсіх канонаў: сукно, адчаканеныя ражкі, бліскучая эмблема, калькі з контурнымі малюнкамі, запырсканыя вогненнымі кроплямі чорныя кардонныя лісты з рознымі фотаздымкамі, позва на службу, газетная выразка з загадам міністра на звальненне… Апрача альбома вёз на рідну Украіну клубны кінамеханік сяржант Палій і круглую залацістую бляшанку. Дыпламат ён замовіў адмысловы, на два з паловай сантыметры большы, чым звычайны. Памер дыпламата дыктавала стандартная бляшанка з кінастужкай на 35 мм.

За два гады службы кінамеханік Палій паказаў салдатам болей за дзве сотні фільмаў, а сам паглядзеў нашмат болей, бо меў шчаслівую магчымасць браць на «Масфільме» нават яшчэ не пераагучаныя замежныя стужкі. Неяк Толік прывёз фільм, дзе была толькі адна беласкурая актрыса. Астатнія — чорныя, усе на адзін твар. Здаецца, там казалі па-нямецку. Дзеянне адбывалася ў афрыканскай краіне. Белая жанчына спрабавала стварыць агенцтва з манекеншчыцамі з мясцовых дзевак…

Але вернемся да залацістай бляшанкі. У ёй ляжаў фільм на дваццаць восем хвілін, які за два гады службы таемна ад усіх зрабіў наш кінамеханнік. За пару тыдняў да звальнення Толік паказаў мне тое кіно. Познім вечарам, амаль ноччу, калі ў клубе засталіся толькі мы, ён прапанаваў глянуць. З гонарам прапанаваў, але і крыху сарамліва, ружовыя плямы пайшлі па шчоках.

Я сядзеў на апошнім крэсле, пад сцяной з амбразурамі кінапраекцыйнай. Святло ў зале згасла, вялікі экран аджыў, засвяціўся... Прабегла ракорда з лічбамі, а потым пайшло кіно — нарэзка з эратычных сцэн, як каляровых, так і чорна-белых, як з савецкіх фільмаў, так і з замежных. Жанчыны распраналіся, смяяліся, цалаваліся, абдымаліся і падалі на ложкі, траву, на сена, на пясок, у ваду... Кіно на вялікім экране ішло бязгучна. Калі шчыра, то я крыху спалохаўся, а яно ішло, круцілася, праектар шумеў шчыльным гарачым ветрам... Але раптам усё скончылася. Запалілася святло, грукнулі жалезныя дзверы кінабудкі. З'явіўся расчырванелы кінамеханік. Ён быў у галіфэ, кіцель на голае цела, пілотка вытыркалася з кішэні. «Ну, Сядой, як табе?» — спытаў Толік.

Я цяжка падняўся і зашчоўкнуў рэмень. Потым пілі чай, і Толік згадваў, як выразаў з фільмаў кавалкі, дзе кароценькія, дзе доўгія. Тады склейваў скотчам на мантажным стале.

Мы пасмяяліся, бо назад не адкруціш, не ўставіш, не ўклеіш.

Барвовы дыпламат ружовашчокаму кінамеханіку вынес за КПП прапаршчык з прозвішчам Шпачок, калі праводзіў свайго падначаленага на Кіеўскі вакзал. Тое самаробнае і безназоўнае салдацкае кіно калі-нікалі раптоўна згадваецца, як і іншыя выдатныя фільмы.

## Чубчык

Увесну 84-га брыгада рыхтавалася да вялікай і адказнай міністэрскай праверкі. Мне даручылі «разабрацца» з нашым спартовым гарадком. Даручылі за два з паловай тыдні да праверкі. Я прыдумаў зрабіць вялізнае пано на жалезных лістах, а потым лісты сабраць. Павінна было атрымацца доўгае і высокае пано, якое затуліць турнікі, ямкі, лесвіцы — палепшыць агульны выгляд.

На белых жалезных лістах намалююцца спартоўцы ў рознакаляровых майтках і саколках з дынамаўскімі эмблемамі. Пабягуць лыжнікі-біятланісты і, нават, будуць страляць.

Эскіз на доўгім планшэце камандзірам спадабаўся. Пачалі рабіць жалезныя стойкі, ліць бетон, а я маляваў і фарбаваў у клубе жалезныя шчыты. Прапаршчыкаў і афіцэраў дзівіла, як я алоўкам маляваў па белых шчытах спартоўцаў, а потым расфарбоўваў. Усе бегуны атрымаліся выразныя, нагадвалі карціны мастака Аляксандра Дайнекі. Дужыя, мускулістыя, лысагаловыя, імклівыя…

Калі сабралі, прыкруцілі, падфарбавалі, то я вырубіўся ад стомы. Ляжаў на траве, пад парканам, вочы затуляла пілотка. Нават курыць не хацелася…

Восьмага траўня раніцай прыехала праверка. Генерал доўга стаяў перад яркім пано, а потым сказаў, што спартоўцы нагадваюць не савецкіх салдацікаў, а крымінальнікаў, бо занадта яны лысыя. Усе згодна пачалі ківаць.

У майстэрню прыбег капітан Машын, які ў палітаддзеле адказваў за ўсю афармілаўку, і пачаў мяне прасіць нешта прыдумаць, каб спартоўцы хутчэй ператварыліся з крымінальнікаў у савецкіх ваеннаслужачых, якія займаюцца спортам.

Са скрыняй, слоікамі фарбы і пэндзлікамі я пайшоў на спартыўны гарадок і хутка падамалёўваў лысагаловым бегунам і лыжнікам чубчыкі — кароткія, кучаравыя і смешныя, як у першакласнікаў. Генерал і падначаленыя спыніліся, калі ішлі да КПП, і самы галоўны засмяўся, прамовіў: «Чубчык, чубчык, чубчык кучаравы…» Усе лісліва заўсміхаліся.

За тое вялізнае пано (14 метраў на 3), а, хутчэй, за «чубчык», атрымаў адпачынак, хоць і года не адслужыў.

Прапаршчык Канахоўскі, калі хацеў мяне пацвяліць, ставіў на магнітафон бабіну, і з калонак гучала песня «Чубчык», спяваў яе, здаецца, Новікаў.

## Цыгарэта

На гадзінніку палова на першую. Я згасіў вялікае святло пад столлю, пакінуў запаленай адно маленькую жоўтую лямпачку побач са станкамі. Потым залез на стол і адчыніў раму

вялікага вакна. Дыхнула ноччу, сырым і прахалодным красавіцкім паветрам. Пахла начное паветра зямлёй, дрэвамі і смажанай рыбай. Давялося саскочыць на падлогу, каб узяць бушлат і цыгарэты. Закурыў і сеў на падваконне. Сядзеў, дыхаў, думаў пра ноч, хмары, за якімі зоры, глядзеў на бетонны паркан з калючым дротам, за якім вуліца, горад, людзі...

Потым пабачыў вартавога ў доўгім шынялі, зімовай шапцы, з аўтаматам. Ён ішоў асфальтам, побач з парканам. У яго на плячы чарнеў аўтамат. Вартавы ішоў спакойна, мокрым асфальтам, па плыткіх калюгах. Я далічыў да трыццаці, і ён апынуўся пад вокнамі майстэрні. Я ціхенька свіснуў. Вартавы спыніўся, задраў галаву і ўзрадавана сказаў: «Прывітанне, зноў не спіш? Кінь закурыць».

— Ты ж не курыш? — сказаў я са здзіўленнем.

— Кінь, Сядой,— ціха папрасіў салдат з аўтаматам.

У пачку было тры цыгарэты, і я думаў.

— Толік, ты ж не курыш!

— Сястра напісала што ў маткі інсульт. Пайшла карову даіць і паваліліся ў двары. Вось так!

Толік Казёл спрытна злавіў цыгарэту ў шапку, падзякаваў і пайшоў. Ён спыніўся ў самым цёмным месцы, пад бетонным парканам.

Чырвоная кропка цыгарэты хутка згасла.

Я зачыніў вакно, памыў ногі і лёг спаць.

## Сон пра раку

Чорнай-чорнай вадою плывуць белыя крыгі. Яны плывуць ціха-ціха, амаль стаяць. І цёмныя хмары, падобныя да крыгаў стаяць у шэрым небе, быццам плывуць. Берагам бяжыць руды сабака. Ён хоча на той бераг, бо там лес, але крыгі плывуць і хмары плывуць. На тым беразе дом з чырвоным бляшаным дахам. Гэта дом майго дзеда. Я сам фарбаваў той бляшаны дах, калі быў падлеткам. Але побач з нашым домам не было вялікай ракі, ніколі. Толькі лес, толькі лес і вялікі цёмны курган...

## «Белавежская»

Беларусы звалі яго Шкварка, а рускія мянушкі не разумелі. З Юркам Шварко я пазнаёміўся ў ваенкамаце, у тым, дзе сёння музей Савіцкага. Пілі гарэлку ў бруднай прыбіральні. Потым курылі. Потым зноў пілі і чакалі, калі нас павязуць. Пілі ў цёмным цягніку, курылі ў ледзяным тамбуры. У брыгадзе нас размеркавалі ў розныя роты. Здаралася, што сустракаліся ў сталоўцы, а пасля ў клубе, дзе я служыў мастаком. Юрка не паспеў скончыць свой сельскагаспадарчы. Яго забралі, здаецца, пасля трэцяга курса.

У красавіку, калі вось-вось павінны былі прыйсці ў брыгаду маладыя, сустрэліся ў клубе. Брыгада прыйшла ў кіно, я хадзіў па зале з чырвонай павязкай на рукаве. На чырвонай тканіне надпіс «дзяжурны». У мяне быў добры настрой, і я ўсцешыўся, калі пабачыў земляка Юрку Шварко. Мне захацелася зрабіць яму нешта прыемнае, бо выглядаў ён кепска. І яшчэ мне карцела паказаць, як добра я ўладкаваўся, якая ў мяне вялікая і цёплая майстэрня.

Калі пачаўся фільм, то я паклікаў Юрку ў майстэрню. Там у мяне была палова пляшкі «Белавежскай». Мы выпілі, заелі хлебам, запілі распушчальнай кавай «Пеле», пакурылі, паразмаўлі, і ў цемры Юрка вярнуўся на сваё месца. Кіно скончылася, зала апусцела, зрабілася вялікай. Я пераапрануўся ў бруднае і сядзеў з цыгарэтай на апошнім шэрагу, побач з уваходам у майстэрню. І тут на стале затрашчаў тэлефон. Я падняў слухаўку, назваў прозвішча, пачуў незнаёмы голас. Камандзір роты, той, дзе служыў Шварко, загадаў імгненна прыйсці да яго. Салдат Шварко здаў мяне.

Я спалохаўся, бо разумеў, што нічога добрага чакаць не выпадае. Кінуўся чысціць зубы, потым есці часнык, потым памазаў у роце смярдзючым бальзамам «Зорка», абліўся адэкалонам і ацэтонам. Гэта ўсё рабілася хутка. Перабег плац і, смярдзючы, з'явіўся перад капітанам. Той адразу пачаў крычаць і палохаць, абяцаць, што «засадзіць» на гаўпт-

вахту, калі я не прызнаюся, адкуль гарэлка. Я маўчаў. Юрка глядзеў у падлогу. На мяне вочы не падымаў. Капітан стаміўся крычаць і палохаць. Яму хацелася спаць...

Той ноччу я не заснуў, бо разумеў, што мне цяпер — капут, з клуба выпруць. Дачакаўся прапаршчыка-мастака, апавёў пра свае праблемы. Прапаршчык пацвердзіў, што капітан «кантужаны на ўсю галаву», што дамовіцца з ім цяжка, але пайшоў у тую роту. Перамовы цягнуліся доўга. Прапаршчык вярнуўся і сказаў, што хутка, без чаргі, давядзецца афарміць ленінскі пакой у той роце.

Афармілаўку зрабіў за чатыры красавіцкія ночы. У апошнюю ноч, пад самую раніцу, з носа нечакана палілася кроў. Запэцкала планшэт з прысягай, давялося перарабляць. Дапамог прапаршчык. З Юркам Шварко я не вітаўся да самага дэмбеля, хоць хіба ён вінаваты?

Гарэлку мне прывёз брат, а бальзам з чырвонай зоркай доўга выклікаў алергію.

## Каранцін

Дзьмуў вецер, ды яшчэ з дажджом і лёдам. Камандзір брыгады выглядаў манументальна. Ён хутка ішоў, вецер у спіну, і глядзеў на салдатаў. Брыгада стаяла на плацы, усе, хто мог...

Палкоўнік спыніўся на каналізацыйным люку, амаль пасярод плаца, і афіцэры, якія спяшаліся следам, спыніліся. Палкоўнік зняў шэрую папаху, сціснуў яе, а потым сказаў гучна, як на пажары: «Запомніце! У войску толькі жывыя і мёртвыя, і ніякіх хворых! Ні-я-кіх! Усім мыць рукі!»

З папахай у руцэ ён пайшоў да штаба. У брыгадзе абвесцілі каранцін, болей за сто чалавек ляжалі з гепатытам, людзей не ставала, а Масква гарэла, як заўсёды, пакуль не дадуць ацяпленне.

Рукі мне даводзілася мыць часта, бо яны пэцкаліся ў фарбу, і жаўтуха мяне абмінула.

## Таіці

У кабінеце начальніка клуба прапаршчыка Рацыёнава было дзве клеткі з маленькімі папугайчыкамі колеру недаспелых лімонаў. Вясёленькія пташкі гучна скрыгаталі крывымі дзюбамі, быццам нехта шчыльную паперу дзярэ. Сваімі гадаванцамі прапаршчык ганарыўся, палец у клетку запіхваў, папугайчыкі на пракураны доўгі палец смела сядалі, дзяўблі руды пазногаць.

На самым пачатку кастрычніка я атрымаў загад зрабіць у доўгім пакоі фотастудыі вальер. Дапамагаў мне сталяр Ігар Січкар, якага перавялі ў клуб, бо салдат моцна заікаўся, асабліва, калі пачынаў хвалявацца. Сказ у два словы ён мог прамаўляць вельмі доўга. «Та-та-та-та-таварыш пра-пра-прапрапаршчык...» — пачынаў свой зварот салдат, а скончыць не мог, бо ўсім надакучвала.

Я намаляваў заднік. Пальмы, лісце дробнае і вялікае, кветкі, ліяны, дзівосныя расліны, блакітнае неба, мора... Вялікі заднік ад падлогі да столі, ад сцяны да сцяны, а сталяр зрабіў рамы, абцягнутыя жоўта-зялёнай капронавай сеткай, дзверы, каб у вальер заходзіць і прыбіраць, сыпаць пташкам ежу, даліваць ваду ў ружовыя фотаванначкі... Яшчэ ён прынёс дрэўца і паставіў у вальеры, каб папугайчыкам было дзе пасядзець.

Даглядаць пташак клубны начальнік даручыў заікатаму, а таму маўкліваму, сталяру. Папугаі пачалі пладзіцца з неверагоднай хуткасцю. Напачатку пятнаццаць, потым сорак, а за два месяцы пералічыць і назваць дакладную колькасць не мог нават Ігар.

Начальнік клуба пачаў папугайчыкаў прадаваць. Звычайна браў дзясятак пташак у малую клетку, абгортваў яе цёмнай тканінай і зносіў. Усё ішло добра і складна, пакуль да сталяра не наважылася прыехаць жонка.

Ігар тыдзень хадзіў вясёлы. Ён хоць праслужыў толькі першыя паўгода, але прапаршчык Рацыёнаў паабяцаў адпусціць яго на цэлыя тры дні і дзве ночы.

Светка ехала ў цягніку да Масквы, а Ігар рыхтаваўся да спаткання з маладой жонкай. Мыўся, галіўся, прасаваў парадку... Але ў самы апошні момант прапаршчык перадумаў, бо на тры дні не было на каго пакінуць папугайчыкаў, і салдата да жонкі не пусціў. Без усялякіх тлумачэнняў ён пайшоў з клуба да КПП з дыпламатам у адной руцэ і маленькай клеткай у другой.

Ігар сядзеў на сцэне, як пабіты, і гэтым разам, насамрэч, слова не мог сказаць. Яго паголены твар торгаўся, крывіўся, рот бязгучна разяўляўся, а вочы чырванелі і слязіліся. Гэта была субота, да новага 1985 года заставалася пару тыдняў. Папугаі напярэдадні святаў прадаваліся добра.

У нядзелю, пасля таго як скончылася кіно, змрочны сталяр падняўся ў фотастудыю. Папугаі сустрэлі яго радасным пырханнем і скрыгатам. Але салдат не стаў іх карміць, не стаў іх паіць, і вальеру не адчыніў. Ён стаў на крэсла, паглядзеў у марозную чорна-сінюю ноч і расхінуў вялізнае вакно. Саскочыў на падлогу, патушыў святло, замкнуў студыю і пайшоў у казарму спаць. Раніцай, яшчэ да сняданку, Ігар з'явіўся ў клубе і зачыніў вакно.

Чырванашчокага, з марозу, прапаршчыка сталяр сустрэў пры ўваходзе ў клуб. Падбег да яго, прыклаў руку да скроні і прамовіў: «Та-та-та-ва-рыш прапаршчык, там м-м-м-м-м-мор!»

У фотастудыі было цёпла і ціха. Пад намаляванымі ярка-зялёнымі пальмамі, бананамі, ліянамі, кветкамі і рознымі іншымі раслінамі ляжалі, як ападкі, стракатыя пташкі. Потым, калі Ігар згроб і склаў у кардонную скрыню птушыныя трупікі, то і палічыў. Папугайчыкаў было роўна «сто-д-д-д-ва-ццаць пяць...»

## Сяргей

Калі да нечага няздатны, то менавіта гэта неверагодна хочацца рабіць... Я спяваць не ўмею. Зусім. Не даў Бог таленту... Я спяваць не ўмею, а мой сябра Сяргей Дарашэнка спяваў добра. Сяргей працаваў у лазні. Усё, што там было

і адбывалася — належала і падпарадкоўвалася яму. Былі і памагатыя — пара салдат з Калугі.

Калі Дарашэнка прыйшоў у лазню, то ён здолеў вельмі хутка навесці парадак. Лазня ў войску справа святая, як кухня... Дарашэнка быў з Чарнігава, да войска наргас паспеў скончыць. Сядзім мы ў лазні, каву п’ем молатую, шакалад ямо, цукерачкі з печывам трушчым, а салдаты мыюцца, сварацца, крычаць. Памагатыя лазеншчыка чыстую бялізну, ручнікі і анучы выдаюць. Сяргей раптам падыдзе да дзвярэй, вакенца адчыніць, руку ў распраналку выцягне, схопіць, хто пад яе трапіцца.

«А зайдзі, салдат, да мяне»,— скажа ласкава і дзверы сам адчыніць. Перапалоханы салдацік у споднім стаіць і на нас з Сяргеем няўцямна глядзіць...

«Нешта сумна мне, салдат... Заспявай-ка песню... І таку сумну-сумну, пра рідну бацькіўшчыну»,— просіць Сяргей салдата.

Той праспявае, як можа. Большасць спяваць не ўмела, як і я. Сяргей сам дасць байцу чысты камплект сподняга, дзверы прычыніць, кавы глыне і сам пачынае ўкраінскую песню цягнуць.

Добра спяваў мой армейскі сябар. Голас меў мяккі і густы, мог і высокія ноты выводзіць, і нізкія. Пра гетмана Сагійдачнага любіў спяваць, пра казакоў, якія па-під гарой ідуць... Пра маці, якая стаіць, каля хаты... пра Галю, вядома... Пра Днепр, які раве тай стогне, сярдзіта хвалі падыма...

Наслухаўся я за паўтара года песень украінскіх прыгожых, павывучваў многія, але толькі і магу, што пераказаць...

Аднаго разу зацягнуў Сяргей у свой склад салдаціка маленькага і хударлявага. Папрасіў, каб той песню сумну заспяваў. Салдацік паглядзеў на мяне, потым на суворага лазеншчыка Дарашэнку, стаў спінаю да паліц з бялізнаю і заспяваў...

У мяне печыва з рота выпала, а Сяргей сеў і галаву рукамі абхапіў... Потым падцягваць узяўся. За дзвярыма нехта лаяцца пачаў, у вакенца пагрукаў...

Сяргей вакенца адчыніў і сказаў, каб усе заторкнуліся, а калі не, то ён ваду гарачую перакрые. Мог ён такое зрабіць. Мог! Рэзкі быў хахол. Сапраўдны.

Салдацік спяваў далей, як нічога ніякага. Мы таго хлопчыка кавай напаілі, цукерак далі, бялізну самую новую, паводле памеру... Што за песня была? Італьянская, чуў яе пасля ў выкананні Павароці. Вельмі сумная, як знарок, пад той настрой вайсковы. З «Гнесінкі» салдацік аказаўся, з другога курса ў войска забралі...

Я на пару тыдняў раней за Дарашэнку дамоў пайшоў. Потым атрымаў ад Сяргея запрашэнне на вяселле. Я ж партрэт яго нявесты з фотаздымка намаляваў. Прыгожая дзеўка, як тая ружа.

## Сон пра дарогу

Свяціла сонца. Высокае, сляпучае, летняе. Вакол поле з травой, сосны на пагорках, лес на даляглядзе сасновы. Праз поле дарога жоўтая, пясчаная. На пяску сляды: птушыныя, чалавечыя, капыты конскія адбіліся... Пясок здаецца залатым, мяккім і цёплым. Так і хочацца на яго стаць. Быццам іду дарогаю, а слядоў не пакідаю. Спыняюся, з нагі на нагу пахістваюся, а слядоў не пакідаю...

Куды гэтая дарога, адкуль? Здаецца, знаёмая, нават вельмі, а сваіх слядоў на ёй не бачу.

Прачынаюся. Босым нагам халодна ад каменнай падлогі. У дзверы майстэрні грукаюць...

## Кухар

Не памятаю, калі і пры якіх акалічнасцях мы пазнаёміліся, а потым пасябравалі. Кухар Толік Вузкі любіў парадак і дысцыпліну. Ён хадзіў па кухні, сярод гарачых чорных пліт, вялізных катлоў і патэльняў у ідэальна белым халаце і такім самым белым каўпаку. У кішэні галіфэ насіў сцізорык з чорнымі тронкамі, на ценькім ланцужку. З Толікам ні

прапаршчыкі, ні начальнік сталовай не спрачаліся, слухалі, хоць ён і быў звычайным салдатам.

Калі Толік працаваў уначы, то тэлефанаваў мне і пытаўся, ці не хачу я пад'есці. Вядома, мне хацелася есці, і я прызнаваўся, што галодны. Ён прасіў адчыніць жалезныя дзверы з вуліцы, каб не ісці праз плац, і за чвэрць гадзіны прыходзіў да мяне ў майстэрню з ежай. Мы сядзелі пры вялікім стале, елі і размаўлялі, слухалі музыку з прыёмніка. Толік апавядаў пра бацькоў, пра малодшую сястру, пра свой украінскі гарадок. Ён не прасіў мяне, але я яго колькі разоў намаляваў у высокім белым каўпаку, ружовашчокага, сінявокага, сумнага, як П'еро...

Намаляваў і аддаў малюнкі, бо навошта яны мне.

Калі мне да дэмбеля заставалася дзён дзесяць, а кухару паўгода, ён прыйшоў да мяне ў майстэрню ўначы, прынёс яшчэ гарачай смажанай рыбы ў кардонках ад рафінаду, і мы сядзелі і моўчкі елі. Калі паелі і памылі рукі, то кухар адшпіліў ад карабінчыка свой знакаміты сцізорык. «Няма ў мяне нічога лепшага за гэты ножык... Вазьмі яго сабе. Будзеш хлеб ці што іншае кроіць, аловак вастрыць — пра мяне падумаеш... Мне і будзе добра. Бяры-бяры»,— сказаў Толік Вузкі, расклаў сцізорык, выцер лязо аб калашыну, зачыніў.

З тым ножыкам я прахадзіў гадоў дваццаць пяць. Лязо стачылася, зрабілася вузкім, але рэзала добра. З тым ножыкам я і на рыбу, і ў лес хадзіў, пакуль не згубіў на рацэ, у высокіх трыснягах на беразе Вушачкі. Перажываў, спрабаваў шукаць, але марна.

## Дзённік

Калі болей-меней асвойтаўся і разабраўся, што да чаго, калі па вечарах і начах з'явілася магчымасць заставацца сам-насам у майстэрні, то пачаў рабіць запісы ў вялікі сшытак з кардоннай вокладкай. Чытанне кніжак і пісанне дзённіка — найлепшыя моманты майго вайсковага жыцця. Дзённік пісаў па-беларуску, чорным атрамантам і алоўкам.

Запісваў сны, вершы, будзённыя падзеі, размовы. А таксама пазначаў, каму і што зрабіў... Заўважыў, што калі настрой добры, то почырк роўны, амаль каліграфічны, пішацца лёгка.

Акуратных запісаў у вялікім сшытку было мала. Можа, з дзесяці адзін. Калі атрымаў адпачынак, то сшытак колькі разоў перахоўваў, каб не везці з сабой. Баяўся, што знойдзе начальнік клуба, прачытае. Вярнуўся — дзённік на месцы, пад планшэтам, а на ім дошкі, паверх вёдры з засохлай фарбай. Зноў начыма пачаў рабіць запісы. За месяц да дэмбеля, калі пасварыўся з начальнікам клуба, дзённік, лісты ад бацькоў, сяброў і жонкі — знішчыў, як і некаторыя фотаздымкі.

Памятаю той цёплы вясновы вечар. Памятаю, як гарэлі старонкі з запісамі, датамі, прозвішчамі, вершамі. Кардонная вокладка скруцілася, зрабілася рудой, а потым загарэлася. Паліў на вуліцы, пад вокнамі майстэрні, у бляшанай скрыні. Выкалаціў попел пад бетонны паркан, пачакаў, пакуль бляха астыне, занёс яе ў калідор. Зачыніў майстэрню і пайшоў начаваць у казарму.

Раніцай, салдат, які дзяжурыў у клубе, згадаў, што пасля мяне прыходзіў прапаршчык і доўга сядзеў у майстэрні. Што ён шукаў, што хацеў знайсці?

Маладому салдату даў колькі цыгарэт з фільтрам.

## Сон пра жонку

Перон. Платформа. Зялёны цягнік. Праваднiца прыспешвае, і я заходжу ў вагон. Хутка іду да вакна. Адсоўваю фіранкі. На пероне толькі жонка. Яна глядзіць на мяне. Дастаю з торбы фотаапарат. Пстрыкаю, пстрыкаю... Цягнік торгаецца. Павольна сунецца. Упэўнены, што фотаздымак не атрымаецца, таму апускаю камеру і спрабую запомніць жончын твар, шыю, рукі, вусны... Жонка знікае з кадра. Адно перон. Чорныя шпалы. Гэты сон будзе паўтарацца, а я прахопліваўцца і глядзець у цемру.

